KRYVIČIUS mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ



ГОД 1923

№ 1.

ЧЭРВЕНЬ

# ЗЬМЕСТ № 1.


стр.

1. **Ад Рэдакцыі** . . . . . . . . . . . . . 1.
2. **В. Ластоўскі.** З цыклю „Конадні“ Вясной. На Радуніцу. На каложы у Горадні. Дума на полацкім замчышчы * * * . . . 2.
3. **М. Богдановіч.** Апокрыф . . . . . . . . . . 5.
4. **Власт.** Прыповесьць аб старым мужу і гожай дзеве . . . . 6.
5. **Японскія апавяданьні.** Назораэру. О-Тэі. Ошыдоры. Пахаваная тайна. Дзікінікі. Дыплёмацыя . . . . . . . . . 8.
6. **Юры Верашчака.** Аб найменьнях —„Гуды“—„Крывічы“—„Русь“ . 17.
7. **Лесаўчыкі.** (Z poematu, Władysław IV. etc.) . . . . . . 24.
8. **агашчанін.** Старабеларуская вясковая школа . . . . . 26.
9. **К. Душеўскі.** Беларусь і водка . . . . . . . . . 32.
10. **Ружанцоў.** Два вайсковых статуты . . . . . . . 36.
11. **Брачыслаў Скарыніч.** Думкі і разважаньні: Дзьве праўды. Ці пярэчаць . . . . , . . . . . . . . 39.
12. **Запіскі.** Альгердаўскі пояс.—Манэта тураўскага Князя Сьвятаполка X ст.—Народны падзел паміж беларусамі.—Аб хросным імяні Ягайлы.—Дзевіна гара — Археолёгічныя помнікі Тураўшчыны—Крыж XII ст. Падземны ход. . . . . . . . . 42.
13. **Агляд культурнага жыцьця Беларусі.** Доклад грам. Мелешкі „Каменныя помнікі беларускай старасьвеччыны“. — Беларуская асоцыацыя пры інстытуці С.-Гаспадаркі у Петраградзе. — Беларускія культурна-навуковыя асоцыацыі у Маскве. — Літоўскі статут у Бел. Дзярж. Бібліатэцы. — Рабіндранат Тагор пабеларуску. — Гурток беларускай культуры у Менску. — Разгляд падручнікаў. — Цэнтральны архіў Савецкай Беларусі. — Беларуская Дзяржаўная і Унівэрсытэцкая бібліатэка у Менску. — Становішча архіваў у Вітабску. — Даклад Маслакаўца аб Рагнедзе. — Беларускі краёвы Музэй. — 4-я гадавіна Горацкага С.-Гасп. Інстытуту. — Этнаграфічная экспэдыцыя. — 15 летні юбілей І. Галубка. — Асьвета у Зах. Беларусі. — Школьныя кнігі. — Знайдзены руупісы М. Багдановіча . . . . . . . . . . . . . 44.
14. **Агляд прэсы.** Воўчыя сьлёзы. — Польскія газэты аб усх. граніцах Польшчы. — Літоўская прэса аб пастанове рады паслоў. — Аднаднёўка „Крык Праўды“. — Адкрытыя лісты Тарашкевічу ад Балаховіча і Ладнова. — Скачы ўража, як пан кажа. — Як робіцца польская статыстыка. — Аб асадніцтве. — Другая мазурская калянізацыя. — Апякуны . . . . . . . . . 60.

**С пад Расіі.** Пратэсты супроць прасьледаваньняў беларусаў пад польскай окупацыяй. — XII конфэрэнцыя комуністычнай партыі Беларусі . . . . . . . . . , . . . 56.

**С пад Польшчы.** Працэс 45-х беларусаў. — Сколькі каштуе палякам калянізацыя Беларусі. — Людзі замест коней. . . . 57.

**У Латвіі.** Сход рады беларускага аддзелу. — 2-я Урадовая Беларуская Гімназія. Штандарт беларускім скаўтам . . . . . 58.

**У Літве.** Курсы беларусазнаўства. — Выступленьне Бел. Жан. Гур.— Выстаўка бел. друку. — Бел. вечар Міністэрства Бел. Спраў. . 59.

**З усіх старон.** Чэхословакія. — Беларусы у Амэрыцы. — Выступленьне В. Ластоўскага з Ураду Бел. Нар. Рэспублікі . . 60.

15. **В—т.** Тэрміналёгія да анатоміі і фізыалёгіі . . . . . 62.



Redaktorius-leidejas **K. Duž-Dušauskas.** Рэдактар-выдаве **К. Дуж-Душэўскі.**

„KRYVIČ"

# КРЫВІЧ

МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Пад рэдакцыяй В. ПАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.

Адрэс рэдакцыі: Kaunas, Vitauto prosp. № 30. (Lietuva)

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляра)

Цана нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „ )

Рукапісы рэдакцыя ня вертае і пакідае за сабой права пераробак і скарочаньняў.

| 1923 г. | ЧЭРВЕНЬ | № 1. |
|---|---|---|



## Ад Рэдакцыі.

Прыступаючы да выпуску ў сьвет першай беларускай часопісі пасьвячонай, ў першы чарод, служэньню беларускаму мастацтву і культуры, рэдакцыя мае на мэце ня толькі абслужыць ў роднай мове духовыя выматаньня сярэднага беларускага інтэлігента, але і прылажыць ўсіх высілкаў да шуканьня шляхоў к самаазначаньню Беларусі ў сфэры духовасьці. Увесь час рэвалюцыі ўсе нашы сілы былі сьціраваны ў старану абароны палітычных пазыцый, клалася на гэты бок многа ахвярнай і труднай працы, ніва-ж нашай культурнай працы была пакінута выключна ініцыатыве і засабам паасобных дзеячоў. У выніку атрымалася значнае папярэджаньне працы палітычнай перад культурнаю.

Настаў вялікі час, калі беларускай адраджэнчай думцы, ані на момант не спыняючы ні з якога боку змаганьня, патрэба акапацца на здабытых дагэтуль пазыцыях: прыступіць да творчай працы ў дзедзіне нашага самапазнаньня, самаацэны і самакрытыкі.

На служэньне гэтым мэтам і пасьвячаецца „Крывіч". Цікуючы пастаўленыя мэты „Крывіч" будзе стала памешчаць такія аддзелы:

I. Літэратурны, ў якім знойдуць месца творы нашага пітомага, а такжа лепшыя творы ўсесьветнага, пісьменства.

II. Навукова-крытычны ў якім будуць мець месца зарысы і монаграфіі па беларусаведаньню, па дасьціжэньнях агульна чалавечай навукі, тэхнікі і культуры, і—соцыолёгічны ў духу аб'ектыўнага шуканьня шляхоў да палепшаньня сучаснага грамадзкага ладу.

III. Запіскі.

IV. Аддзел інформацыйны, які будзе мець, па магчымасьці вычэрпываючыя, агляды прэсы сваей і чужой, пасколькі гэта апошняя датычыць

Беларусі; агляд культурнага Беларускага жыцьця; агляд дзейнасьці беларускіх палітычных арганізацый і партый; агляд беларускага грамадзкага жыцьця: пад Расіяй, пад Польшчай, у Літве, ў Латвіі і па ўсім сьвеце і бібліаграфія.

„Крывіч“ — орган не партыйны, а дзеля гэтага старонкі яго адкрыты для кождага хочучага служыць Бацькаўшчыне Беларусі мастака, для кождага аб‘ектыўнага вучонага, для кождага дэмакрата ня воражага вызваленьню Беларусі ад усякіх форм паняволеньня і гвалту.

Пасьвячаючы сябе, ў першы чарод, служэньню беларускай культуры „Крывіч“ будзе аценяць кожды чын, кождую ініцыятыву і праяву грамадзкага беларускага жыцьця з незалежніцкага пункту гледжаньня, цьвёрда веручы, што розквіт беларускай духовасьці магчымы толькі пры поўнай свабодзе нашага народу, выяўленай у сваей ўласнай дзяржаўнасьці.

Каму зразумелы і блізкі нашы імкненьня, заклікаем станавіцца разам з намі да рэальнай працы.

## З Цыклю „КОНАДНІ“

### ВЯСНОЙ.

О, ты!
зямля крыві
і волі маладой
задушанай ў калыбцы.

Дыміць вясной,
густою мглой,
тваіх магілаў-ніў
разор крывёю зьліты.

Дыміць,— ня мглой,—сьлязмі
і жокацьцю
запёкшайся крыві,
што ржавінай рудой
лягла паверх дрыгвы...

На крокацях тваіх вясна
ня ёсьць разросту шал:
сярод багна, сівых амшар,—
ад Радуніц да Гранае,—
марва
трызнуе тут.

У мглах тваіх не пьянь,
а горыч кадзіва чуваць
цемьяна-перных траў
трупехнучых ў альсе.

## НА РАДУНІЦУ.

Над рэчкаю, паміж балот,
магільны груд зямлі;
валтоўкамі заве народ грудкі,
бо волатаў славуты род,
між бронзавых аздоб,
злажыў тут свой прысок.

Вясной,
спраўляючы дзядоў,
мы, жыхары дрыгвін,
сьпяшым яйко разьбітае ўкапаць
на прашчурных касьцях.

А робім то на знак,
што ў нас плыве іх кроў,
што мы,–
даўлетных волатаў,
ў ярме змалеўшыя,–нашчадкі...

---

## НА КАЛОЖЫ Ў ГОРАДНІ.

У час прадаўны,
князгіні апраметнай
багіні Марвы,
быў тут сьвятарны гай.

На клажах з смольных дрэў,
у санях, ці чаўне,
наш прашчую тут гарэў.

Згодам,
падзеяў звыклым ходам,
ў багамільства ўпаўшы сець,
якісь месцовы валадар,
зьбяёдзіў храм.

У сьцены, побач з цэннай
грэцкай плінтай,
паклаў старых багоў аўтар
і прадзедаў сваіх прысок.

Панура зецяць да цяпер,
з амшэлых сьцен,
пустыя жальнікі.

Калі-ж сьвятар ў аўтары запяе,—
у жальніках і вые, і грудзе...

Што значэ гэты разгамон?
Ці то — паган пакайны стогн,
ці мо палайка замагільная,
Пакрыўдна-абурлівая?..

---

**ДУМА НА ПОЛАЦКІМ ЗАМЧЫШЧЫ.**

Цьмы-цьмоў і процьмы лет,
на гэтым копішчы канодным,
складалі Дзеве чэсьць.

„Дзевін“ зваўся грод,
і „Дзевіна“ рака у стоп яго ручэла;
бажніца Дзеве ў чэсьць
на сонцы дахам сьнела,
здобячы сабой накоп.

У бажніцы-ж, перад Дзевы стодам,
хадзілі дзевы карагодам
ў кудзебны тан.

Сьвятарны хор, пявежнай мовай
магутаў племені ўслаўляў.
Зьбіраліся старцы тут
на раду й суд.

І быў нябесны ход
людзкім законам,
змацованым Правечным Конам...

Весь гэты лад пітомы
разбурыў крыжа знак...

Хай так,
а ўсё-ж—на попелі
старэтных стодаў,
пад засьцьцю ценяў іх,—
у почце грэчаскіх сьвятых,
засела Софас;
мейсцовую сабой
зьменяючы Палладу.

---

*
* *

Формаў трупехлых я вораг дасконны,
сьцежак стаптаных ня зношу ў тварэньні;
новым імкненьням даць новыя формы,
новыя словы і дум выражэньня
Стаўлю я мэтай.

*В. ЛАСТОЎСКІ.*

# Апокрыф.

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. І калі скончылася сем тысяч гадоў ад стварэньня сьвету, Хрыстос ізноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым сьведчылі пракокі.

3. І хадзіў ён па ўсяму Забранаму Краю і па Занёманшчыне, і па Задзьвіншчыне і Бярэзінскай зямлі.

4. І разам з ім сьвяты Петра і і сьвяты Юры. Але ніхто з людзей не пазнаваў Яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі з непакрытымі галовамі і былі адзеты ў белы кужаль і суконныя сьвіткі, а не таго спадзеваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва праходзілі між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер ня было чаго рабіць, падышоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоньня дзень працы і ўсе клапоцяцца каля зямлі; адзін я нікчомны чалавек.

8. І сказаў яму Хрыстос: ня смуціся ў сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер, у час жніва! Таму ня сьхіляй нізка галавы тваей, і ня хавай аблічча ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: Надойдзе яму гадзіна горычы — і чым ён разважыць тугу сваю, акром песьні тваей? Як ў дзень смутку, так сама ў дзень радасьці ён прызаве цябе.

10. І навучаючы яго казаў: пад песьні кладуць чалавека ў калыску, і са сьпевамі-ж апускаюць ў магілу яго.

11. Штодзеннымі клопатамі поўніцца жыцьцё людзкое. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават і жабы ў багне, а ці-ж ня лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так навучаў Хрыстос музыку. Але Пётра, пачуўшы словы яго сказаў: Вучыцелю, у гэтай краіне ёсьць людзі; каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сьцісьнецца ад сораму сэрца таго чалавека, каторы, шукаючы скарынкі хлеба, прыдзе з песьняй да іх?

14. І адпавядаючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ пазбавіць іх красы! Мала дадзена ім — няўжо-ж трэба каб было яшчэ менш?

15. І, абярнуўшы аблічча сваё да музыкі. спытаў: калі пяюць песьні у вас?

16. Музыка адказаў: пяюць на Каляды, на Багускі, на Вялікдзень, на Тройцу на Яна Купалу, ў Пятроўкі, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць дзяцё калыхаючы і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і на вясельлях, і на хаўўтурах, і ў бясёдзе, і пры працы, і на вайну ідучы, і ва ўсякай іншай прыгодзе. Увесь круглы год пяюць.

18. І мовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы галодных людзей, асудзіў песьню, але самі галадаючыя не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай-жа ў песьнях будзе страва для душы, няхай будуць думкі добрыя і навучаючыя, каб акром красы меўся ў іх пажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без пажытку, бо сама краса і ёсьць той пажытак для душы.

21. І навучаючы іх мовіў: агляніцеся навокал! Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка каля яе працаваў гаспадар і, вось, бачыць: паміж збожжа узрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўнаважкія каласы маглі-бы ўзрасьці тут заместа васількаў.

24. Але, яшчэ з малалецьця краса іх прышлася мне да душы. І таму я ня вырву з каранём іх і ня выпляню, як ўсякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

26. Так казаў сабе гаспадар у сэрцы сваім! І не падняў ён рукі на васількі. Я-ж кажу вам: добра быць коласам; але шчасьліў той каму дадзена быць васількам. Бо нашто каласы, калі няма васількаў?

27. І кажучы так пачуў ён песьню жнеяк, і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, якія ведаюць чаго варты хлеб.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: німа лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі, на цёплым, мяккім пыле дарогі, сьляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амін.[1])

Рукапісь гэты адшукаў *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ.*

---

## Прыповесьць аб старым мужу і гожай дзеве.

Быў муж яры, векам стары, барадой сівы, косьцю харобр, сэрцам горач. І была дзева малада, гожа, як у садзе рожа. Стаў стары муж сватацца да гожай, маладой дзевы кажучы:

„Пайдзі за мяне, дзевухна, замуж, — будзеш мець слуг і служак многа і коней“і адзеньня дарагога; будзеш у саетах хадзіць і піць і есьць і вясяліцца.

І сказала дзева старому мужу:

„О, неразумны стары дзеду, сівабароды. Калі мяне, маладу дзеву, возьмеш замуж за сябе, жывату майму будзеш няўцеха; сэрца тваё амягне, вочы памеркнуць, сьцягны аслабеюць, косьці ссохнуць, сівізна пажаўцее і нягодзен станеш ты моладасьці маей. Пры табе старым я сама зашчырэю, а сэрцам разгарэю і, ад распаленьня натуры, шукаць іму сабе ўцехі любіцельнай: маладога юнака, добрага малойца і ташнату маю развадзіць стану з ім, а не з табой старым смэрдам“.

---

[1]) Перадрук зроблены з „Калядная пісанкі 1913 г. Вільня, друкарня Кухты“, на якім, рукой нябошчыка Максіма Багдановіча, пароблены папраўкі, а на пачатку напісана: „Дарагі Вацлаве, калі здарыцца перадруковываць, то друкуйце з гэтымі папраўкамі. Максім.“ Папраўляены экзэмпляр перасланы быў мне ў Вільню і, дагэтуль, паміма ўсіх бур перажытых маімі архівамі, неяк здолеў ацалець паміж паперамі. *В. ЛАСТКОЎСКІ.*

І адказаў стары муж дзеве:

„На што, дзевухна, жоросткімі словамі мяне, як дрэва лістам укрыла? У дому ў мяне паняй станеш, -- усяку роскаш і выгоду мець будзеш. Сядзеш, мая міла, ў мураваным палацы на многацэнных кілімах, прыбяру цябе, як чысту краску ў полі, як паву птаху дзіўную, як рэку Бярозу пры дуброве, між горкамі. Спачываць у мяне будзеш на пярынах двойчатых, пад чырвонымі кітайкамі. Піць і есьць са мной будзеш многаякія асалодлівы стравы. А схочаш весяліцца—ўстрою банкет і зьвялю ўсяку пацеху іграці і гусельнікам, і трубнікам, і гожым ладам дзеўчатам прад табой тан вясьці харавадлівы, і пачну цябе цешыць і не дам жывату твайму ташніцца па ўсе дні. А ня схочаш воляй пайсьці за мяне,—бацьку твайго, і маці тваю, абдарую дарамі многацэннымі і яны цябе прыняволяць тады“.

І сказала яму дзева:

„А калі адалееш айца майго і маці маю многацэннымі дарамі і выдадуць мяне прымусам, я тады буду ўсё чыніць не па твайму хаценьню, а супроць тваей волі. Слоў тваіх не паслухаю і вяленьня твайго ня споўню: калі скажаш рабіць кісла—зраблю прэсна, а мяккога табе хлеба ў мяне не пытаць, будзеш, стары сьмэрдзе, скарынкі глыдаць. Затое добраму малойцу, свайму парадніку, мяккія, крупчатыя пірагі пастаўлю, ды дулі на талерку, ды віно ў кубку, а зьверх таго яму лебяжа пярынка пад бок, чыжовая падушка пад голаў, саболяе акрывала паверх, ды я, сама малада, поплеч. А табе, старому смэрду, спаць у мяне на памосьце ў кутніку. Стаяць я буду прад мілым малойцам з трывогай ды з боязьню, каб мяне мілы любіў. Мамкі і нянькі будуць мілага на руках насіць, а табе, старому смэрду, ванючаму духу, пабярэшчанай хары, татарскай патыліцы, вісільніцкай шыі, сомавай губе, ракавым вачам, апухлым пятам, сіняму бруху, зрэбнай барадзе, жоўтай сівізьне, гнілой сьмятане, сядзець на печы;—каб у цябе, смэрда, ў шыі скрыпела, ў горлі хрыпела! Каб жыў ты, што жук убалоце, што жаўна ў дзюпле, што чарвяк за карой, што сьвяршчок за печчу“.

І кажа стары муж:

„Калі ты, дзевухна, за мной будзеш,—ты такой ня будзеш“.

Ды пачаў стары муж сватацца; палавіну маетнасьці прасьвістаў пакуль за сябе маладу дзеву ўзяў.

І сталася малада, гожа жонка старому—дзенная і ночная турбота ды косьцям сухота. Ад людзей стары муж уцякае, што маладу жонку мае, у бясёдзе не сядзе, да людзей не прыстане, на кождага маладога крыва гляне, як ліхі сабака з-пад лаўкі; не гаворыць, дзьмецца... Сам сабе абрыд стары смэрд і, на трэці год, павесіўся.

А малада дзева вышла замуж за добрага малойца, праклінаючы старога, мілуючы любога.

Старыя мужы! да вас мова: ў спакоі век жывіце, маладых жонак не бярыце.

Гэтай прыповесьці канец; дзевам гожым чэсьць і слава, а мне каравай сала.

*ВЛАСТ.*

# Японскія апавяданьні.

## Назораэру.

У Японіі вялікае значэньне прывязваюць да сьвядомай мысьлі, сьвядомай сільнай пастановы, сьвядомага сілнага жаданьня чалавечага. На гэтым апіраецца вера, што гэткае жаданьне, або пастанова варты гэтулькі-ж, як і сам чын, каторы мы хацелі-б зрабіць, каб здолелі. Іначай кажучы—добрая і наскрозь шчырая воля зрабіць што небудзь, лічыцца там гэтулькі-ж вартай як і сама работа, як дакананы чын.

Скажам, што нехта ня можа пабудаваць буддыйскай сьвятыні—пагоды—бо на гэткую справу ён за бедны. Але калі ў яго ёсць крэпкае жаданьне пабудаваць пагоду, ён можа перад фігурай Будды (заснаўнік Буддыйскай веры) палажыць камянь, маючы ў душы тое высокае пачуваньне, што як-бы ён меў спрамогу, то пабудаваў-бы самую прыгожую пагоду. І гэты мала варты камянь будзе такой заслугай, як і пабудаваньне ўсей сьвятыні.

Возьмем другі прыклад. Вы ня можаце прачытаць усіх томаў буддыйскага сьвятога пісаньня,—а іх ёсьць шэсьць тысяч семсот семдзесят адзін том—але вы можаце знарок зрабіць паліцу на гэты кніжкі з тым сьвятым жаданьням, што каб вы маглі, то ўсе тыя кнігі прачыталі-бы. І заслуга ваша будзе такая, якбы вы і запраўды прачыталі.

Гэткае наскрозь шчырае жаданьне, якое пры нестачы магчымасьці, выяўляе чалавек меньшым чынам, называецца па японску „назораэру“.

Рэчь пэўная, што гэткае паняцьце мае для жыцьця вялікае значэньне—яно ўзвышае душу. У першы чарод кладзецца вага на добрую і шчырую волю, нават тады, калі-б гэтай добрай волі нельга было ўцелаісьціць. І тую добрую волю, тыя ўзвышанныя пажаданьні і пачуваньні песьцяцца там, ў душы, нават тады, калі ў чалавека няма спрамогі зрабіць вялікай добрай справы. А дзе ёсць гэткія пачуваньні, там павінны яны праяўляць свой ўплыў на паступаньне чалавека — нават ў тых рэчах, якія чалавек сьвядома не вяжа з яго высокімі жаданьнямі і пачуваньнямі.

Ды паняцьце „назораэру“ шмат шырэйшае. Калі да вас ўлезе злодзей і ўкрадзе вашы рэчы, а вам удасцца ў садзе знайсьці сьлед яго ног, то вы бярэце травы з яго сьледа і паліце з тэй думкай, што гэта вы пячэце яго самога. Тады яго подошвы павінны так распаліцца, што ён датуль ня будзе мець супакою, пакуль ня прыдзе і ня прызнаецца. Падобных прыкладаў можна знайсьці багата.

Сіла мысьлі можа, ў разуменьні японцаў, мець значэньне і па сьмерці чалавека. Калі нехта паміраe з сільнай пастановай, што па сьмерці павінен зрабіць камусь добры учынак, або памсьціцца за крыўду, то можна быць пэўным, што ён гэта споўніць.

На аснове гэтага пянацьця складаецца ў Японіі шмат пекных апавяданьняў, з якіх некалькі мы тут падаем.

## О—Тэі.

Многа лет таму назад жыў у горадзе Нігатта, ў правінцыі Ечызан, малады хлапец па імені Нагао-Чозэй.

Бацька Чозэя быў доктарам. Сам Чозэй спасобіўся таксама на доктара.

У японіі ёсьць звычай, што сваякі заручаюць малых дзяцей. От-жа і малога Чозея былі заручыўшы з дзяўчынкай, па імені О-тэі. Бацька яе быў прыьцелям бацькі малога Чозея.

Абедзьве стараны пастанавілі, што вясельля адбудзецца, як толькі Чозэй закончыць навуку.

Але О-Тэі была вельмі хваравітай дзяўчынкай, а на пятнаццатым годзе занядужала на сухоты. Чуючы, што сьмерць набліжаецца, яна паклікала свайго нарачонага каб пагаварыць з ім.

Калі Чозэй прышоў, яна сказала:

— Слухай Нагао-Чозэй: нас яшчэ ў маленьстве празначылі адно для другога і ў канцы гэтага году мы-бы пажаніліся. Але мне суджана памерці. Багі лепш ведаюць, што нам патрэба. Калі-б я нават пражыла яшчэ некалькі гадоў то прычыніла-бы табе толькі шмат гора і смутку. Гэткая слабая і няўдольная, як я цяпер—ня была-б я табе добрай жонкай і не разумна было-б з маей стараны хацець адцягнуць сьмерць. Дзеля гэтага я гатова памерці і хацелабы ад цябе аднаго: каб ты мне абецаў, што ня вельмі будзеш мяне шкадаваць і ўбівацца... Ды яшчэ, вось што хачу сказаць — мы яшчэ сустрэцімся...

— Так, сустрэцімся ў тым чыстым сьвеце, дзе німа ні сьлёз, ні разлукі—сказаў паважна Чозэй.

— О, не! не,—перапыніла яна. — Я думаю не аб вышэйшым сьвеце. Я пэўна, што нам суджана сустрэцца тут, на зямлі, ня глядзячы на тое, што заўтра мяне пахаваюць.

Чозэй зьдзіўлены паглядзеў на яе, а яна ўсьміхнулася да яго і казала далей:

— Так! Сустрэцімся на гэтым зямельным сьвеце, ў тваім праўдзівым жыцьці... Але ты павінен гэтага хацець Нагао—Чозэй... Дзеля гэтага я мушу ізноў нарадзіцца, вырасьці і стаць узрослай кабетай. Трэба будзе табе чакаць гадоў пятнаццаць—шаснаццаць. Праўда, доўга яно... Усё-ж ткі, мой любы, табе цяпер ледзь дзевятнаццаць гадоў...

Хочучы пацешыць уміраючую нарачуную, ён чула адказаў:

— Ждаць на цябе—гэта ня толькі мой абавязак, але і радасьць. Але...

— Няўжо-ж ты ня верыш?—запыталася дзяўчына.

— Мая даражэнькая! — адказаў ён, – я сумлеваюся, бо ня ведаю ці спазнаю цябе, калі пабачу ў іншым выглядзе, пад іншым імем. Хіба ты павінна даць мне які знак.

— Не, гэтага я не магу,—сказала дзяўчына.—Толькі багі Будды ведаюць, дзе і як мы сустрэнемся. Але я ведаю, пэўна ведаю, што вярнуся да цябе, калі ты толькі таго захочаш... Памятай мае словы...

Яна змоўкла, сплюснула вочы і памерла.

---

Чозэй надзвычайна любіў О—Тэі і цяпер жаль яго быў вельмі вялікі. Ён зрабіў дашчэчку з яе зямным імем і схаваў ў дамовай сваей бажніцы і кождага дня ставіў перад ёй дарункі. Між тым не раз застанаўляўся над таёмнымі словамі, якія сказала яму перад сьмерцью О—Тэі. Каб пацешыць яе душу ён напісаў урочыстае абяцаньне, што ажэніцца з ей, як толькі яна калінебудзь да яго вернецца. Гэнае абяцаньне ён запячатаў асобнай пячаткай і палажыў у бажніцу, побач дашчэчкі О—Тэй.

Час ішоў. Чозэй быў адзінцом і астацца яму ня жанатым было не прыстойна. Сваякі пачалі на яго налягаць, каб жаніўся і ён ўрэшце—рэшт паддаўся іхнім намовам. Бацька выбраў яму дзяўчыну з якой ён і павянчаўся.

Усё—ж такі і пасьля жаніцьбы ён не перастаў ставіць дараў перад

памятнай дашчэчкай О—Тэі і, заўсёды, сэрдэчна спамінаў аб ёй. Але з часам памяць стала слабець, вянуць, як сон які з трудом спамінаецца яму О—Тэі. А гады плылі...

За той час прышлося яму пераҗыць цімала злыбяды. Памерлі бацькі, пазьней жонка, а за ёй памер сын. Ен астаўся сам адзін на сьвеце.

Каб развеяць тугу, ён пакінуў апусьцелы дом і пашоў падарожнічаць па сьвеце. Чужыя людзі, чужая старана змяншаюць духовыя болі.

---

Подарожнічаючы апынуўся ён у мястэчку, пабудаванымъ на горах, якое называлася Ікао. Гэтае мястэчка шырока вядома лячомымі водамі і харастьвом прыроды.

Каб адпачыць, зайшоў ён у заезд. Але якое-ж было яго зьдзіўленьня, калі пабачыў там дзяўчыну, которая была саўсім падобна да О—Тэі. Сэрца яго забілася так, як ня білася ўжо доўгія годы. Дзяўчына была так падобна на колішнюю яго нарачоную, як бытцам гэта была яна сама. Ен падумаў, нават, ці гэта ня сон. А дзяўчына ўходзіла, выходзіла, прынасіла стравы, прыбірала—і кожды яе рух выклікаў у яго спамін аб тэй, з якой ён быў заручаны.

Ўрэшце ён загаварыў да яе. І што-ж? Голас ея быў голасам О—Тэі— звонкі, чароўны, мілагучны і адначасна сумны.

Ўрэшце ён пастанавіў запытацца яе, хто яна такая? І сказаў:

— Сястрыца! Ты так падобна да дзяўчынкі, якую я даўно знаў і я нават вельмі зьдзівіўся, калі ты першы раз увайшла ў гасподу. Скажы дзе ты радзілася, як тваё імя?

Дзяўчына глянула на яго ўважна, задумалася і пасьля сказала:

— Маё імя О—Тэі. А ты Нагао—Чозэй з Ечызан, мой нарачоны. Семнаццаць гадоў назад, я памерла у Нігаті, а ты прырок, што ажэнішся са мной, калі я ізноў вярнуся на гэты сьвет. Ты напісаў абяцаньне, запячатаў сваей пячаткай і палажыў у бажніцу побач памятнай дашчэчкі, на якой на напісана маё імя. І дзеля гэтага я вярнулася.

Сказаўшы гэта дзяўчына самлела.

---

Чозэй з ёй ажаніўся і жыцьцё іх было вельмі шчасьлівае. Але О—Тэі не магла ніяк сабе прыпомныць таго, што сказала Чозэю ў Ікао; не магла таксама прыпомніць, што калі-небудзь перад тым жыла на сьвеце. Памяць аб папярэднім жыцьці, якая была прышоўшы на момант, пры сустрэчы з з даўным сваім нарачоным, пагасла на заўсёды.

**Ошыдоры.**

З давён даўна „ошыдоры“, гатунак дзікіх качак, уважаліся на Усходзе прыкладам сужэнскае прывязаннасьці.

Аб ошыдоры істнуе гэткае апавяданьне:

У ваколіцах Тамура-Но-Го, ў прывінцыі Мутсу, жыў лавец Санджо.

Раз пашоў ён на ўловы. Але дзень мінуў і ён не забіў ніякай дзічыны. Калі вяртаўся назад і пераежджаў рэчку ў мясцовасьці Акануме, пабачыў плаваючых пару ошыдораў.

Грэх забіваць ошыдоры, але Санджо быў гэткі галодны, што адважыўся ў іх выстраліць. Страла трапіла ў самца. Саміца-ж схавалася на другім беразе ў чароце. Санджо забраў з сабою забітага птаха і дома сьпёк на

вячэру.

Ноччу прысьніўся яму страшны сон. Бытцам у яго сьвятліцу увайшла пекная маладзіца і падышоўшы да пасьцелі залілася сьлязмі. Яна так рэўна плакала, што Санджу здавалася бытцам яго сэрца рвецца на часьці.

І маладзіца сказала яму:

— Зашто-ж ты яго забіў? Чым ён табе правініўся? Мы-ж былі так шчасьлівы ў нашым родным Акануме, а ты нас разлучыў!.. Што ён благога табе зрабіў? Ці разумееш, што ты зрабіў? Не, ты ня ведаеш, якое гэна страшное... Ты забіў ня толькі яго, але таксама мяне, бо без яго мне годзі жыць... Я прышла сюды толькі таму, каб табе гэта сказаць...

І яна ізноў заплакала так жаласьліва, што лавец ледзь вытрымаў ад болесьці. Яе дрыжачыя вусны прашапталі во гэты словы:

Ледзьве стала зьмеркаці
Я яго прасіла,
Каб дамоўкі павертаці —
Ноч травіцу арасіла.
А цяпер ў Акануме
Вецяр жаласна заводзіць,
Я-ж гарую у задуме
Што мой мілы ня прыходзіць.
У жыцьці маім зіма —
Я навекі ўжо сама!
На векі! На векі сама!...

— Ты ня ведаеш, ты ня ведаеш, што ты зрабіў! Але, заўтра, калі прыдзеш ў Аканум, ты пабачыш і зразумееш...

І зьнікла няўдзержна плачучы.

Рана прабудзіўся Санджо, ўспомніў сон і доўга аб ім думаў. Ён прыпомніў словы: „але заўтра, калі прыдзеш ў Аканум ты побачыш і зразумееш“... І ён пашоў ў Аканум, каб пераканацца ці сон яго меў якое значэньне.

Калі прышоў да берага ракі, ён пабачыў самачку ошыдоры, якая адна плавала па вадзе. У гэты момант і яна яго пабачыла. Але замест уцякаць, яна падплыла да яго яшчэ бліжэй, ня спускаючы з яго вачэй. Нараз спынілася, дзюбай раздзерла сабе грудзі і сканала ў яго на вачах.

Гэта так парушыла Санджо, што ён абгаліў сабе галаву і стаўся манахам.

### Пахаваная тайна.

Даўно, даўно жыў у правінцыі Тамба багаты купец, Інамурая Гэнсуке, з дачкой, якая звалася О-Сано, пекнай і разумнай дзяўчынкай. Ён адаслаў дзяўчынку ў вялікі горад, Кіото, каб там магла набыць ўсіх тых навук, якія мае места, а якіх ня мае вясковая школа.

Калі дзяўчына скончыла школу, яна вышла замуж за купца Нагорая і пражыла з ім вельмі шчасьліва чатыры гады. Было ў іх дзіцятка-сынок. Але на чацьвертым годзе замужжа О-Сано занядужала і памерла.

На другі дзень, пасьля яе похаранаў, малы сынок расказаў, што маці вярнулася і ёсць у сваей сьвятліцы. Ён бачыў яе там. Яна ўсьміхнулася да яго, але нічога ня сказала. Ён спужаўся і ўцёк.

Чуючы гэта, старэйшыя дамоўцы пашлі ў сьвятліцу, якая нядаўна належала да маці хлопчыка. І што-ж? Пры сьвятле лямпы, што цеплілася

перад дамовым аўтаром, яны пабачылі ўмершую. Яна стаяла перад шафай, дзе была яе адзежа і каштоўнасьці. Галава і плечы былі выразна відаць, а ногі бытцам расплываліся і губіліся у нейкім тумане. Яна выглядала, як сьвяны партрэт, празора, як цень на вадзе.

Пабачыўшы яе дамоўцы перапужаліся і скора сабраліся ды зачалі раіцца, што рабіць.

— Кабеты любяць свае рэчы, — сказала свекра. — Любіла іх і О-Сана. Можа быць, што яна вярнулася, каб яшчэ раз імі пацешыцца. Гэтак бывае часам, пакуль не аддасцца рэчаў ў царкву. Я думаю, што трэба аднясьці у царкву адзежу і паясы, тады дух яе супакоіцца.

Усе з тым згодзіліся і пастанавілі зрабіць гэта чым барджэй. На другі дзень выбралі усё с шафы і аднясьлі ў царкву. Аднак-жа вечарам О-Сано зноў зьявілася і стаяла, як сьпярша, ня спускаючы вачэй з шафы. Трэцяга вечара ізноў зьявілася, чацьвертага ізноў і на дамоўцаў напаў страх.

---

Сьвекра О-Саны пашла ў царкву, расказала усё духоўніку і прасіла рады. Была гэта пагода сэкты Зэн, а духоўнікам быў разумны старац Дайгэн-Ошо.

— Штось павінна быць ў шафе, або каля яе, што трывожыць нябошчыцу,—сказаў старац.

— Мы ўсё выбралі с шафы—зказала сьвекра—шафа парожная.

—Добра—сказаў манах—сягоньня вечарам прыду і перабуду ноч у яе сьвятліцы, то можа выясьню гэту дзіўную прыгоду. А вы падбайце, каб да мяне ніхто ня ўходзіў, хіба калі-б я каго паклікаў.

Калі зайшло сонца, Дяйгэн-Ошо прышоў у дом памершай. Для яго была прыгатавана сьвятліца. Апынуўшыся ў сьвятліцы сам адзін, ён пачаў чытаць сваё сьвятое пісьмо—Сутры. Усе было ціха да першых пеўняў. Калі, адразу, перад шафай стала віdочна пастава О-Сано. Выраз твары быў зажураны, яна ўзіралася на шафу.

Манах адчытаў празначаныя на гэткія здарэньні малітвы, паўтарыў пасьмертнае імя О-Саны і сказаў:

Я прышоў сюды, каб табе памагчы. Магчыма, што ў шафе схавана нешта, што цябе трывожыць. Ці можна мне пашукаць?

Відаць было, што прывід кіўнуў злегка галавой на знак згоды.

Цяпер старац пашукаў у адным месцы — нічога. Пашукаў у другім, трэцім—ўсюды парожна. І сьледу ня відаць, каб магло быць дзе што захаванае. А прывід ня спускаў вачэй с шафы.

— Чаго-ж ей трэба?—падумаў манах. А ці німа чаго пад паперай, катораю высланы шуфляды.

І ён падняў адну паперу—німа нічога. Падняў другую, трэцюю, чацьвертую—і тут знашоў пісьмо.

— Ці гэты ліст непакоіць цябе?—спытаў ён.

Памершая не звадзіла вачэй з ліста

— Ці спаліць яго?—спытаў ён.

Яна ў адповедзь нізка накланілася.

— Я раніцай спалю ліст ў царкве і ніхто не прачытае яго, акром мяне.

Аблічча нябошчыцы засьвяцілася радасьцю і прывід зьнік.

Ужо пачынала днець, калі старац увашоў да нецярпліва чакаўшых

яго дамоўцаў.

— Ня бойцеся—сказаў ён—яна ўжо больш ня прыдзе!

Так яно і было

Раніцай манах спаліў пісьмо ў царкве. Гэта быў мілосны ліст — яго О-Сана атрымала ад кагосьці, калі вучылася ў Кіото. Але зьместу яго не даведаўся ніхто, акром мніха і тайна памерла разам з ім.

**Дзінінікі.**

Падарожуючы па правінцыі духоўнік сэкты Зэн—Муза-Кокушы, заблудзіўся ў пустынных горных дарогах. Доўга блукаўся ён па горах і ўрэшце страціў надзею знайсьці людзкую сялібу, перад наступленьнемъ ночы.

Ажно, нараз, на версе гары, асьвечанай апошнімі праменямі захадзячага сонца пабачыў ён „анджытсу“—хацінку пустэльніка. Хацінка была невялічкая і ня вельмі старая. Падарожны сьціраваўся да яе і пабачыў, што ў ёй жыве стары мніх-пустэльнік, якога ён папрасіў прыняць яго нанач.

Але мніх не здаволіў яго просьбы. У хацінку падарожнага ён не прыняў, а толькі паказаў дарогу да вёскі, распаложанай ў даліне, кажучы, што там яго прымуць і накормяць.

Муза пашоў паказанай дарогай і небавам дайшоў да вёскі, зложанай з нешмат хацін. У доме вясковага старасты яго рада прынялі.

У хаце, ў якую Муза ўвашоў, застаў ён сорак душ людзей. Небавам прыгатавалі яму асобную сьвятлічку і вячэру. Ен быў змучаны і хутка лёг спаць.

Яшчэ не прышла поўнач, як яго разбудзіў голасны плач, што далятаў з суседняй сьвятліцы. Адчыніліся дзьверы, увашоў малады чалавек з ліхтаром, паважна яму пакланіўся і сказаў:

— Шанаблівы наш госьцю! Я прышоў выпаўніць сумны абавязак і сказаць, што ад гэтага часу я гаспадар гэтага дому. Учора я быў тут толькі старшым сынам. Але калі вы прышлі сюды гэткіе стомленыя дарогай, мы не хацелі Вас трывожыць і, дзеля таго, не сказалі Вам, што наш бацька памёр, ледзьве некалькі гадзін перад вашым прыходам. Людзі, которых вы бачылі ў хаце, гэта нашы аднасельцы. Яны сабраліся каб аддаць нябошчыку апошнюю паслугу.

— То вы пэўна зьбіраецеся хаваць нябошчыка?—спытаў Муза.

— Не, адказаў чалавек,—цяпер усе зьбіраюцца ў суседнюю вёску, адлеглую на тры мілі адгэтуль, бо гэткі ў нас звычай. Ніхто не павінен заставацца ў вёсцы, пасьля чыей-будзь сьмерці. Цяпер мы зложам патрэбныя жэртвы і адмовім устаноўленыя звычаем модлы і выйдзем, пакідаючы аднаго нябошчыка.

Зьдзівіўся Муза і сказаў:

— Дзіўны у вас звычай. Ці не сказаў-бы ты мне аб ім штоколечы болей.

І чалавек сказаў:

У доме, дзе ляжыць цела, дзеюцца незразумелыя дзівы і дзеля гэтага раджу, каб і вы ішлі разам з намі. Там мы знойдзем для вас начлег. А можа быць, што вы, будучы духоўнікам, не баецеся злых... Калі так, то аставайцеся ў нашым убогім доме. Але кажу вам наперад, што толькі хіба духоўная асоба можа правясьці тут ноч.

І манах адказаў:

— Са шчырай душы дзякую за дабрату, і гасьціннасьць. Шкада, што вы раней не сказалі аб сьмерці свайго бацькі. Хоць я і змучаны быў, то ўсё-ж не так, каб ня мог споўніць абвязкаў духоўніка. Каб я раней ведаў я-бы дагэтуль споўніў ўсе абрады. Цяпер-жа я выпаўню іх ў час вашай нябытнасьці і правяду ноч на малітве. Мне не саўсім зразумелы ваш страх, але я не баюся злых духаў, ні прывідаў. Дзеля гэтага і вы аба мне ня трывожцеся.

Маладога чалавека вельмі абрадавала гэткая гутарка і ён падзякаваў мніху, як таго вымагае японскі звычай. Даведаўшыся аб абецаньні мніха другія дамоўнікі прышлі засьведчыць яму сваю падзяку.

— А цяпер—сказаў гаспадар дому—мы павінны пакінуць вас, наш паважаны госьцю. Да пабачаньня! Паводле звычаю нашай вёскі—ніхто ня сьмее астацца тут, пасьля поўначы. Дык самі аб сабе дбайце, бо мы гэтай ночы ня можам выпаўніць лежачага на нас абавязку гасьціннасьці. А калі вернемся зрабіце ласку расказаць нам усё што ўбачыце і пачуеце гэтае ночы.

І ўсе вышлі з дому і з вёскі. Мніх астаўся адзін з мярцом.

Перад нябошчыкам былі разстаўлены жэртвы і цепліўся малы буддыйскі сьвяцец. Мніх прачытаў Сутры, адправіў заўпакойную і аддаўся задуме. Гэтак прасядзеў ён дзьве гадзіны і, з апусьцеўшай вёскі, да яго не даляцеў ані слабы голас.

Але калі здавалася, што ночная цішь стала незвычайна глыбокай, ў сьвятліцы бяз ніякага шэлясту паказаўся аграмадзісты, не зусім ясны прывід. Раптам Муза пачуў, што ня можа ні зварухнуцца, ні прамовіць, Далей ён пабачыў, як прывід кінуўся на мярца, абхапіў яго бытцам рукамі і пачаў борзда жорці, як кот мышу, пачынаючы ад галавы.

Нічога не асталося,—ні валасоў, ні касьцей, ні адзеньня. Зьеўшы нябошчыка пачвара кінулася на жэртвы і зьела іх ў адзін міг. Пасля гэтага ён зьнік бяз ніякага ня то грокату, але і найлягчэйшага шэлясту.

---

Калі на другі дзень вярнуліся сяляне, то засталі мніха перад домам. Прывітаўшы яго, яны ўвайшлі ў дом, аглянуліся, але тое, што ня было нябошчыка іх ані ня зьдзівіла.

— Сьвяты ойчэ,—зьвярнуўся гаспадар дому да мніха, вы, мабыць, у ночы бачылі багата страшнога? Мы ўсе непакоіліся аб вас. А цяпер мы рады, што вы жывы і здаровы. Мы ахвотна-бы асталіся з вамі, каб гэта можна было. Але як я ўжо сказаў, закон нашага сяла наказуе ўсім выходзіць на нач, пасьля таго, як у нас хто памрэ. Калі-ж хто не спаўняў таго закону бывалі вялікія нясчасьці. Калі-ж яго выпаўнялі, то труп і жэртва счазалі. А цяпер, можа вы і ведаеця, што тут бывае.

Муза расказаў ім аб прывідзе, няяснымъ і страшным, што бяз голасу і шэлясту зьявіўся і зьеў трупа і жэртвы. Але яго апавяданьне нікога ня здьзівіла.

— Усё, што вы апавядаеця,—сказаў гаспадар дому,—згаджаецца саўсім з даўнымі пераказамі нашай вёскі.

— А чаму-ж пустэльнік-мніхъ што жыве ў хацінцы на нядалёкай гарэ, ніколі ня прыходзіць спаўняць пахавальныхъ абрадаў.

— Пустэльнік-мніх?—зьдзіўлена сказаў малады чалавек.

— Так! Той, што ўчора вечарам ськіваваў мяне да вас,—адказаў Муза.— Я пастукаў да яго ў дзьверы, а ён ня хацеў мяне прыняць і паказаў мне дарогу сюды.

Зьдзіўленыя сяляне пераглянуліся паміж сабой і, пасьля доўгай маўчанкі, гаспадар дому сказаў:

На тэй гарэ німа ані пустэльніка, ані хаткі, сьвяты ойчэ. Ужо ад некалькіх пакаленьняў у нашай вёсцы німа сталага духоўніка.

Муза ня сказаў нічога. Ен зразумеў, што добрыя людзі лічаць пустэльніка ачмараным злымі духамі. Разьвітаўшыся з імі і, распытаўшы аб далейшай дарозе, Муза пастанавіў яшчэ раз пайсьці на вяршыну гары, каб пераканацца, ці знойдзе там хатку, а калі не, то будзе ведаць што гэта была ачмара злога духа.

Ён бяз труда знашоў старую хацінку і цяпер, старац пустэльнік, пакорна скланіўся яму да зямлі і сказаў:

— Ах, мне так сорамна, так сорамна!

Чаму,—сказаў Муза,—ці таму, што вы ўчора мяне ня прынялі нанач? Нічога тут благога. Вы ськіравалі мяне на дарогу ў вёску, дзе мяне вельмі рада прымалі. І за гэта Вам вельмі дзякую.

— Я ня магу нікога прымаць,—адказаў пустэльнік.—І мне ня таму сорамна, што я вас не ўпусьціў да сябе. Мне таму сорамна, што вы бачылі мяне ў маей запраўднай цяперашняй подабі; бо гэта-ж я мінулай начы перад вашымі вачыма зьеў трупа і жэртвы. Ведай, сьвяты ойчэ, што я людаед—дзікіннікі. Злітуйся нада-мною і дазволь адкрыць перад табой той грэх, за які я засуджан на гэткае ганебнае істнаваньне.

І пустэльнік расказаў:

Шмат лет таму назад, калі я быў духоўнікам у гэтых дзікіх краёх, на многа міль наўкруг ня было другога духоўніка і ўсіх нябошчыкаў прывазілі да мяне, часта здалёку, дзеля адправы пахавальных модлаў і абрадаў. Але я малітвы чытаў лёгкадушна, думаючы толькі аб смачных стравах і даходах, якія даваў мне духоўны стан. І от за гэты грахі, я па сьмерці перарадзіўся у дзікіннікі. С таго часу я засуджан на тое, каб карміцца трупамі ў гэтай вёсцы. Я павінен усіх пажыраць так, як вы бачылі мінулай ночы... Малю вас, ойчэ, прачытайце для мяне сьвятыя малітвы. Памажыце мне вашай як найхутчэй звольніцца ад гэткай цяжкай кары.

Сказаўшы гэта, пустэльнік счэз, а разам з ім і яго хатка.

Муза астаўся адзін, на каленях ў высокай траве, перад паросшай мохам старой магілай, магілай духоўніка з пяці камянёў.

### Дыплёмацыя.

Кара павінна была адбывацца ў судзе, каля гасподы дайміоса.

Засуджанага прывялі і паставілі на калені, на роўнай зямлі, агароджанай камяннымі плітамі. Яму скруцілі назад рукі, прынясьлі вёдры з вадой, а такжа мяшкі, напоўненыя камянямі. Стаячага на каленях аблажылі мяшкамі і сьціснулі так, што ён ня мог кранулцца.

Прышоў самурай, азірнуў прыгатаванае, пахваліў, што ўсё добра, не зрабіўшы нікому ніводнай увагі.

Раптам засуджаны крыкнуў да самурая:

— Праступак, за які мяне судзілі, я споўніў нясьведама, ня ўмысна. Тут віна мая неразвага. Па праву Кармі я радзіўся няразумным на сьвет і дзеля гэтага часта памыляўся. Але ня справядліва забіваць чалавека за яго глупоту і гэта няспраўядлівасьць павінна быць пакарна. Яе чакае помста. І тая помста такая пэўная, як мая сьмерць. Нянавісьць, якую вы распа-

лілі, зродзіць помсту, за зло заплаціцца злом.

На Усходзе ёсьць вера ў тое, што небасьпечна забіваць чалавека, якога душа поўна нянавісьці і злосьці: дух яго можа памсьціцца на тым, каго ён лічыць вінным у сваей сьмерці.

Самурай ведаў гэта. І лагодна, бытцам заікаючыся, сказаў:

Па сваей сьмерці можаш пужаць нас сколькі хочаш. Але я ня веру, што ты запраўды гэтага хочаш. Дай нам які небудзь знак тваей нянавісьці, тады, калі твая галава адляціць. Хочаш?

— Хачу,—сказаў засуджаны.

— Добра,—сказаў самурай,—выцягаючы доўгі, бліскучы меч.—Я цяпер адсяку табе галаву; перад табой камянная пліта. Папробуй зубамі за яе ўчапіцца, калі твая галава адпадзе ад цела. Калі твой разгневаны дух дасьць табе сілу гэта зрабіць, мы ўсе са страху задрыжым перад тваей помстай. Хочаш ўчапіцца зубамі за камянную пліту?

Я ўчаплюся за яе—закрычаў засуджаны ў найбольшай нянавісьці. Я ўчаплюся... ўчаплюся!..

Меч блiснуў, як маланка. Пачуўся сьвіст,—бух—і прыцятае цела пахілілася на мяшкі. Брызнулі два паясы цёплай крыві і галава пакацілася.

Усе глядзелі як пакацілася яна да камяня, раптам падскочыла і ўчапілася зубамі за пліту. Момант яна так трымалася, ўрэшце, аслабеўшы, звалілася на зямлю.

Ніхто ня сказаў ні слова. Слугі самурая са страхам глядзелі на свайго пана. Здавалася, што той быў саўсім спакойны. Ен падняў закрываўлены меч, слуга яго паліў вадой—і асьцярожна выцер сталь мяккой паперай.

Гэтак закончылася афіцыяльная часьць здарэньня.

У працягу некалькіх месяцаў падданыя і слугі самурая жылі ў бязупынным страху, што вось, вось зьявіцца дух праступніка з помстай. Усе былі пэўны, што грозная кара ім немінуча. Ад уставічнага страху ўсё ім нешта прачувалася і чмуцілася. Яны здрыгаліся ад шэлясту ветру, нават ад дрыжэньня цені дрэў у садзе. Ўрэшце,—па доўгіх нарадах—пастанавілі папрасіць свайго пана, каб закупіў модлы дзеля перапрошаньня мсьцівага духа.

— Але-ж гэтага саўсім ня трэба—сказаў самурай калі найстаршы слуга перадаў яму агульную просьбу. – Я разумею, што вы баіцеся помсты, якой грaзіў засуджаны. Але дзеля гэткай баязьні німа ніякае асновы.

Слуга з няверай паўзіраўся на пана, ды не адважўся пытацца чаму ён такі спакойны.

Самурай згадў мысьлі слугі і сказаў:

— Справа вельмі простая: толькі апошняе ж[illegible]ьне таго чалавека магло быць набасьпечным, але калі я сказаў яму, ка[illegible] ён даў мне знак, я адцягнуў яго думку ад помсты і звярнуў у іншую старану. Ен памер з крэпкім жаданьнем, з крэпкай пастановай ўчапіцца зубамі за камянь—і гэта ён даканаў. Іншага крэпкага жаданьня тады ў яго ня было; а слабае бажаньне помсты, ён забыўся. Дык, бачыце, што німа прычыны баяцца.

І, запраўды, памершы ня зьявіўся і нічога страшнога не сталася.

# Аб найменьнях—„Гуды“,—„Крывічы“,—„Русь“.

*Гісторыка-крытычны нарыс.*

Panta rei—ўсё цячэ.
*Гараклит.*

Німа народу, які-бы засяляў свой край спершапачатку: як далёка ні заглянем мы ў мінуўшчыну,—заўсёды акажацца, што людзі, якіх мы застаем, на самай зары іх гісторыі, засяляючымі даны край, не сядзелі там спраеку, а абавязкова зьнекуль прышлі і засталі на гэнай зямлі другіх людзей, раней за іх асеўшых.

Гэтае старое жыхарства блізка ніколі прыходцамі саўсім не вынішчалася і не выселялася пагалоўна з краю. Хоць частка, пракавечнага, тубыльчага жыхарства, але аставалася на месцы.

І німа ніводнага народу, які-бы на працягу ўсей сваей гісторыі заўсёды насіў адно і тое самае імя. Пад уплывам—перасяленьняў, ўнутранных асоцыяцый, чужаземных заваяваньняў, зьмены пануючай дынастыі, або веры, заснаваньня новага нацыянальнага цэнтру і г. п. прычын — найменьні народаў і дзяржаў зьмяняліся.

Калі прыходцы бралі верх сілай, то ўмацоўваліся гаспадарамі: надавалі сваё імя краю і вытваралі пануючы стан, а мясцовае жыхарства займала, ў стасунку да іх, безпраўнае палажэньне паняволеных, вытварала т. зв. „просты народ“, які прымушан быў служыць і плаціць даніну сваім няпрошаным загадчыкам.

Калі прыходцы былі культурнейшымі, за тубыльцаў, то яны накідалі ня толькі сваю ўладу, але сваё найменьня, свой сьветагляд, абычай, права, а ня рэдка і мову. І, наадварот, малакультурныя заваёўнікі (прыкл. Манголы ў Кітаі) падлягалі найчасьцей культурнаму ўплыву падбітых імі народаў: прымалі іх мову і быт. Аднак, як у першым, так і ў другім здарэньні ўзаемны ўплыў, двох розных стыхій, веў да абмену цэннасьцямі, і, натуральным працэсам, вытвараў новае, сярэдняе.

Усе гэтыя перамены перажываў наш край, і гэткім самым працэсам вытвараўся беларускі народ. Сьляды гэтага захваліся да сягоньня ў номанклятуры, якую, дзеля абазначаньня нашага народу, тасуюць да яго Літвіны і Латышы. Першыя, г. зн. Літвіны, называюць беларусаў—Gudai, другія—Латышы—Kreewu.

Першапачатковыя, славянскія летапісі аднагалосна цьвердзяць, што славяне перасяліліся на ўсходна-эўрапэйскую раўніну з берагоў Дунаю. Пацьвярджае гэта архэолёгія, этнаграфія і, часьцю, номанклятура мясцовасьцяў. Лелевэль прыводзіць больш шасьцідзесяці геаграфічных імён з над Дунаю, сходных з такімі-ж імёнамі на абшары ўсходнай славяншчыны[1]). Наш народ, з нейкай сьвятарнай пашанай і любоўю, ў сваіх пракавечных песьнях і казках ўспамінае аб „шырокім“, „сівым“, „ціхім“, „старым“, „белым“ Дунаю. Дагэтуль некаторыя рэкі мянуюцца гэтым запаведным найменьням. Гэтак, у самым Вітабску, рэчка ўплываючая ў Дзьвіну, завецца Дунаем; Бесядзь, ўпадаючая ў Сож, носіць яшчэ назову Задункі; Дунаец у Быхаўскім павеце, і ўрэшце, некалькі рэчак на абшары Горадзеншчыны, ды два ці тры Дунайцы ў, тэй самай, Магілеўшчыне.

Аздобы, на рэчах, знаходжанных ў прыдунайскіх магілах бронзавага

1) Lelewel 487—488.

веку, пацьвярджаюць еднасьць культуры з жыхарамі, падобнага-ж тыпу магільнікаў, з абшару паміж Прыпяцьцю і Дзьвіной, Дняпром і Нёманам.

Зрэшта, акром славянскіх, ёсьць яшчэ пісаныя гістарычныя даныя аб перасяленьні славянаў з над Дунаю, захаваўшыяся ў гісторыі Рымскай імпэрыі.

У першым стагодзьдзі хрысьціянскай эры, на берагох Дунаю, была сарганізаваўшыся сільная славянская, Дака-Гецкая дзяржава,[1]) якая доўгі час вяла змаганьне з Рымам. У 86 годзе па Н. Х., ваявода Гетаў, Дэцыбал, пачаў з пераменным шчасьцем, бітвы з Рымскімі войскамі, якія былі пад даводзтвам Карнэлія Фукса. Паход Даміцыяцяна на Гецыю, ў 89 гаду, быў катастрафальным для рымлянаў; у выніку-Рым абавязаўся плаціць штогодны падатак Гетам. Траян ськінуў гэтае паняволяньне з Рыму, і, ў 100 гаду, даведзены да апошняй роспачы нападамі Рымлян, цар Гетаў, Дэцыбал, будучы акружан Траянам ва ўласнай сталіцы, Зармізегеце, затапіўшы ўсе свае скарбы у р. Саргет (Стрыю) спаліў сябе дабравольна на груду, каб не трапіць ў рукі сваіх ворагаў.

„Дацыя паняволена, Дацыя абернута ў Рымскую правінцыю, аднак, ня зысьціліся надзеі рымлянаў! Яны пабачылі відовішча, якому ня было падобнага: Дака-Гэты, народ ратайскі, які жыў у вёсках і гарадох, ня хочучы паддацца рымскаму паняволяньню, спрамогся на нязвычайны чын, векапомны прыклад любові да незалежнасьці народнай: кінуў вельмі старую зямлю бацькоў сваіх, і рушыў на другі бераг Дунаю“[2]) — „Ідзі на вуліцы старога Рыму, а пабачыш там гэты векапомны выхад народу“.[3])

Рымскія пісьменьнікі далей разрожніваюць дзьве Дацыі—старую, ці Траянаву, якая асталася пустой, бязлюднай, куды прышлося сьцягаць Рымлянам перасяленцаў са ўсіх канцоў сваей дзяржавы, і, новую.

Геты пакіравалі сваё перасяленьне да Днестру і Бугу, а пасьля павярнулі далей на ўсход — да Дняпра і Зах. Дзьвіны.

З географаў: Марына (110 г.), Пталамэй (160 г.), і, асабліва, з рымскага дарожніка т. з. „Пэнтынгерскіх табліц 210 г.“ відаць, што па цячэньню Дняпра, ў цяперашняй Магілеўскай губэрні, ад суток Іпуці з Дняпром, ўніз, да суток Уці з Сожам—жыў народ-Дака-Гета-Парьяны.

Пад літоўскім найменьнем „Gudai“, захавалася да нашых дзён прастарая назова славянскага народу Гетаў, вышоўшага з над Дунаю і асеўшага між Дзьвіной і Прыпяцьцю, Дняпром і Нёманам ў першыя стагодзі нашай эры.

Захаваньне літоўскім народам прастарай назовы „Gudai“ — Геты, гаворыць аб тым, што Літвіны гэту назову прынясьлі з Дунаю, перасяляючыся, праўдападобна, разам са славянамі.

Цікава азначыць, што на паграніччы, ад стараны вялікаросаў „Гэтунамі“, „Гегунамі“, „Гецікамі“ называюць Вялікарусы да сягоньня Беларусаў, зазначаючы адменую вымову Беларусамі слоў—гэта, гэты.

Магчыма, што маюць нейкую зьвязь з імям „Геты“ беларускія міфічныя „Гаўры“,[4]) якіх, спраўляючы „Дзяды“, заклікаюць формулай:

„Стаўры — Гаўры гам,“
„Хадзіце к нам“.

---

[1]) Дакі і Геты адзін і той самі народ, якога Рымляны называлі Дакамі, а Грэкі—Гетамі.
[2]) Турчыновіч. Обзоръ Исторіи Бѣлоруссіи, СПБ. 1857.
[3]) Выражаный на калоннe Траяна; словы рымскага паэты.
[4]) „Гаўры“—сазгучны з імям „Гірры“ упамінаным у старасьвецкіх географаў на ўсходна эўрапэйскім абшары. Трэба лічыць, што перасяленьне славяноў адбывалася у радавы пэрыёд і гэтыя найменьні зьяўляюцца радавімі або племяннымі, тых родаў і плямен, якія ляглі ў аснову пазьнейшай крывічанскай дзяржавы.

Веснавыя-ж (Радуніцкія) памінкі, побач з назовамі „Стаўраўскі“; „Наўскі“ Вялікдзень, носяць яшчэ назову: „Гаўскі Вялікдзень“ (Дзіс. павет вёскі: Пілаты, Шышкі, Сталіца, Буды). На „Гаўскі Вялікдзень“ (ён-жа „Наўскі“ „Стаўраўскі“), ходзяць памінаць „Дзядоў“ ня толькі на могілкі блізкіх сваякоў, але і на „валатоўкі“ (капцы бронзавага веку), дзе разьбіўшы аб зямлю чырвонае яечка, закапываюць яго да палавіны ў пясок.

Найменьне „Gudai“ у гістарычнай літэратуры новае і не разпрацаванае, дзякуючы таму, што яно не захавалася ў пісаных гістарычных памятніках, вядома яно толькі навейшай этнаграфічнай літэратуры. Дзеля гэтага, на вялікі жаль, я не магу прывясьці справак гістарычнай крытыкі аб гэтым найменьні.

* * *

Саўсім другая справа з найменьням „Крывічы“, яно зафіксавана ў першапачатковай летапісі, і рожных кроніках, ня толькі ўсходна, але і заходнаславянскіх (польскіх). Аб гэтым імяні маецца цэлая літэратура.

Перш за ўсё найменьне „Крывічы“ зьвярнула ўвагу гісторыкаў сваей падобнасьцю да названьня дастойнасьці галоўнага паганскага сьвятара, літоўскіх плямен — Крывэ-Крывэйты. На сазгучча гэтых імён зьвярнуў увагу, яшчэ ў палавіне XVIII ст., акадэмік Мільлер і выказаў домнеўку аб паходжаньні назовы Крывічоў ад дастойнасьці гэтага паганскага першасьвятарніка, паказуючы на магчымасьць істнанаваньня ў паганскія часы цесных рэлігійных адносін паміж Літвінамі і Крывічамі.

Вядомы гісторык Шлецар[1]) адкінуў гэты погляд, кажучы, што сазгучча найменьняў, ў гэтым здарэньні, трэба лічыць за чыстай вады прыпадак.

Карамзін[2]) аднак-жа ня згодзіўся са Шлецарам і пісаў у сваей гісторыі: „Рускіе пагане, як піша Адам Брэмэнскі, езьдзілі ў Курляндзію і Самогіцыю, дзеля пакланеньня багом, дык знача мелі адных багоў з Латышамі, калі ня ўсе, то хоць некаторыя з славянскіх плямён, прыкладам Крывічы, бо іх найменьне з д а е ц ц а сьведчыць, што яны прызнавалі Латышскага першасьвятарніка галавой сваей веры“.

Тацішчэў выводзіў найменьне Крывічоў ад Сармацкага слова „крэвэ“, выражаючага, бытцам, „верх ракі“.

Надеждін,[3]) апіраючыся на тым, што грэкі называлі жыхароў поўначы „Гіпорборэямі“ (Паўночнікамі), Немцы—„Норманамі“, такжа паўночнікамі, лічыў, што найменьне „Крывічы“ значыла ў славянаў тое-ж самае што ў грэкаў і немцаў, бо дагэтуль у Балканскіх славянаў і ў Мадзьяраў „Крываномъ“ называецца паўночна—усходны вецяр.

Мікуцкі[4]) і Салаўёў[5]) шукаюць тлумачаньня ў літоўскім слове „Kirba“, што знача ў перакладзе—дрыгва, крокаць, балота, ў выніку чаго найменьне „Крывічы“—азначае „жыхары балот“.

Кеппэн[6]) і Лелевэль выводзяць гэтае найменьне ад Тракійскага народу—Кробізаў, або Кровізаў і лічаць Крывічоў іх нашчадкамі.

---

[1]) Шлецер, стр. 106.
[2]) Карамзін. Т. I, 81.
[3]) Зап. Одесск. Общ. Истор. Др. Т. I. 101.
[4]) Извѣстія. II отд. Имп. Ак. Наукъ.
[5]) Русск. Истор. М. 1854 Т. I. пр. 43.
[6]) Koeppen. Altherth und Kunst in Rasl. Wien 1822 str. 7. Lelewel Wiad. str. 4.

Літоўскі Нарбут[1]) і наш Кіркар[2]) падзялялі погляд Мільлера і Карамзіна.

Вывад ад Кробізаў, прызнаючы племя Крывічоў старым, сусім не тлумачыць яго імяні. Пагляд Тацішчава, даўно ўжо утраціў усякае значэньне, як абапёрты на больш чым мала вядомай мове Сарматаў, адналітнае істнаваньне якога народу цяпер гістарычнай крытыкай адкінута. Пагляд Надеждіна абаперты на дамнеўным значэньні славянскага караня „крыў“, у значэньні поўначы, такжа вымагае больш пэўных довадаў. Ноўгародцы жылі яшчэ далей на поўнач, чым Крывічы.

Паходжаньне ветру „Крыван“—можа трэба шукаць ня ў паўночным яго кірунку, а акурат у тым, што ён аткланяецца ад гэтага кірунку, веючы з поўнача-ўсходу, а ня проста з поўначы. Погляд Салаўёва і Мікуцкага такжа не бязгрэшны. Літоўскае слова „Kirba“ ў Беларусі мае аналёгічнае, мясцовае—дрыгва. Ад гэтага апошняга слова атрымала сваю назову другая група славянаў—Дрыгвічы. Чаму-ж бы мела адна славянская група браць сабе назову ад літоўцаў, калі другая, дзеля абазначаньня таго-ж паняцьця абылася словам мясцовым. Зрэшта, каб гэтае найменьне было запазычана ад Літвіноў і перашло з пераробкай (зам. Кірбічы—Крывічы) да славянаў, то ў Літвіноў павінна было бы захавацца гэтае найменьне, а тымчасам, агульна-народнае Літоўскае найменьне стасаванае да беларусаў „Gudai“.

Ня выключаючы магчымасьці, што паміж Крывічамі і Літвінамі была рэлігійная блізасьць, а нават дабачаючы гэтую блізасьць у беларускай і літоўскай этнолёгіі і міфалёгіі, нельга дапусьціць, каб славянская галіна крэўскай веры мянавалася веравызнаўчым найменьням, ў той самы час, калі літвіны нідзе і ніколі не называлі сябе „крыўцамі“, як бы гэтага можна было чакаць ад аднаверцаў.

Пяройдзем цяпер да першапачатковых летапісяў.

Аб прыходзе славянскіх плямён з Дунаю і разсяленьні іх на ўсходна-эўропэйскай раўніне летапісец кажа:

„Словѣне пришедше и сѣдоша по Днѣпру и нарекошася ПОЛЯНЕ, а друзии ДРЕВЛЯНЕ, зане сѣдоша в лѣсѣхъ, а друзии сѣдоша межю Припетью и Двиною и нарѣкошася ДРЕГОВИЧИ; инии сѣдоша на Двинѣ и нарѣкошася ПОЛОЧАНЕ, рѣчки ради, яже втечеть въ Двину имянем Полота, от сея прозвашася своим имянем; а друзии сѣдоша по Дѣснѣ и по Семи и по Сулѣ и нарѣкошася СѢВЕРЬ“.

Тут, як бачым, у ліку плямён, перасяліўшыхся з Дунаю, аб Крывічах не ўпамінаецца. Затое Палачане азначаны як асобнае, самаістае племя, роўнае другім.

Ніжэй летапісец апаведае аб дзяржаўнасьці ў розных плямен:

„И по сих братьи (Кій, Шчэк и Хоривъ) держати почаша род ихъ (Рурыкоў) княженіе въ Поляхъ; въ Деревляхъ свое, а Дреговичи свое, а Словѣнѣ свое въ Новѣгородѣ, а другое на Полотѣ еже есть Полочане; от нихже КРИВИЧИ, иже сидять вверхъ по Волзе и вверхъ Двины и вверхъ Днѣпра, ихъ же градъ Смоленскъ: туда бо сидять Кривичи“.

Тут першы раз упамінаюцца Крывічы, нет ведама адкуль узяўшыяся; прычым яны прызнаюцца за аднаплемных з Палачанамі і Ноўгародцамі.

Ўсьлед за апавяданьнем аб прызваньні князёў, летапісец кажа:

„И по тѣмъ городомъ суть находници Варязи; а первии насельници въ Новогородѣ Словѣнѣ, Полотьски—КРИВИЧИ“.

---

[1]) Narbut. Dz. Nar. Lit. Wilno 1837 т. II 476.

[2]) Кіркор. „Живописная Россія“.

Тут ужо аказваецца, што таксама першапачатковымі жыхарамі Полацка былі Крывічы.

Словам, першапачатковы летапісец ня толькі знае Крывічоў, але знае такжа тэрыторыю займаную імі: „верх Волгі, верх Дзьвіны, і верх Днепра“. Па Дзьвіне, ў ніз, знаходзіць ён Крывічоў на тэрыторыі полацкага княжства, а значэ Крывічы займаюць падзьвіньне да граніц латышскіх і літоўскіх. Акром гэтага, паводле летапісца, Крывічы і Словене Ноўгародзкія — адно і тое-ж „отъ нихъ-же Кривичы“. Гэткім чынам тэрыторыя Крывічоў займала абшар: з захаду, ад латышскіх і літоўскіх граніц, на ўсход да Дзесны і Семі, і ад Прыпяці да Ладажскага возера, бо да Крывічоў належаў і Ізбарск.[1])

Найменьня „Крывічы“ летапісец не тлумачыць, прымае за „племя“. Пры гэтым годнае увагі, што летапісец часта зьмешывае тэрміны „племя“, „княжэніе“ і „язык“. Зьмешываньне першых двох тэрмінаў, з пункту яго гледжаньня, зразумела, бо кождае племя „жывяху особѣ и имяху свое княженіе“; тэрмін „язык“ ён ужывае ў значэньні іншай мовы, іншай нацыі, народу. Стасаваньне ім слова „язык“, у прылажэньні да славянскіх груповак, будзе зразумелым нам толькі тады, калі уявім сабе для каго была пісана летапісь, калі, і якія цікавала мэты.

Сам летапісец кажа, што летапісь сваю ён піша для князя; пісаў ён яе у XI ст., ў разгар, калі чужаземная дынастыя „прымучывала“ падбітых ўжо ёю словенаў, або імкнулася загарнуць, яшчэ не падбітых. Мэты, якія цікаваў аўтор „Повесьці временных лет“, былі—апраўдаць панаваньне Русаў над славянамі, якія ужо падбіты, і ўгрунтаваць прэтэнсыі да зямель яшчэ не падбітых імі.

Падбітыя плямёны, ў часы летапісца, насілі імя пануючай дынастыі — „Русь“.

У адным месцы летапісец вылічае, якія плямёны ў яго часы ўходзілі ў склад Русі, або іначай кажучы—якія былі паняволены русамі і знаходзіліся пад іх панаваньнем:

„Се бо токмо Словенск язык в Русі: Поляне, Древляне, Ноўгородци, Полочане, Дреговичи, Сѣвѣр, Бужане, занѣ сѣдоша по Бугу, послѣ-же Велыняне“[2]).

У ліку прапушчаных плямён маюцца: Крывічы, Радзімічы, Вяцічы і інш. Аб Крывічах летапісець уцьверджае, што яны былі ў ліку добравольна прызываўшых з-за мора Русаў, а ў той самы час выходзіць, што Крывічы ў склад Русі ня ўходзяць, Русамі не называюцца і за Русь нікім ня лічацца.

Вернемся цяпер да разшыфраваньня імя „Крывічы“. Дзеля выясьненьня гэтага найменьня далёкіх крыніц шукаць ня прыходзіцца. На тэрыторыі займанай калісь Крывічамі, а цяпер іх простымі нашчадкамі Беларусамі, слова „крывіч“ дагэтуль жыве ў народзе, ўжываецца ў штодзенным жыцьці, як агульна вядомае і ўсім зразумелае. У перакладзе на расійскую мову яно азначае—„родственник“; слова аднаго і таго-ж караня з польскім—„krewny“.

Славяне перасяляючыся з-над Дунаю на ўсход, прыходзілі не ў пустую зямлю: тут былі свае хананэйцы, якіх трэба было прыходцам выціснуць. У працэсе змаганьня, з аднэй стараны утварыўся адналітны фронт рознаіменных славянскіх родаў і плямён, пад агульным, аб‘еднываючым найменьнем — „Крывічы“; з другой стараны — стаяў фронт месцовых родаў, чу-

[1]] Батюшков. „Бѣлоруссія и Литва“ [стр. 7.], лічыць Ізбарск нараўне з Смаленскам і Полацкам Крывічанскім цэнтрам.

[2]) Лаврентьевская летопісь.

жых славянам: Чудзь,—чужынцы. Змаганьне трывала цэлыя стагодзьдзі. За гэты час паасобныя плямёны, мала-памалу зьліваюцца ў адзін народ, а разам з гэтым ў адну дзяржаўную арганізацыю, цэнтрам якой, летапісец пасьвежай ў яго часы, традыцыі, зусім правільна, называе Смаленск.

Ў гістарычнай літэратуры даўно ўжо адмечалася існаваньне на абшарах ўсходнай славяншчыны, два дзяржаўных цэнтры: балтыйскага і понтыйскага, разьдзеленых Прыпяцьцю і Сожам (Надеждин). Першы групаваўся каля Смаленска, другі — каля Кіева.

Ад галоўнага Крывічанскага цэнтру, Смаленска, ішла колонізацыя на поўнач і захад, дзе вытварыліся свае цэнтры: Ізбарск, Ноўгарад, Пскоў, Полацак. Ў пазьнейшыя часы Ізбарск і Пскоў вайшлі ў склад Ноўгародзкіх зямель.

Існаваньне Крывічанскай дзяржавы, памятае і пачатковы летапісец які кажа, што па сьмерці легендарнага Кія, ў Кіеве пачалі княжыць патомкі прызваных варагаў „род іх“, а ў той-жа самы час: „у Палянаў былі свае князі, у Дрыгвічоў свае, у Палачанаў і Смаленцаў свае.

І так, на тэрыторыі займанай цяпер беларускім народам, да IX ст., існавала дзяржава Крывічоў, якая, ў пазьнейшыя часы распалася на некалькі цэнтраў (Смаленск, Полацак, Тураў) існаваўшых далей пад тым самым імем. Крывічы—аб'еднываючае, дзяржаўнае найменьне, рознаіменных славянскіх родаў. Цяперашнія „Беларусы“ займаюць ўсю тэрыторыю даўнейшых Крывічоў і зьяўляюцца іх патомкамі і насьледнікамі.

* *
*

Адносіны „Русі“ і славянаў, паводле летапісі, пачаліся з таго, што варагі, прыходзячы з-за мора, прымушалі плаціць сабе дань. Славяне сьпярша цярпелі, пасьля сабраўшыся прагналі іх, ды, відаць, ня чулі сябе даволі сільнымі каб раз назаўсёды ад іх адкараскацца. Аставалася адно—прыняць да сябе на вядомых варунках аднаго з варажскіх конунгаў з яго шайкай, з тым, каб ён бараніў славянаў ад другіх варажскіх шаек. „Поимемъ себѣ князя, которій-бы володѣлъ нами по ряду“ (на умове)..

Прызывалі князя Ноўгародзкія Словене, і, бытцам, разам з імі Крывічы і Чудзь. Адкуль яны прышлі гэта паказваюць іх імёны: ў Рурыку, Ігару, Олегу ня трудна пазнаць нормандзкіх Рэрыка, Хелега. (Chelgi). Яшчэ ў X стагодзьдзі яны гаварылі асобнай, сваей, „рускай“ мовай Кастантын Багранародны прыводзіць цэлы рад такіх „рускіх“ назоў дняпроўскіх парогаў, ўсе яны тлумачацца з швэдзкай мовы.[1])

Прыходцы прынясьлі з сабой дэспатызм, ў аснову якога паложана была мысьль, што князь зьяўляецца ўласьнікам на прыватным праве, ўсей тэрыторыі свайго княства. Гэткае паняцьце новапрызваных князёў з трудом ужывалася з славянскім народапраўствам і вечавым укладам. Дзеля гэтага мы бачым, што прызваныя князі, пачынаюць сабе шукаць „валасьцей“ па-за межамі Ноўгарада, на поўдні. Смаленск яны сьпярша абходзяць кругом „зане градъ великъ и многолюденъ“ і ўмацоўваюцца ў Кіеве, які робяць галоўным цэнтрам, сваей экспансыі.

„Аб ніякіх пачатках грамадзянскасьці, бытцам то прынесеных князямі з-за мора, ня можа быць мовы. Арабскі пісьменнік Ібн—Даст апавядае аб русах, што яны робяць напады на славянаў, пад'еджджаюць да іх на лодках і выходзяць на бераг і палоняць народ, які адпраўляюць пасьля ў Хазэран ,

[1]) Покровскій. Исторія Россіи.

да Баўгараў на продаж. Гэта быў галоўны замежны тандаль, побач чорных саболяў і куніц, тагочаснай „Русі“.[1])

Умацаваўшыся ў Кіеве, і, седзячы па умове, ў Ноўгарадзе, дынастыя русаў адчувала вялікую нявыгоду ў сваім гандлі, што паміж Ноўгарадам і Кіевам німа безпасярэднай граніцы: кожды тавар правожаны з Кіева на поўнач і з Ноўгарада на поўдзень, павінен быў праходзіць праз Крывічанскую тэрыторыю, Смаленскую або Полацкую, і плаціць мыта. І, вось, пачынаецца доўгалетняя вайна каб заваеваць гэтыя паміжлеглыя тэрыторыі з іх пракавечнымі гарадамі.

Пры ўсякіх экспансыях захватчыкі апіраюцца ня толькі на голую сілу, але і на „святыя правы“. І аўтар „Повесьці“, які жыў у час паняволеньня і „прымучываньня“ славянаў заносіць у сваю летапіс легенду, што старэйшым цэнтрам, адкуль ішло разсяленьне славян, быў Ноўгарад. Гэта знача, што выходным, пачатковым пунктам варажскай навалы быў Ноўгарад.

Характар „Повесьці временных лет“ носіць ўсе азнакі афіцыяльнай кронікі дынастыі Рурыкавічаў; гэта ёсьць, сьцісла кажучы, выказ яе чынаў і сьветагляд з пункту яе інтэрасаў і імкненьняў. Тут мы маем сабраныя ўсе аргуманты ў карысьць апраўданьня панаваньня гэтай дынастыі над Усх. славянскімі пляменамі, прычым не адзін раз асаблівы націск кладзецца на права Рурыкавічаў да Крывічанскай тэрыторыі:

а) Прыведзена легенда аб дабравольным прызваньні Рурыка ня толькі Ноўгародцамі і Чудзьдзю але і Крывічамі.

б) Падкрэсьлена, што Рурык, бытцам, пасадзіў ва ўсіх большых гарадох сваіх мужоў, па праву законна прызванага валадара, у тым ліку і ў гарадох Крывічанскіх (аднак Рурыкоў муж, Алег, ідучы на поўдзень, абходзіць кругом Смаленск, а, па сьмерці Рурыка, пасьля 20-ці летняга змаганьня дабывае яго з бою).

в) Легенда аб жанідзьбе Валадзімера з Рагнедай і г. д.[2])

І ня гледзячы на ўсе аргуманты, якія меліся ў распараджэньні Русаў, у апраўданьне панаваньня іх над Крывічамі, полацкія землі, якія пасьля заваяваньня Смаленска, сталіся палітычным цэнтрам Крывічоў, *ніколі ня ўходзілі ў удзельную сыстэму Кіеўскіх русаў;* трымаліся зусім асобна, мелі сваю асобную дынастыю, якую Рурыкавічы называлі „Рогваложымі ўнукамі“. Крывічанскія землі, знача ніколі не лічыліся „воласьцю“ Кіеўскага вялікакняжага стала, а былі для яго адзіна аб'ектам да заваяваньня.

Пашырэньне імені „Русь“ на тэрыторыю Крывічоў, адбывалася не дынастычным парадкам, а шляхам пашырэньня хрысьціянства. Прыняцьце хрысьціянства, В. Кн. Кіеўскім Валадзімерам, мела вельмі важныя вынікі для дынастыі Русаў і іх дружыны. Дынастыя, з дружынай, пад ўплывам славянскай граматнасьці, асымілявалася з падбітымі славянамі, (таксама, як раней у Баўгарыі было), прыняла іх мову; ў свой чарод хрысьціянства, якое, сьпершапачатку, было верай пануючага клясу, князёў і дружыны, верай русаў, атрымала найменьне „рускай веры“. „Рус“ і „хрысьціянін“ былі найменьні ўзаемна сябе пакрываючыя. Ад гэтага часу „прымучываньне“ славянаў варагамі, пакрывалася высокімі мэтамі пашырэньня „рускай веры“, пашырэньня хрысьціянства. Манаполь хрысьціанства, ў руках Кіеўскіх Русаў, сыграў грамадную ролю, ў сэнсе угрунтаваньня іх ўлады і пашырэньня ўплываў. Па іхняй старане бы-

[1]) Там-жа. (Покровскій).

[2]) Праф. Доўнар-Запольскі ў сваей працы „Очеркъ Исторіи Кривичанской и Дреговичанской земель“ саўсім справядліва заўважае, што пад легендай аб прымусовай жанідзьбе Валадзімера з Рагнедай крыецца алегорыя паняволяньня полаччыны Русамі.

ла цяпер хрысьціянская царква з яе арганізацыяй і граматнасьцю, ды ў дадатку, цэнтрам гэтай царквы быў іх-жа „богаспасаемы“ горад Кіеў. Хрысьціянства, меўшае, ўжо перад тым, карані між гарадзкога жыхарства, ўсяго абшару ўсходнай славяншчыны, пачало скора шырыцца і пад яго націскам, за 200 гадоў, ўвесь усходна-славянскі абшар становіцца хрысціянскім і прыбірае імя Русь. Старыя племянныя і дзяржаўныя найменьні прасьледуюцца, як азнака зваяванага паганства, як азнака адсталасьці і некультурнасьці. У пераходны час ад паганізму да хрысьціянства, прыймаецца імя „Русь“ і Крывічанскім народам. Аднак найменьне „Крывічы“, як моцна ўкараніўшаеся, ўступае сваё мейсца новаму тэрміну не адразу. Мы ўжо бачылі вышэй, што ў XI ст. Кіеўскі летапісец не расьцягае імені Русь на Крывічоў. Латышы да сягоньня не ўжываюць імені „Беларусы“, а называюць, па старой памяці, нас Крывічамі (Kreevu). Найменьне гэтае да нядаўна, фігуравала ў статыстыцы (Н. Столпянскій, „Девять губерній Западнаго Края“, СПБ. 1866 г.), а знача ў памяці народнай, як найменьне нацыянальнае.

З гэтага вынікае, што: а) найменьне „Русь“, не славянскага паходжаньня, занесена яно на славяншчыну Норманамі ў IX стагодзьдзі; б) пашыралася між славянскіх плямён, як тэрмін дынастычны і, галоўна, як веравызнаўчы, ў гэтым апошнім значэньні яно ўмацавалася і сярод Крывічоў.

*ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.*

---

# Лесаўчыкі.

**З паэмату „Władysław IV król Polski i Szwedzki“. Leszno 1649.**

Лесаўчык ваюе, што пажар бушуе,
Бы вясной паводка ён усё раўнуе.
Чыста скрозь дарога, гасьцінец ім просты,
Не знаюць бо чоўнаў, пераездаў, вёслаў:
Праз вазёры, рэкі, крокаці, затопы,
Мкнуцца пад Лісоўскім, лесавыя копы!
Зьмерыў к Мэатыдзе, крыва Дон плывучы,
А Эўропу з Азьяй, здаўна разьмяжучы,
Ажно ў Кімэрыйскім Босфары упнуўся;
Тут, зноў, маланьнёю назбоч завінуўся
Зьмерыў ён Волгі, шыр даль і глыбежу,
Краёў пазаволжскіх зварушыў буцьвежу.
І далей, наперад, гнаў ў сваім пахопью,
Аж ў краю далёкім, панад рэкай Обью,
Бабу залатую зсочыў ў краю лесным:
Баба, ці пачвара, на гарэ магнэснай,
Супраць сонца сеўшы, сьпёрлася у бокі;—
Трыкрот заклятая, яна, ў сэнс глыбокі,
Вешчыя прароцтвы тым дае народам.
І бязьмер наўкола там відаць ахвяраў,
А на ей каштоўных шмат вісіць цягараў.
І ня толькі зблізка зносяць тыя дары,
Нат краі далёкі шлюць туды ахвяры:

Аж с пад Граналянду, Лаппу, Байкалаю
Мае пілігрымаў. Верныя звычаю,
Ей, з малітвай корнай, цэннасьці прыносяць,
Ды злажыўшы датак аб патрэбах просяць.
А наўкол там поўна гадаў ўкруг сыкучых,
Як валэ на сапні, мух усьцяж равучых;
Кажаноў смуродных па начох лятучых,
Сьлімянёў, вужакаў па зямлі паўзучых.
Цяжкі, на завесах, дзьверы акаваны
Сьцеражэ ў праходзе зьвер зусім незнаны:
Вочы іскры прышчаць, з ляпы полмя пыша,
Серкай і смалою на праходжых дыша.
Разшматаўшы, сьмела, лесоўчык пачвары
Ўзяўся перш за Бабу, згодам за ахвяры.
Дзе балван разьбіўшы браў ўсяк злота сіла,
Сколькі іх звычайна лёгкасьць вынасіла:
Лесаўчык зьяўляўся рэдка спадзеваны,—
Найчасьцей зьненацна, нават не чуваны.
Перайшоў Лісоўскі землі, тые срога,
На сваім бо шляху не жывіў нікога;
Як свайму хвароба, ці з трудоў зьнямога,
Адставаў ў паходзе, сам сьцінаў такога!
Труп хаваў у гашчу, здаля ад прасмыка,
Зьведням таезёмным каб не даць языка.
І такім паходам, гэткімі спасобы,
Ен вайной лютою самай дасьціг Обы,
Пры яе ўпаданьні ў моры ледавітым
Усьціем шырокім, крыгамі пакрытым.
Зтуль, ізноў, як бура, рушыў шляхам новым
Праз усю Маскоўю к вогнішчам дамовым:
Курыць край той дымам, гарады пылаюць,—
То з далёкіх бітваў Лесаўцы вяртаюць.
З тых руін маскоўскіх пад Смаленск памкнуўся
І дамоў, шчасьліва, з славаю вярнуўся.

Пераклаў *Л.*

Лесаўчыкі — назьваньне лёгкай беларускай кавалеры-казацтва, якое у адрожненьне ад Украінскага, нізавога казацтва („Нізаўчыкоў“), насіла названьне — „Лесаўчыкі“. Польскія гісторыкі выводзяць названьне гэтай кавалеры ад імяні аднаго з голасных у пачатках XVII ст. атаманаў Лесаўчыкоў, беларускага шляхціца Александра-Язэпа Лісоўскага-Яновіча. У часе бунту Зэбржыдоўскага Лесаўчыкі стаялі супроць караля Жыгімонта III, за што яны, разам са сваім атаманам Лісоўскім, былі засуджаны на выгнаньне. У часе першага самазванца Лесаўчыкі ігралі выдатную ролю у тагочасных падзеях у Масковіі. Пасьля сьмерці Лісоўскага (1616 г.) Лесаўчыкі абралі атаманам Станіслава Чаплінскага, а з 1618 г.—Валентына Рагоўскага: пры іх Лесаўчыкі вярнуліся з Масковіі дамоў, дзе вялі змаганьне з магнатамі, як тады казалі — самаупраўствам і гвалтам. Калі Фэрдынанд імпэратар Аўстрыяцкі папрасіў у Жыгімонта III дапамогі супроць Вэнграў і Чэхаў, Лесаўчыкі былі пасланы да імпэратара ў ліку 10,000 чал. Лесаўчыкі выбралі атаманам Яраша Клячкоўскага і разьдзяліліся на некалькі асобных рот, з якіх кождая вяла вайну асобна. У 1621 г. Лесаўчыкі прыймалі удзел у хо-

цімскай бітве, пазьней біліся у Вэнэцыі, Ломбардыі і Голяндыі. Апошняй дзейнасьцю Лесаўчыкоў была перамога над Французамі пад Іўры, пасьля чаго яны вярнуліся у Беларусь. У літэратуры і малярстве папулярны абраз лесаўчыка на легкім каню, з шабляй пры боку і „рушніцай“ за плячыма, работы вядомага голяндзкага мастака Рэмбранда. Монаграфію Лесаўчыкоў напісаў: M. Dzieduszycki „Krótki rys dziejów i spraw Lisowczyków“ (Львоў 1843). У 1620 г. вышла, невядомага аўтара: „Pieśń na pamiątkę nieśmiertelną pułkownika esc. J. A. Lisowskiego“. K. Wojcicki „Obrazy starodawne“ Варшава 1845, I.

## Старабеларуская вясковая школа.

Пішучаму гэты радкі здарылася вучыцца ў старога тыпу беларускай вясковай школцы, аб якіх цяпер ужо і паміну няма. дый тая, ў якой я вучыўся была дахаваўшыся да маіх часоў дзякуючы толькі адлегласьці яе ад гарадоў і чыгунак.

Школа знаходзілася ў вёсцы Стары Пагост, Дзіс. пав. Мяйсцовая традыцыя ўтрымлівае, што Стары Пагост быў калісь горадам, меў свае цэрквы і гарадзішча. Археолёгічныя знаходкі да пэўнай меры пацьвярджаюць гэту традыцыю, а распаложаная паміж двумя вазёрамі станцыя каменнага веку, са знаходкамі шчапанага і гладжанага камяня, ды капцы-валатоўкі бронзавага веку, чакаюць яшчэ сваіх дасьледчыкаў. Да цікавейшыхъ знаходак належаць: а) вялікі, у некалькі тысяч штук, скарб арабскіх манэт, выкапаны прыпадкова каля 1895 г. маскалем Паўлухам на астраўку, ў канцы Красенскага возера; б) залаты абручок са званочкамі, знайдзены селянінам Лакоткам пры расчыстцы пад ніву старога магілішча, на якім раней стаяў вясковы магазын да запасовага збожжа; в) маленькія бронзавыя і сярэбраныя з эмальлю „абразкі“, ласьціва, па маей дагадцы, часткі нагалоўных і нагрудных аздоб, яркага візантыйскага тыпу.

За маей памяці, аднак, акром гучных традыцый і надзей на нейкае прароцтва, што каліс Стары Пагост будзе ізноў вялікім горадам, вёска нічым ня рожнілася ад іншых вялікіх беларускіх вёсак. Хат у вёсцы было звыж 60, пабудаваных ў доўгі рад, абапал адзінай вуліцы, часьцю каторай праходзіла дарога з Гарманавіч у Новы Пагост (бліжэйшыя мястэчкі). На 60 вясковых хат былі толькі 4 хаты каталіцкія, рэшта ўсе лічыліся праваслаўнымі, а раней былі уніятамі. Відочна да перажыткаў уніяцтва належала тое, што кабеты хрысьціліся і маліліся па-польску, страшэнна ламанай польшчынай, прыкладам: „Вымя войца і Сына і Духа сюнтога. Аман.“ „Войчанаш ўторсесты на небі сьвясься меньне тваё пры крулестві маім“... і т. д. Гэтак сама адпевалі нябошчыкаў польскімі псальмамі з польскіх кантычак. Мужчыны хрысьціліся і маліліся ня менш ламанай славяншчынай, прыкладам: „Воччу жэсы на небясі дасьціся мя тваё, здароўе маё.“ і. т. д. Самі селяне прызнавалі, што іхнія малітвы разыходзіліся з друкаванымі тэкстамі, але ўтрымлівалі, што ў кнігах малітвы для духоўнікаў, папоў і ксяндзоў, а сьвецкім людзям, ня ў цэркві—і маліцца з іх ня гожа.

Паступіў я ў Старапагоскую школу ў 1892 году і вучыўся ў ей да 1894 году.

Школьны будынак стаяў ў центры вёскі, пры самай вуліцы, і, спаверхнасьцю сваей адрожніваўся ад іншых гаспадарскіх хат, хіба толькі большай

сваей старасьцью і кляймом нейкай архаічнасьці. Будынак стояў не канцом, а бокам да вуліцы. Праз шырокія аднастворныя дзьверы,—над якімі, паміж двумя крыжамі, фігуравала цыфра 1721,—уходзілася ў абшырныя сені, якія пры зачыненых дзьверах былі саўсім цёмны, бо палавіна іх, ўдоўжкі, была адгароджана пад склады. На права з сяней вялі дзьверы ў школьную сьвятліцу, на лева—ў хату да стоража Міколы.

Школьная сьвятліца тварыла роўны чатыракутнік, агульным абшарам, на сколькі ня мыліць мяне памяць, крыху большы ад звычайных гаспадарскіх хат. На права, ад парогу, стаяла непрапарцыянальна вялікая, глінабітная з комінам печ. Перад печчу, аршыны два у шыркі і тры ўдоўжкі (прыблізна), знаходзілася, глыбінёй ў рост чалавека, са зрубам, яма. Яма гэта служыла да складаньня запасных дроў. У мае часы дровы да школы звазілі селяне талакой, але раней, як апявала мяйсцовая традыцыя, самі школьнікі, ідучы ў школу, павінны былі прынасіць з дому, кожды па некалькі паленаў дроў; прыносячы скідалі іх ў яму. Яма служыла адначасна і меркай на дровы. Печ стаяла на дубовым зрубе, прычым прыпечак навісаў, блізка над усей ямай, апіраючыся на выступах зрубу, падцятага, зьверху ў ніз, кшталтам лацінскага „S" пахіленага наперад. Печ „чэлюсьцю" стаяла да дзьвярэй, над чэлюсьцю высіўся, амаль да самай столі, мураваны „чалесьнік". З левага боку печы быў вузкі „пяколак" і на печы роўная, квадратовая плашчына да спаньня.

Сьцены школы былі з часаных бэляк, сута імшоныя і, ад часу, крэпка патрэсканыя і пачарнеўшыя. Нявысокая столь ляжала на чатырох тоўстых „пераналоках", зьверху зчасаных, ўнізе круглых, паложаных паўзьбежна парогавай сьцяне. Столь зроблена была з цёсу, г. зн. не пілаваных, а шчапаных дошчак з двох старон падчасаных. Дошкі былі кароткія, ўсяго толькі ад аднэй „пераналокі" (папярэчнай бэлькі) да другой, агульна м. б. маючыя мэтры два ўдоўжкі. На зямлі паложан быў так сама цясовы „памост" з доўгіх, толькі папалам шчапаных, бэляк, гладка вычасаных, а можа, нават, калісь, і выструганых. Паўзбежна парогу, ад вугла печы і да супроцьпарогавай сьцяны стаялі лаўкі, для хлапцоў, а наўпроць іх, у правымъ кутку, між печчу і сьцяной, наўпопярак хлапцоўскім, былі лаўкі для дзяўчат. Лаўкі асобна былі вышэйшыя „стаўцы" для працы, і асобна „лавы" для сядзжэньня. Даўжынёй м. б. на 8 вучнёў. Дашка вышэйшай „стаўца" была роўная, бяз ніякага скосу. На покуці вісеў папяровы, пад школом, абраз М. Божай з подпісам лацінскімі літарамі, ў якой мове—цяпер ўжо не памятаю. Акром гэтага абраза на сьцяне быў яшчэ ў форме круглага цыфрабляту, са стрэлкамі як у гадзінніку, каляндар. Карацейшая стрэлка якога паказвала месяцы, а даўжэйшая чыслы, першыя і другія былі кругам напісаны на цыфрабляце. Стрэлкі, кожды дзень, перастаўляў вучыцель. Акром гэтага ў школе была чорная вялікая драўляная дашка, якая стаяла з боку печы, ў канцы дзявочых лавак, засланяючы сабой пярэднюю часьць пяколку і скрыня да кніг, званая „кніжня". Вокан ў школе было ўсяго тры: адно на вуліцу, адно супроць парогу і адно супроць вулічнага акна ў супроцьлеглай сьцяне. Кождае вакно складалася з 6 балоначак, агульна вокны былі м. б. аршын з чверцьцю ў вышкі і аршын у шыркі. Сені былі саўсім пустыя, под мелі глінабітны. Канец, дзе жыў сторож быў курны з глінабітным подам.

Школьны пэрсанал складаўся з „дырэктара" (вучыцеля), выбіранага штогоду і „дасьціпула" (стоража), за маіх часаў, спаўняўшага свае абавязкі дажывотна. Як дырэктар так і дасьціпул рэкрутаваліся з беззямельных, тэй-жа самай вескі, селян. Прычым, за ранейшых часаў, дырэктарскі урад заўсёды зьвязваўся з урадам пастырскім: адна і тая-ж асоба летам пасьвіла

вясковую худобу, а зімой, калі худобу запіралі ў хлявох, брала ў свае рукі кіраўніцтва і адукацыю вясковай моладзі. Гэты традыцыйны парадак, пасьля сьмерці доўгалетнага вясковага вучыцеля і пастыра Данілы, быў нарушан выборам на вучыцельскі урад адстаўнога фэтфэбэля, колішняга выхаванца гэтай самай школы, а знача добра знаўшага ўсе яе вымогі і традыцыі.

Прозьвішча майго першага мэнтара было Рубаха (імені не памятаю). Прозьвішча „Рубаха“ накінута ўсім пагостчанскім Кушалёнкам, перад самым звальненем з-пад паншчыны, пры такіх варунках: дзеля нейкай патрэбы расійскі чыноўнік сьпісываў ўсіх селян ў валасьці; калі дайшоў чарод да бацькі цяперашняга Рубахі, то чыноўнік запратаставаў: Кушуля, Кушуля! што за кушуля! „Рубаха, а не кушуля! Понімаеш: по-рускі—рубаха, а не кушуля і ты не Кушулёнак, а Рубаха!“ Запісаў Рубахай і з таго часу пайшоў род рубахаў ў Старым Пагосьце. Быў гэта чалавек сярэднага ўзросту, шырокаплечы, сутулаваты з шырокай чарнаватай барадой і даносным голасам, прывыкшага да каманды вайскоўца; натуры ён быў павольнай, лянівай.

Увесь маскальскі „полер“ хутка відаць зьлез з яго пасьля павароту ў родную вёску. З расійскай мовы ужываў часам слова „да“ і то-ў надзвычайна важных здарэньнях.

„Дасьціпул“ Мікола, наадварот, быў чалавечак дробненькі, жывы, з голенай барадой, хадзіў ў сівой сьвітцы (як і вучыцель) падпаясанай суконным паясом за якім заўсёды насіў знак сваей ўлады—трохпальцую раменную дысцыпліну ад якой ішла і назова яго ураду. На яго павіннасьці было падмятаць і прыбіраць школу, тапіць печ і выдзеляць кары вучням, як па сваей ўласнай ініцыятыве, калі трэба было ўціхамірыць разбязураных школьнікаў ў часе нябытнасьці вучыцеля, так па загаду і пастанове вучыцеля. Прычым па сваей ўласнай ініцыятыве ўлаўчаўся Мікола, сьцябануць стаячага, ня лічылася праступкам, калі увёртлівы вінаваец здолеў уцячы ад празначаных яму сьцябакоў. Па загаду вучыцеля сек Мікола вінаватых расьцягнутых на школьнай лаўцы, прычым, бітага трымалі, трэба прызнаць з немалым здавольненьнем, яго-ж ўласныя калегі.

За два гады бытнасьці маей ў Пагашчанскай школе былі ўсяго тры выпадкі біцьця разцягнутых на лаве вучняў, і, усяго, адзін толькі раз біцьцё было запраўды сур'ёзнае, бо вініватаму ўсыпалі да 50 лазовых сьцябакоў па голым целе. Каралі хлопца гадоў 16 за прыставаньне да дзяўчат ў часе пярорвы, ў цёмных сянёх; ў прысутнасьці бацькі вінаватага і з яго згоды, а такжа ў прысутнасьці пакрыўджанай. За ня выўчанае заданьне, ці дробныя праступкі, рука вучыцеля выдзеляла „лапы“ „закрутні“ і „лабатрэсіны“. Лапы даваліся лінейкай па далоні і дзяліліся на „гарачыя“ і „ласкавыя“. Закрутні аднасіліся да вушэй, вышэйшай адменай была закрутня з „потаржкай. Лабатрэсіны лічыліся найлягчэйшымі і найчасьцей былі выдзелянымі.

Школьны год пачынаўся за тыдзень пасьля Пакрава (1 кастрычніка) і цягнуўся да Чыстага Чэцьверга. Збор дзяцей адбываўся па загаду вясковага сходу, зазвычай у нядзелю. Пасьля поўдня вучыцель заклікаў у школу старшых сваіх вучняў (толькі хлопцаў) і, даўшы ім у рукі карзіначкі, выпраўляў зьбіраць „блазноту“. Хлопцы пачыналі з першай канцавой хаты, ў якой меліся, адпаведныя па веку, да вучэньня дзеці: заходзілі ў хату і зьняўшы шапкі, пачыналі пяяць песьню: „Я малы жачак“... а пасьля гаварылі стэрэотыповую орацыю“ Я малы хлопчык, стану на стоўчык...“, ў якой выхвалялася навука (слоў не памятаю). Кончыўшы афіцыальную, так сказаць, часьць зьверталіся хлопцы безпасярэдна да калегі, прыкладам: „Хадзі, Янук, з намі“. Калі хлапец ўпіраўся—яго пераконывалі і тузалі за рукавы, цягнучы з сабой. Найчасьцей хлапец далучаўся да грамады і ішоў з усімі разам далей. Рэдка

да грамады далучаліся дзяўчаты, але сьмялейшыя часам далучаліся. Пад канец вёскі зьбіралася грамада ў чалавек 40-50, якія ўсе разам кіраваліся у школу. Наперадзі ішлі „важатаі“ з напоўненымі карзіначкамі яйкаамі, салам, каўбасамі і хлебам, бо кождая маці, выпраўляючы дзяцёй ў школу, паводле сваей магчымасьці, што небудзь клала ў карзіначку. Пакуль „важатаі“ зьбіралі дзяцей, Мікола разтапляў жарка печ. Прынесеныя дары разкладалі на сквароды, стаўцы засьцілалі абрусамі, садзілі за іх малых гасьцей і пачыналася бясёда. Разам з дзяцьмі садзіўся вучыцель і Мікола. Усе астаткі ад бясёды паступалі ва ўласнасьць Міколы. Пасьля закускі старшы гаспадар з вясковай грамады або сам вучыцель казаў „навуку“, зьмест якой зводзіўся к таму, што вось цяпер, вы (дзеці) слухайце „дырэхтара-вучыцеля, а ня будзеце вучыцца дык дырэктар бацькаўскай ўладай а сваей рукой, ці па яго загаду—Мікола, дысцыплінай аддубасіць лянівага. Пасьля гэтага, змовіўшы „Воччу жэсі“, старэйшыя вучні ладзілі гульню ў пытку. Гульня ў „пытку“ адбывалася, так: адсуваліся ставец і лавы, дзеці садзіліся побач на лаве і плячамі апіраліся аб ставец, рукі ўсе хавалі за сябе, каб перадаваць з рук у рукі пытку. Пытку рабілі са скручанага ручніка. Хто небудзь вызываўся лавіць пытку; прычым, каб злавіць яе, прасовываў рукі паміж сідзячымі. Калі адыходзіў далей ад пыткі, яго білі ею па плечах і хутка хавалі за сябе, пушчаючы далей з рук у рукі. У каго злоўлена пытка, той заменяў ловячага. Чым крапчэй каторы злаўчыўся ляснуць ловячага, тым лепш. Каб не было плачу, малых у гульню ня прымалі і тыя маглі толькі разсеўшыся ў пустых лаўках глядзець як забаўляюцца старшыя. Хоць агульна бяручы вучні маладзей 10-ці гадоў рэдка траплялiся. Гулялі ў „пытку“ хлопцы ад 12 гадоў; дзеўчаты ніколі ня прымалі удзелу ў гульнях разам з хлапцамі. Пасьля гульні вясёла гамонячы вучні разыходзіліся па хатах да заўтра раніцы.

На друі дзень, ад усходу сонца, пачыналі вучні сходзіцца ў школу і да полудня, пад наглядам Міколы, які час ад часу заглядаў, каб уцішыць лішне разбушаваную грамаду, ці суняць завязаўшуюся бойку, або ліквідаваць іншы які экстра прыпадак, вучні праводзілі ў гульнях. Пасьля палуднаваньня зьяўляўся вучыцель, разсаджаў кождага на сваё мейсца і пачынаў раздачу кніг. Урачыста адчыняў ён, кніжню,—вялікую плосмую, добра акаваную з вісячым замком скрыню, якая стаяла пры сьцяне, супроць печы, налева ад уходных дзьвярэй.

Вучні, каторыя яшче ня вучыліся ў школе даставалі толькі „букаўкі“ г. зн. квадратовыя дошчачкі з наклееным на іх рукапісным славянскім альфабатам. Тым вучням, якія прошлай зімы вучыліся, даваў славянскія „букары“. На „букарах“ чыталі па складох, водзячы дасьціпулкай па кнізе. „Букары“ былі друкаваныя; якога яны былі аўтара і дзе друкаваны, у тыя часы ніхто з нас ня цікавіўся, а пазьней іх мне ніколі не ўдалося бачыць. Памятаю толькі, што друкаваны былі на тоўстай жоўтаватай і сіняватай паперы. Пасьля літараў склады ў іх разпаложаны былі стаўпцамі, зьверху у ніз, праз усю страніцу і пачыналіся ад: „ба, бе, бо, бу, уб, аб иб, об, а далей розныя: пра, тра, бра, кры і т. д. У канцы былі: „Молитвы повседневныя“. Чытаючым „паверху“ без дасьціпулкі, слабейшым ў чытаньні, давалі часаслоўцы, а сільнейшым-псалтыры і евангеліі. Акром „букаўкаў“, „букароў“, часасловаў, псалтыроў і евангелій, задачніка, некалькі гісторый сьвятых, іншых кніг у школьнай кніжні, здаецца, не было. Дзяўчаты прыходзілі са сваімі ўласнымі польскімі Elementarz'амі і Złotymi Ołtarzyk'амі. Паміж псалтыроў і евангелій было некалькі кніжак рукапісных, ў дубовых, скурай абцягнутых, з масяжовымі „прытужкамі“, аправах. Але большасьць апраў евангелій і часаслоўцаў былі мяйсцовай, вясковай работы, пераважна майстрам да гэтых

спраў быў Сымон Рыдзіка, які моцна зшыўшы кнігу даваў ей акладку з аднэй толькі скуры, без дашкі, падклеянай зысподу белай паперай. Гэткая скураная аправа мела, пры кождай акладцы, па два рэмяшкі, адным канцом рэмяшкі былі прапушчаны ў прарэз акладкі, зьверху падыспод; канец падысподам быў падклеяны і, для моцы, прышыты дратвай. Рамяшкамі кніга зьвязвалася сьпераду, каб не разыходзіліся карты. Блізка ўсе кніжкі былі, кождая іншая, па фармаце і па часу выхаду яе ў сьвет; 2—3 псалтыры, ці евангельлі былі „труднага пісьма“ са зьлітным напісаньнем фраз і хаваліся ў кніжні бяз ужытку. Была адна евангэлія, фармату чацьверкі, з тлумачэньнямі перад разьдзеламі і на „белягох“ ў мове беларускай, якой гаварылі ў вёсцы. Кніжкі вучні атрымлівалі да вучэньняся ў школе і да дому іх не бралі, а канчыўшы час вучэньня складалі ў кніжню, вучыцель, выходзячы, замыкаў кнігі на замок; назаўтрае ізноў раздаваў вучням. Толькі той забіраў з сабой кнігу дамоў, хто прыходзіў у школу са сваей ўласнай.

Курс вучні праходзілі, залежна ад здольнасьцяў: у тры, чатыры, а то ў пяць і сем гадоў. Курс навук гэтай школы вымагаў: навучыцца чытаць па псалтыру і евангельлю, без „стагнаньня“, перапісваць „Отчэ наш“ і „Верую“ славянскімі, такімі як друкаваныя, літарамі і перапісываць з любой кнігі па „руску“, г. зн. пісанымі літэрамі, ды ўменьне чатырех правіл „арыхмэтыкі“. Праграма не абшырная, але яе страшэнна утруднялі завілая пэдагогіка і тое, што менш здольныя вучні праз лета забываліся, што навучыліся за зіму. Пры мне вучыўся у школе 17-18 летні хлапец Дубчонак, які 7-ю зіму ніяк ня мог выбіцца са складоў, хоць хлапец ён быў нормальны. Пры гэткім палажэньні вучні ў школе былі ад 10 да 18 і нават 19 гадоў, бо вясковая апінія вымагала. каб кожды хлапец „скончыў навукі“. 20 гадоў гэта ўжо быў ўзрост пасьля якога лічылася стыдна хадзіць ў школу. Ад дзяўчат не вымагалася пагалоўнай граматнасьці, вучыліся толькі тыя, якія мелі сваю ахвоту.

Дзяўчаты сядзелі на асобных лаўках і вучыліся на асобных кнігах, як ужо вышэй я сказаў — на польскіх лемантарох і малітвенніках. Гэта быў стары абычай заведзены, праўдападобна, уніяцкім духавенствам. Курс навук для дзяўчат канчаўся мшальнымі малітвамі, якія вымагалася умець чытаць. Дзяўчат ня вучылі пісаць, а з арытмэтыкі толькі „складаньне“ і „адыманьне“ ў памяці. Хоць некаторыя з іх, сваей ахвотай, навучаліся такі пісаць цыфры і напісваць сваё імя і прозьвішча. Вучомны дзень дзяліўся на дзьве часьці, не па гадзінніку, а па сонцу. Першая часьць вучомнага дня, найдаўжэйшая, праходзіла на чытаньні. Прычым ўсе вучні чыталі голасна і зычна, ад чаго падымаўся такі голкат і гоман, што гук галасоў чуваць было здалёку на вуліцы. Чытаньне цягнулася да абеду. Пасьля абеду была „арыхметыка“, пісаньне і гісторыя сьвятая. Адзін дзень была арытмэтыка вусная, другі дзень паводле задачніка, на пісьме. Са старэйшымі вучнямі займаўся сам вучыцель, малодшым задавалі задачы і перапытывалі лепшыя з паміж старэйшых вучняў. Пасьля арытмэтыкі ішла лекцыя пісаньня. Пісалі ўсе, кожды сваю лекцыю, якую вучыўся чытаць. На паперы, пісалі толькі тыя, што канчалі школу, г. зн. ў другой палавіне апошняй зімы; рэшта ўсе пісалі на грыфлёвых дошках. Прычым пісаньне і чытаньне гражданкай „па-руску“ таксама было прывілеям канчаючых навукі. Арытмэтыкі на пісьме з іменнымі лічбамі ніколі не рабілі: іменных лічбаў ужывалі толькі зрэдка пры задачах „на памяць“‘

Два дні ў тыдзень, у сераду і суботу, замест пісаньня выкладалася гісторыя сьвятая, прычым малодшая і сярэдная катэгорыі вучыліся толькі пацераў, а трэцяй, старшай катэгорыі, вучыцель прачытываў з кнігі якое-

небудзь здарэньне са Старога ці Новага закону, пераказываў яго сваімі словамі, а пазьней гэтага ўжо вучні павінны былі ў свой чарод самі пераказаць аповесьць. Дзеля уясьненьня падзеі і замацаваньня яе ў памяці вучняў, практыкавалася драматызацыя. Прыкладам, „Райскае спакушэньне“ разыгрывалася так: пасярод школы ставілі ялінку, з-заду за ёй „чорта“. „Адам“ клаўся спаць на скрыні ад кніг, а „Ева“ падыходзіла да дрэва, на якім замест яблыкаў вешалі дзьве-тры печаныя бульбіны. „Чорт“ захваляў яблыкі, „Ева“ адгаварывалася, што баіцца грэху, а ўрэшце зрывала яблык, кусала сама і, збудзіўшы, частавала „Адама“. Тут зьяўляўся „Бог“, у асобе вучыцеля з пыткай ў руках: выганяў ею „Адама“ „Еву“ і „Чорта“ ў сені, высказваючы, што праз гэты грэх яны, і іх патомкі, будуць давеку гараваць і ў поце чала есьці хлеб свой. Найбольш падабаліся нам разыгрываныя падзеі з Язэпам, якія цягнуліся цэлымі тыднямі і войны жыдоў з філістымлянамі. Дзеля выбражэньня гэных крывавых воен раздзяляліся ўсе вучні на дзьве палавіны, адсуваліся ў староны лаўкі і пачыналася самая заўзятая баталія.

Выкладовай мовай у школе была мова беларуская. Ня было нават ценю спробы гаварыць іншай мовай. Адзіная мэта навукі была навучыцца маліцца. Практычныя вымогі ставіліся толькі да пісьма „умець падпісацца“.

Перапытываў вучыцель лекцыі ня штодзень, як роўна ня кожды дзень бывала арытмэтыка, пісаньне і гісторыя сьвятая, часам пад рад два-тры дні, было толькі адно чытаньне. У такія дні вучычель залезаў на печ, клаў пад галаву сьвітку і загадаўшы чытаць, засыпаў. Пакуль вучні крычэлі, датуль ён спаў, як толькі сьцішаліся, зара будзіўся і панукаў да чытаньня, кажучы: „чытай!“ „чытай!“ Вучні загалкаталі і вучыцель пад бойкі гоман засыпаў сабе на печы.

У марозныя дні, цэлы дзень тапілася ў печы, ў цяплейшыя дні—ніколі не закрывалася юшка; дзякуючы гэтаму паветра ў школе было адносна добрае.

За вучэньне вучыцель грашамі платы не браў, але два разы зьбіраў дабравольныя даткі: „каляду“ і „валачобнае“, прычым даткі зьбіраў не сам, а выпраўляў вучняў. Зьбіраць каляду хадзілі са зьвяздой і казой, расьпяваючы беларускія старасьвецкія канты. Па валачобнае хадзілі у Чысты Чэцьвяр, бяз сьпеваў, толькі з арацыямі. На каляду давалі па некалькі гарцаў збожжа, па пары каўбас, а багацейшыя прыкідалі яшчэ якую „скароміну“, ці „скварку“. На валачобнае давалі таксама збожжа, яйкі, сыры і ўжо радзей „скароміну“. Яек давалі ня менш дзясятка, а дзе—то і два і тры дзясяткі адразу.

Пасьля Рубахі, у гэтай школе, вучыў аканчыўшый Нова-Пагоскую міністэрскую народную школу, пагашчанін—Дубчонак, які завёў ужо расійскія буквары і кнігі, а пасьля яго—Марозька, які дакончыў рэфармацыю школы разам з Нова-Пагоскім сьвяшчэнікам, перамяніўшы яе ў царкоўна-прыхадзкую з расійскай выкладовай мовай. Старыя кнігі са школы сьвяшчэнік забраў да царквы, на замен якіх даў новыя.

Каля 1897 году я выехаў з тых ваколіц і далейшая доля гэтай школы мне ўжо невядома.

*ПАГАШЧАНІН.*

# Беларусь і водка.

Прынята думаць, што Беларусь з'яўляецца краем вельмі „пьяным". „Пьянства" на Беларусі так акрычалі, што „пьяныя" матывы трапілі і ў прыгожую літэратуру. Рэдка можна натраціць, прыкладам, сцэнічны твор з народнага жыцьця, дзе-бы не фігуравала пьянства. Нават лепшыя нашы пісьменьнікі—драматургі як Я. Купала, Фр. Алехновіч і тыя паддаліся гэтай агульнай апініі і часта выстаўляюць беларуса як горкага пьяніцу. Але гэта далека не так, што мы і ўгледзім з цыфраў і параўнаньняў прыведзеных далей.

---

У быўшай Расійскай Імпэрыі, па *вырабу* спірыту, Беларусь стаяла на адным з першых месцаў паміж ўсімі спіртагоннымі раёнамі. У 1911 годзе ў нашым краі і ў Літве было 744 бравары. Па губэрнях яны распадзяляліся гэтак:

*Табл. 1.* Распадзел бравароў па губэрнях.

| ГУБЭРНІ | Лік бравароў | Прадукцыя у 1000 вёдзер 40% водкі |
|---|---|---|
| 1. Менская губ. . . . | 229 | 5.696 |
| 2. Магілёўская . . . | 150 | 3.227 |
| 3. Горадзенская . . . | 103 | 2.950 |
| 4. Віленская . . . . | 102 | 2.559 |
| 5. б. ч. Смаленскай[1]) . . | 58 | 1.460 |
| 6. Вітабская . . . . | 44 | 663 |
| 7. б. ч. Чарнігаўскай[1]) . . | 40 | 332 |
| 8. Ковенская . . . . | 18 | 417 |
| | 744 | 17.304 |

Як бачым з пададзеной табліцы, найбольш бравароў мае Менская губэрня, а пасьля Магілёўская, Гродзенская і Віленская. Рэшта губэрняў сільна адстае ў вырабе спірытусу. На апошнім пляне стаіць губэрня Ковенская.

Ворнай зямлі пры браварох было каля 450 тыс. дзесяцін, з якіх 55 тыс. дз. засаджвалася бульбай.

У 1911 годзе Беларусь перагнала на спірт 2622 тыс. пуд. збожжа, апрача таго каля 40.800 тыс. пудоў бульбы і больш 22 тыс. пудоў патакі. Калі гэта ўсё перавясьці на збожавы эквівалент, то акажацца што пярэгнана на сьпірт каля 15½ міл. пудоў збожжа (у меру разьвіцьця сьпіртагону выгонка яго са збожжа зьмяншалася на карысьць выганкі з бульбы).

---

[1]) б. ч. = беларуская часьць.

У тым-жа годзе Беларусь выгнала 40%-ай водкі звыж 17½ міл. вёдзер. (на 2 міл. больш чым Польшча). Лік гэты складае каля 13% выганкі ўсей быўшай Расійскай Імпэрыі. Найбольш прадукавала Меншчына, пасьля яе суседкі Магілеўшчына, Гродзеншчына, Віленшчына і ўрэшце другія губэрні.

На душу жыхарства на Беларусі прыходзіцца выгонкі каля 1,4 вёдзер.

Але далёка ня ўся водка ішла на патрэбы і ужытак нашага краю. Значнейшая частка яе ішла на продаж заграніцу і ў Расію і толькі часьць выпівалася і наагул ужывалася у нас на месцы.

Цяпер глянем сколькі ўжывала Беларусь і Літва 40%-ой водкі на душу жыхарства.

*Табл. 2.* Ужываньне спірта (40°) у вёдрах на 1 душу жыхарства па губэрнях у 1911 годзе.

| ГУБЭРНІ | У гарадох | У Паветах. |
|---|---|---|
| Віленская . . . . . | 1,14 | 0,21 |
| Вітабская . . . . . | 0,95 | 0,27 |
| Горадзенская . . . . | 0,69 | 0,30 |
| Ковенская . . . . | 0,64 | 0,26 |
| Менская . . . . . | 1,01 | 0,35 |
| Магілёўская . . . . | 1,09 | 0,31 |
| Смаленская . . . . | 1,84 | 0,50 |
| Чарнігаўская . . . . | 1,31 | 0,36 |
| Сярэдне | 1,08 | 0,32 |

У гэты лічбы увашло ўжываньне спірту як да піцьця так і для другіх патрэб, г. зн. для тэхнікі, аптэк і інш. А дзеля гэтага каб атрымаць цыфры „піцьця“ спірту, трэба адняць ад паказанага ліку пэўны працэнт. Працэнт гэты для ўсіх краін зьяўляецца, з большага, аднолькавым і прапарцыянальнасьць ужываньня астаецца, больш-менш, тая-ж самая.

Гэткім чынам, мы бачым, што гарады пьюць водку куды больш (у тры і нават у пяць разоў), чым адпаведныя вёскі.

З гарадоў найменш пьюць гарады Ковеншчыны і Вітабшчыны, пасьля ідуць гарады Меншчыны, Магілёўшчыны і Віленшчыны, і ўрэшце піцьцё сільна павышаецца ў кірунку на ўсход і поўдзень г. зн. у гарадох Чарнігаўшчыны і Смаленшчыны. Сярэдне ў беларускіх гарадох выпітай 40° водкі прыходзіцца каля 1 вядра (20 бутэляк) ў год на душу жыхарства.

Лік ужываньня спірту вёскай ідзе крыху ў другім парадку а найменна: найменш пье вёска Віленшчыны пасьля Ковеншчыны і Вітабшчыны; значна больш (на 50%) пье Горадзеншчына, Магілеўшчына, Меншчына і Чарнігаўшчына і яшчэ больш пье Смаленшчына. Сярэдне вёска беларуская і Літоўская выпівала ⅓ вядра (каля 6½ бутэляк) на душу жыхарства ў год (½ бутэлькі на чалавека ў месяц.)

Нашы ведамкі аб піцьці на Беларусі былі бы ня поўны каб мы не параўнялі яго з піцьцём у бліжэйшых суседаў.

*Табл. 3.* Параўнаньне ўжываньня спірту на душу жыхарства (1911 г.)

| КРАІНЫ І ГУБЭРНІ. | Ведзер | Бутэляк | Ведзер | Бутэляк |
|---|---|---|---|---|
| Беларусь . . . . . . . . . | 1,08 | 20 | 0,33 | 6,5 |
| Эўр. Расія . . . . . . . . | 1,15 | 30 | 0,46 | 9,0 |
| Латвія . . . . . . . . . . | 1,87 | 37,5 | 0,24 | 5,0 |
| Эстонія . . . . . . . . . . | 2,54 | 51 | 0,30 | 6,0 |
| Польшча . . . . . . . . . | 1,00 | 20 | 0,25 | 5,0 |
| Архангельск. губ. . . . . . | 3,31 | 66 | 0,51 | 10,0 |
| Кацярынаслаўская . . . . . . | 1,51 | 30 | 0,87 | 17,5 |
| Тульская . . . . . . . . . | 2,12 | 42 | 0,66 | 13 |
| Ніжагародзкая . . . . . . | 2,15 | 43 | 0,52 | 10,5 |

Гэта табліца нам наказвае, што гарады Беларускія і Літоўскія па ўжываньню спірту стаяць на апошнім месцы паміж усімі краінамі быўшай Расійскай Імпэрыі, і толькі Польшча піла ня больш чымся Беларусь. Гарады Расіі ў паўтара раза больш пілі, Латвійскія гарады пілі блізка ў два разы больш, Эстонскія ў два з паловай. Паасобныя-ж губэрні пілі і яшчэ больш прыкладам гарады Архангельскай губ. пілі ў 3½ разы больш; Тульскай і Ніжагародзкай больш чым у два разы.

Сколькасьць піцьця водкі па вёсках ідзе крыху ў другім парадку. Мала менш чым беларуская вёска піла польская, эстонская і латышская. Вес-

ка-ж па ўсей Эўрапэйскай Рассіі піла ў $1^1/_2$ разы больш чым беларуская а паасобныя губэрні і яшчэ болей. Прыкладам, Архангельская у $1^1/_2$ разы, Кацярынаслаўская звыж $2^1/_2$ разоў і г. д.

Усе прыведзеныя цыфры, ўзяты з афіцыяльных крыніц, а найменна, з публікаваных „Депертаментом Неокладных сборов“ справаздач.

Як мы бачым „пьянства“ на Беларусі і Літве не зьяўляецца нечым трагічным, і калі так можна сказаць, не зьяўляецца „нацыянальным“ злом. Ужываньне водкі на Беларусі ня толькі ня большае, чымся ў яе суседзяў, а наадварот куды меншае. Дзеля гэтага *Беларусь можна назваць краем цьвярозым, а не пьяным*, і гэта ня гледзячы на тое, што па вытвару спірту Беларусь займала адно з першых месц у быўшай Расіі.

І запраўды хто знаёмы з беларускай вёскай, той добра ведае, што там алькаголікі — зьявішча блізка нябывалае, пьяніцы—зьявішча рэдкае. Пьюць найчасьцей у сьвяты, ці то народныя і рэлігійныя, ці то сямейныя, ды і то пьюць у меру.

Нельга не адзначыць аднэй, дужа прыемнай характэрнасьці. Гэта к чэсьці беларускай кабеты, трэба сказаць, што яна не пьяніца. Кабеты—пьяніцы на Беларусі — рэч нябывалая. Калі пьюць дык пераважна мужчыны. У той час як прыкладам у Асяродкавай, ды і па ўсей Расіі Кабеты пьюць, з большага, столькі-ж, сколькі мужчыны.

Цікава яшчэ глянуць на тое, ці пьянства на Беларусі і Літве з бегам часу пашыраецца, ці убывае.

*Табл. 4.* Ужываньне сьпірту па душу жыхарства на гадах. (у вёдрах)

| ГУБЭРНІ. | У гарадох. | | | | | На вёсках. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1907 | 1908 | 1909 | 1910 | 1911 | 1907 | 1908 | 1909 | 1910 | 1911 |
| Віленская . . | 1,09 | 1,11 | 1,01 | 0,99 | 1,14 | 0,24 | 0,23 | 0,22 | 0,22 | 0,21 |
| Вітабская . . | 0,98 | 0,96 | 0,93 | 0,92 | 0,95 | 0,27 | 0,26 | 0,25 | 0,26 | 0,27 |
| Горадзенская. . | 0,75 | 0,72 | 0,66 | 0,67 | 0,69 | 0,31 | 0,27 | 0,28 | 0,30 | 0,30 |
| Ковенская . . | 0,76 | 0,77 | 0,71 | 0,63 | 0,64 | 0,27 | 0,26 | 0,25 | 0,25 | 0,26 |
| Магілеўская . . | 1,17 | 1,12 | 1,05 | 0,06 | 1,09 | 0,35 | 0,31 | 0,29 | 0,30 | 0,31 |
| Менская . . | 0,95 | 0,97 | 0,94 | 0,96 | 1,01 | 0,34 | 0,33 | 0,32 | 0,33 | 0,35 |
| Смаленская . . | 2,99 | 2,15 | 1,85 | 1,78 | 1,84 | 0,56 | 0,47 | 0,43 | 0,45 | 0,50 |
| Чарнігаўская. . | 1,27 | 1,13 | 1,19 | 1,24 | 1,31 | 0,42 | 0,37 | 0,31 | 0,34 | 0,36 |
| Сярэдня . | 1,19 | 1,11 | 1,04 | 1,03 | 1,08 | 0,34 | 0,31 | 0,29 | 0,32 | 0,32 |

Як мы бачым, значных зьмен у ліку ўжыванай водкі на Беларусі і Літ-

зе за пяцігадовы пэрыёд часу (г. зн. ад 1907 да 1911 году) няма. Рожніца ёсьць толькі ў сотых частках, Калі-ж узяць два канцавыя гады г. зн. 1907 і 1911, то ўжываньне водкі нават крыху зьменшылася.

Падвоздячы падрахунак усяму сказанаму мы павінны прысьці да такіх вывадаў.

1. Вытворчасьць спірту на Беларусі высока разьвіта.
2. Беларусь край цьвярозы, а не пьяны.
3. Кабеты на Беларусі пьюць вельмі мала.
4. Пьянства на Беларусі не расло, а наадварот, мела тэндэнцыю замяншацца.

*К. ДУШЭЎСКІ.*

# Два вайсковых статуты.

Шмат дарагіх для нашай гісторыі пісьменных помнікаў знаходзіца у расійскіх бібліатэках і музэях. Паміж іншымі ёсьць там два вайсковых статуты пісаныя беларускай мовай. Яны абодвы апісаны ў „Военном журнале“ 1853 г. № 5.

Першы статут знаходзіцца ў Пецярбургскай Публічнай бібліатэцы. Гэта рукапіс in 4-to, 236 карцін, пісаных скорапісьсю, называецца ён „Фундамэнт максымы фортыфікацыйнай“. Н. Обручев падпарадкавае гэты рукапіс, па часу яго напісаньня, да канца XVII стагодзьдзя, але гэта вымагае спраўджаньня, бо магчыма, што статут напісан шмат раней і толькі пазьней перапісаны.

Фортыфікацыя не выкладаецца ў рукапісе як сыстэматычная навука, ён зьмяшчае ў сабе мешаніну агульных правіл, датыкаючых, як вайскова-інжэнернай творчасьці, так і дзейнасьці войскаў ў полі. Відаць імкненьне аўтора (чы аўтораў) надаць пэўны парадак зьместу і прыдаць вывадам навуковую форму. Відаць шырокае карыстаньне чужаземнымі крыніцамі, што зыявілася ў тэрміналёгіі; сустрачаюцца цэлыя артыкулы перакладзеныя з чужаземных моваў на беларускую, прыкладам аб профілях.

Пачынаецца „Фортыфікацыя“ выкладам агульных асноваў навукі умацаваньня месц. У гэтым прыпадку паняцьці ў слаўных продкаў нашых былі зусім здаровыя, ім добра ведамы правілы выбару месцовасьці для крэпасьці і правілы распалажэньня іх, яны ўжо разумелі карысьць даць крэпасьці палажэньне, каб яна магла абараняць са ўсіх старон подступы да яе, але пабудова патрэбнага для гэтага фронту, ім яшчэ невядома.

Далей ідзе вялікі, цалком перакладзены, артыкул аб профілях, які дае лёгка зразумелыя правілы збудаваньня крэпасных сьцен і валаў, пры чым абасноўваецца ўсё не на матэматычных аблічэньнях, а на чыста практычных вывадах.

Паняцьце крэпасьці даецца гэткае: „Фортэцыя ёсьць места, акружанае доламі, рампарамі, бальярдамі, у каторым месьце можна з малым лікам людзей абараняцца супроць ворага“.

Фортыфікацыя дзеліцца на дасканальную і недасканальную; да першай належаць правілы будаваньня украпленьняў (фортэцый) на роўнай мясцовасьці, да другой — фортэцыі, гэтым вымогам не задавальняючыя. Рукапіс тлумачыць, што недасканальнасьць фортыфікацыі вынікае ці ад фігуры, ці ад ліста (плану) „которое маеть фортыфіковатися“. Ад фігуры залежыць неда-

сканальнасьць у тым прыпадку, калі бакі, ці куты, няроўныя, ад ліста-ж калі „няроўнасьць таго месца перашкаджае зрабіць куты ці бакі роўна".

На гэтым і канчаецца падзел фортыфікацыі на дасканальную і недасканальную.

Далей апісываецца абарона крэпасьці, г. зн. што патрэбна для скутэчнай абароны, як размяшчаюцца войскі, і якія робяцца запасы для абароны.

Затым надта здалёк пачынаецца апісаньне аблогі крэпасьці. Апісываецца падгатоўка войска да выступленьня ў паход, аб тым, як яно ідзе ў часе паходу, скрываючы сваё пасуваньне наперад, каб вораг ня мог прыгатавацца да абароны; як войска перамагае перашкоды, спатыканыя ў дарозе. Аб пераходзе праз рэкі гаворыцца: „зробяцца на іх масты з чаўноў, якія возяцца на вазах, каб магла перайсьці армата бяз шкоды", г. зн. і тады ўжо істнавалі пантоны для накладаньня мастоў. Але вось, ўрэшце, перамогшы ўсе перашкоды, войска зьяўляецца пад фортэцыяй ці горадам і перад ім паўстае пытаньне: як захапіць фортэцыю. Для гэтага прапануюць браць адкрытай сілай, калі можна захапіць яе, дзеля нягоднасьці сьцен ці нязгоды ў гарнізоне. Але калі-б захапіць фортэцыю адкрытаю сілай неўдалося, тады трэба дабываць яе „per la via a metodica" г. зн. шляхам правільнай аблогі. У апошнім здарэньні радзіцца сьцясьніць абараняючагася пры дапамозе „forti di катрапіеја", г. зн. палявымі украпленьнямі, не дазваляючымі абложаным выхаду з фортэцыі за харчамі і пошырам, каб выклікаць у гарнізоне голад, а праз яго і здачу. Пасьля разглядаецца капаньне „падступных шанцаў" устройства батарэй для аблогі і дзейнасьць з іх.

Пасьля гэтага аўтор дае рады ўжо абараняючымся, прапануе ім шэраг спосабаў, якія карысна ўжываць процiў ворага і радзіць лістамі, адозвамі і дзейнасьцю агентаў падбурыць мясцовых жыхароў і, стварыўшы з іх войска, напасьці на аблягаючых, чым па яго разуменьню, можна прымусіць іх зьняць аблогу.

На гэтым канчаецца тое, што належыць толькі да фортыфікацыі. Далей ідуць думкі аб „бітвах ваенных", не пазбаўленыя цікавасьці. Пасьля агульных, кароткіх радаў апісана, які павінен быць склад войска і яго узброеньне, затым акрэсьляецца самы бой: „бойка ваенная ёсьць множства узброеных, гвалты дзеячых і праганяючых, ўзаёмна сьціраючыхся". Бітвы дзеляцца на дробныя і „енэральныя або ўсецэльныя".

Наступаючыя бітвы бедны правіламі. Затое абаронныя—разабраны дэтальна і лепш.

Канчаецца гэты цікавы рукапіс артыкулам „аб капітуляцыях" дзе апісаны варункі здачы войска.

Другі статут знаходзіцца у Маскоўскім Румянцаўскім музэі. Гэта фаліянт маючый ў сабе 363 карціны. Рукапіс зьмяшчае: арытмэтыку ці шчысьленьне, геомэтрыю, касмаграфію і „Architekture militaris doctrina" ці "архітэктуры ваеннай навука."

Для нас цікавы толькі апошні разьдзел „архітэктуры", зьмешчаны на 108 картах, пачынаючы з 255-га і да канца.

Як відаць з часта ўжываных аўторам італьянскіх слоў, рукапіс зьяўляе сабой перапрацоўку з італьянскага падручніка, сустрачаецца шмат полёнізмаў. Гэткі-ж рукапіс маецца ў Петраградзкай Публічнай бібліотэцы, але экзэмпляр яе няпоўны. Ні ў экзэмпляры Румянцаўскага музэю, ні ў экзэмпляры Публічнай бібліатэкі няма „фэгур" (фігур) на якія увесь час ссылаецца тэкст. Гэта ў некаторых мясцох утрудняе разбор рукапісу, робячы яго незразуме-

лым і заблутаным.

Н. Обручев адносіць гэты статут таксама да канца XVII стагодзьдзя.

І-я частка „архітэктуры ваеннай“ пасьвячана аблозе і абароне фортэцый. Фортыфікацыя акрэсьляецца ў рукапісе так: „архітэктура ваенная ёсьць тое каб зрабіць месца такім, у якім месьце людзём сядзець малым і каб людзі маглі бараніць месца і сябе з таго места ад многіх ворагаў“. Фортыфікацыя падзеляецца на дзьве часткі: „мунаторная“, — абарончая і „опунаторная“ — наступаючая. У правілах разьмешчаньня фортэцыйных вэркаў радзіцца паступова паніжаць іх ад цэнтру ўзмацаваньня да поля, бо „першы фундамант ўсей архітэктуры ёсьць той, каб ня было ні ў месьце альбо ў замку ніводнага такога месца, з якога ня можна было-б абараніцца і біць ворага з усіх месц у тым месьце — зпераду, ззаду, або з боку“. Далей ідзе слабы даволі разгляд вядомых у той час французскіх і італьянскіх сыстэм разьмяшчаньня фортэцыйных будоўляў.

2-я частка называецца „Аб аблозе і аб абароне месцаў і што ёсьць абоз“. Аблога акрэсьляецца, як стаяньне пад горадам“ інакш яна мянуецца „аблажэньнем“. Для аблогі спачатку знаходзіцца месца пад „абоз“. г. зн. для разьмешчаньня войска для аблогі, затым робяцца шанцы і будуюцца „судэсты“ (батарэі).

Але абараняючыяся не застаюцца спакойнымі да гэтага, а пачынаюць страляніну вылазкі і рыхтуюць унутраную абарону.

3-я частка трактуе „Аб агнёх ваенных і аб шарэнгах жаўнераў і аб пораху“. Порах робіцца „з трох частак (з салітры, з серкі і з вугалёў)“, апісаньня прыгатаўленьня пораху зроблена зусім правільна ў канцы дададзены нават „рэгулы“ аб тым, як спраўджаць, папраўляць і лячыць сапсаваны порах. Добра зроблены апісаньні гранатаў, бомбаў, агністых ядраў „каркасаў“, сьветлых ядраў і іншых вайсковых агнёў. Між іншым паказана асобны склад агнявога дожджу, які кідаецца з мартыры (мажджэру) у форме ядраў такім чынам, каб ядро пападала на дом, разьбівалася, загаралася і запаляла-б будоўлю. Успамінаецца таксама аб матэрыі, якая гарыць у вадзе, ад вады, а таксама ад сьліны загараецца.

Пасьля апісаны гарматы, якія дзеляцца па сучаснаму на тры клясы, прычым „мажджэры ёсьць арматы трэцяй катэгорыі“; даюцца правілы, як знаходзіць вагу і дыямэтр ядра, апісываюцца калібры, пастаноўка іх і стральба з іх.

Рукапіс канчаецца апісаньнем будаваньня „абозу“, г. зн. войска. Зроблена яно чыста матэматычна. Аўтар унікнуў вышэйшага аналізу, але скарыстаўся квадратовымі каранямі. Вось прыклад разрахунку аднаго з будаваньняў таго часу, называецца гэта будаваньне „дублета“. Дзеля гэтага трэба падзяліць на дзьве часткі жаўнераў аддзелу і з аднэй палавіны знайсьці квадратовы карэнь і сколькі ў тым карані будзе, столькі-ж будзе шарэнгаў. Далей трэба памножыць гэты карэнь на два і сколькі тагды будзе, столькі трэба жаўнераў у кождай шарэнзе. Калі аддзел складаецца з 1.000 жаўнераў, то палавіна іх роўна 500. $\sqrt{500}=22$, г. зн. будзе у атрадзе 22 шарэнгі, а помножыўшы 22 на 2 атрымаем 44 жаўнеры у кождай шарэнзе.

44×22 дае 968, значыцца яшчэ 32 жаўнеры, на кождае здарэньне, ёсьць ў запасе.

*Падаў Меер РУЖАНЦОЎ.*

# Думкі і разважаньні.

## Дзьве Праўды.

У пасобных людзей і цэлых грамадзкіх груп рожных народаў існуюць два праціўныя й няпрыязныя сабе перакананьні. Адны кажуць, што ў адносінах да чужое, на‘т варожае нацыі трэба кіравацца таею-ж этыкаю, якая вымагаецца ў адносінах паміж людзьмі аднаей тэй-жа нацыі. Другія даводзяць, што ў адносінах да няпрыязнае, непрыяцельская сабе нацыі этыка ня можа забавязываць, што тут усялякія спосабы барацьбы добры.

У каго-ж праўда і якімі спосабамі павінны мы карыстаццца ў сваёй нацыянальнай працы й барацьбе за адраджэньне і вызваленьне свайго народу з-пад чужацкага ярма. Адказ на гэтае пытаньне знойдзем найлягчэй, калі заглянем у сваю душу. Што-ж пасьля векавога сну й рабскага служэньня чужнікам зрадзіла першага сьвядомага Беларуса? Пасьля страшнага нацыянальнага ўпадку Беларусы страцілі нацыянальную ідэйнасьць (якая цяпер проста ў нас завецца сьвядомасьцю), жаданьне агульна для ўсяго беларускага народу дабра. Страціўшы нацыянальную ідэйнасьць і маючы агульную, хоць вельмі ня ясную, расплыўчатую, часта толькі інстынктыўную, сьвядомасьць свае нацыянальнае асобнасьці, Беларусом не ставалася нічога іншага жадаць, як толькі свае асабістае карысьці. А дзеля таго што кожды, думаючы толькі аб сабе, быў адзінокім і слабым, то дзеля гэнае асабістае карысьці мусілі пайсьці на службу да розных „паноў“, гаспадароў палажэньня, прадаючы ім сваю энэргію розум, чэсьць, сумленьне — ўсё. Не пярэчыць гэтаму тое, што гэткія прадажныя рабы адны „любілі“ больш аднаго, а другія другога пана, бо й найгоршыя рабы розна адносяцца да розных паноў. А што служба Маскалём і Паляком запраўды ў нас была гэткім рабскім прадажніцтвам больш ці менш прыкрываным рознымі „поглядамі“, „пераконаньнямі“, „узгадаваньнямі“ й г. д. можа сьведчыць як найлепш той, здавалася-б надзвычайна дзіўны факт, што тыя, якія яшчэ некалькі год назад з пенаю баранілі Расійскія патрэбы, цяпер пад польскай акупацыяй ахвотна пераходзяць да гэткае-ж абароны польскіх нацыянальных інтарэсаў у Беларусі. Ці-ж не найлепшай ілюстрацыяй зьяўляецца гэткі факт: залетась на адным грамадзкім сходзе ў Навагрудзкім павеце адзін зоолёгічны Беларус, абруселы інтэлігент, заявіў: „Мы Беларусы былі пад маскоўскаю ўладаю добрымі Маскалямі, цяпер можам быць добрымі Палякамі, калі палякі будуць да нас добра адносіцца (калі будуць іх рабіць польскімі ўраднікамі, афіцэрамі, паліцэйскімі й г. п.). Нам ўсё роўна“.

Па меры таго, як у Беларусаў, загразшых у гэткае маральнае балота, праяўлялася пачуцьцё сумленьня, чэсьці этыкі, пачуцьцё сваей людзкай годнасьці яны рабіліся сьвядомымі (ідэйнымі) Беларусамі. У першым нашым нацыянальным гымне „А хто там ідзе“, на пытаньне „А чаго-ж, чаго захацелася ім (Беларусам), — адказуецца „Людзьмі звацца“. У другім, пазьнейшым нашым гымне, выказуецца вера наагул у людзей і адначасна вера ў сваіх беларускіх людзей: „Не пагаснуць зоркі ў небе, пакуль неба будзе, не загіне край наш родны, пакуль ж ы в у ц ь  л ю д з і. Б е л а р у с к а ю рукою, с ь в е т л а й  п р а ў д ы сіла, долю лепшую напіша Беларусі мілай. Зацьвіце наш край, як сонца, паміж ўсіх народаў“. Заўсёды чэснасьць, сумленнасьць, этычнасьць, ідэалізм, павінная працы дзеля свайго народу радзілі сьвядомых Беларусоў, наадварот эгоізм і матэрыялізм удзержвалі несьвядомых паміж чужымі. Беларус, захоплены нат,

ідэяй, якой чужы нацыянальны дух, раней ці пазьней прыходзіў да нацыянальнае сьвядомасьці, а матэрыялісты або неэтычны сьвядомы Беларус з часам астыгае або здраджае справу і пераходзіць да чужнікоў. Толькі этычнасьць, ідэалізм, пачуцьцё грамадзкае павіннасьці й жаданьне агульнага дабра могуць вытварыць і ўдзяржаць сьвядомасьць і салідарнасьць такога вялікага грамадзкага арганізму, якім ё Народ. Але гэтых варункаў не дастанем бяз веры ў людзей і пачуцьця насамперш сваей людзкай годнасьці, што зьвязана з аднолькава этычнымі людзкімі адносінамі, як паміж людзьмі розных, і на‘т, непрыяцельскіх паміж сабою нацый. Гэта адна праўда, якой мы ніколі не павінны забывацца.

Але ё яшчэ другая праўда, ня менш важная за першую як для кождага паасобнага чалавека, так і для Вялікага Чалавека — Народу. Праўда гэтая, як закон прыроды, прынята ўсімі рэлігіямі сьвету і ўсімі цывільнымі правамі і выражаецца гэтак: калі на цябе хто нападае, хочучы забіць, ты, каб абараніцца ад сьмерці, маеш права (няма грэху й ня будзеш караны) яго забіць. Прырода, даўшы чалавеку інстынкт самазахаваньня, на‘т цьвярдзей кажа: твая павіннасьць ёсьць бараніцца ўсімі дадзенымі табе мною (даступнымі табе) спосабамі ад сьмерці і, калі інакш нельга, ты мусіш, павінен забіць нападаючага. Няма сумлеву, што той народ, які ўсімі даступнымі яму спосабамі ўціскае другі народ, каб ня даць яму магчымасьці разьвівацца й жыць, той народ, які, пачынаючы ад акупацыі і далей пры помачы школы, адміністрацыі, яўнае й патайнае паліцыі, жандармэрыі, усякіх гатункаў вялізарнага, прыведзенага ў край войска й сыстэматычнага грабаваньня патрэбных для існаваньня народу прадуктаў і г. п. і канчаючы сумысным давядзеньнем да сьмерці масаў варочаючыхся уцякачоў, колёнізацыяй, мусіць быць разгляданы, як нападаючы з мэтаю забіць. Калі пануючы народ у асобе сваей ўлады не прызнае на‘т быцьця ўціcканага ім другога народу або не дае яму нацыянальнае школы (расійцы й палякі ў адносінах да Беларусоў). Такі народ ё нападаючым з мэтаю забіць. Або ці-ж можа быць ярчэйшы прыклад нападаючага народу з мэтаю забіць, як заява прадстаўніка пануючага народу, што дзякуючы ўціску за якісь час уціcканы народ будзе зьніштожаны (польскі міністр Скульскі заявіў: „За 50 г. ня будзе ніводнага Беларуса“). Бяда нападзенаму, які пры гэткай небясьпечнасьці выбіраў-бы калі, дзе й пачым выцяць нападаючага разбойніка, гора, яму, бо ён быў-бы забітым. Нападзены ў такім прыпадку мусіць сабраць усе свае сілы, усе свае думкі, усю ўвагу зьвярнуць на абарону, а выбіраць спосабы тут няма калі, ўсе спосабы добры якімі можна бараніцца, і кожды спосаб тым лепшы, чым лепш ім можна бараніцца. Бараніцца ўсімі магчымымі спосабамі ад сьмерці — гэта ё другая праўда, якая зьяўляецца адначасна й абавязкам кождага чалавека й кождага Народу. Дзьве гэтыя праўды не пярэчаць адна аднэй, наадварот, другая выплывае з першае бо людзкая годнасьць ня толькі дазваляе, але й вымагае, каб загрожаны сьмерцьцю бараніўся ўсімі даступнымі яму спосабамі ад другога нападаючага на яго разбойніцкага (культурнага ці някультурнага ўсё, роўна) Народу.

**Ці пярэчаць.**

У бесканечных гутарках, стацьцях, протэстах і інш. проці польскіх уціскаў і зьдзекаў над паняволенымі беларускім і украінскім народамі блізу што заўсёды чуецца: „Палякі нам павінны былі-б спагадаць, бо яны самі былі пад няволяю ў чужнікоў“, „Ледзь толькі самі вырваліся з чужога ярма, а ўжо над іншымі зьдзекуюцца“ і г. п. Дзіўна, што гэтак кажуць людзі ня толькі далейшых географічна ад Польшчы народаў, якія могуць добра ня

ведаць, як зяпраўды Палякі былі ўціснаны, але гэта звычайна кажуць нават Беларусы й Украінцы.[1]) З усіх трох гаспадарстваў, пад якімі апынуліся часьці падзеленае Польшчы, толькі ў Прусах Палякі запраўды былі ўціснаны і адначасна самі ніякага іншага народу не ўціскалі. Але нават і ў Прусах уціск Прусакамі Палякоў быў шмат меншы за той нячуваны ўціск, які цяпер церпяць пад Палякамі Беларусы й Украінцы. Што-ж да Палякоў, якія былі пад аўстрыяцкай і расійскай уладаю, дык першыя мелі аўтаномію, а другія, праўда, былі уцісканы, але і ў сотай часьці ня былі ўцісканы й перасьледаваны так, як цяпер уцісканы й перасьледаваны Палякамі Беларусы. Але ў выробленьні псыхолёгіі гвалту і зьдзеку над іншымі народамі галоўную ролю мае ня тое, ці даны народ быў уцісканы, але ці адначасна ён не уціскаў іншых. Дыкжэ, Палякі ў Аўстрыі уціскалі Украінцаў у Галіччыне, а ў Расіі Беларусоў ўсёй заходняй палавіны Беларусі, а так сама Украінцаў у Холмшчыне, на Валыні і Падольлі. Да падзелу Польшчы палякі ўціскалі Беларусоў, пачынаючы ад Люблінскае уніі 1569 г., а Украінцаў у Галіччыне яшчэ раней. Ад прылучэньня, пасьля падзелу Польшчы, Беларусі да Расіі, польскі ўціск над Беларусамі ня толькі ня зьменшыўся, але яшчэ ў многа разоў павялічыўся. Будучы ўсе пад Польшчаю, Беларусы бараніліся ад полёнізацыі ўсёю сваёю масаю, цяпер-жа вялікшая часьць іх была ўзята Расійцамі Маскалямі-сабе на абрусеньне, а другая-меншая каталіцкая часьць аддадзена на зьежу Паляком. Расійскі ўрад проста памагаў Палякам палячыць Беларусоў каталікоў. Бо ці-ж можна было лепш памагчы полёнізацыі Беларусоў-каталікоў, як забаронаю беларускае мовы ў касьцеле царскім указам 1839 г., або забаронаю беларускага друку 1865 г. Гэныя перашкоды, якія рабіў Расійскі ўрад у справе палячаньня Беларусоў, запраўды зьяўляліся Паляком дарагою падмогаю. Праўда, Расійцы не дазвалялі спалячаным паном заводзіць польскія школы для беларускага каталіцкага насяленьня, але адначасна не дазваляючы Беларусом і беларускіх школ, а накідаючы ім расійскую школу, гэтым пхнулі Беларусоў каталікоў у абоймы полёнізацыі. Тыя перашкоды ў апалячываньні Беларусоў, якія расійцам мо здаваліся праўдзівымі, запраўды ня былі такімі. Маскалі прыбілі Беларусь і, стаўшы на яе сваёй цяжкой ступой дапушчалі да яе Палякоў, дазвалялі ім нават добра ласавацца ёю, але не выпушчаючы Беларусоў з-пад свае нагі, яны адначасна прыдзержвалі Палякоў, дражнячы і выробляючы ў іх надзвычайную прагавітасьць. Я бачыў калісь гэткі абраз. Паляўнічы дзяржаў аднэй рукой, прыцісьнуўшы да зямлі, злоўленую птушку, а другой рукой дзяржаў на рэмяні сабаку. Птушка яшчэ была жывая й, трапечучыся, старалася вырвацца; сабака, відаць ужо пакусаўшы птушку (на зямлі было пер'е), ірваўся да яе з прагавітымі вачыма. Гледзячы на гэны абраз чалавек ня ведаў, што падумаць: ці паляўнічы хоча ўратаваць ад сабакі птушку, ці наадварот ён удзержывае для сабакі птушку, хоць пакуль што з ім дражніцца. І мернае злосьці сабака, навязаваны час ад часу, робіцца злым, а паўпанак і аканом, стаўшыся самі панамі, заўсёды будуць горшыя за сваіх ранейшых паноў,

Польскія адносіны да нас цяпер ня толькі не пярэчаць польскай мінуўшчыне, але наадварот прыродна выплываюць з яе. Гутаркі аб тым, што Палякі цярпелі і дзеля гэтага маглі-б лепш да нас аднасіцца, ў вуснах Беларуса маюць тую самую прычыну, што і беларускае бедаваньне над пакрыўджанай вайной Бэльгіяй. Беларус, пахаваўшы памершую з голаду ў часе вайны і уцякацтва жонку й некалькіх дзяцей, затаіўшы ў грудзёх сваіх боль і жаль ўсьцешае сябе тым, што не з адным ім так сталася. Наслухаўшыся-ж або начытаўшыся аб зруйнаванай Бэльгіі, ўздыхае: „Ах, бедная Бэльгія!" Пры-

[1]) Ад Украінцаў я чуў толькі ад тых, якія з Вялікае Украіны.

чына ўся ў тым, што мы думаем, гукаем і робім ўсё так, як гэта робяць іншыя чужнікі, нат не стараючыся прытарнаваць гэнага да свайго жыцьця, прычына ў тым, што мы дагэтуль яшчэ ня жывём собскім жыцьцём і собскімі патрэбамі.

*БРАЧЫСЛАЎ СКАРЫНІЧ.*

# Запіскі.

**Альгердаускі пояс.** У полацкім Барыса-Глебскім, (?), (што у цэнтры гораду мужскім монастыры), у цёплай манастырскай дамовай царкве, бачыў я (у 1916 годзе) 16 кавалкаў *(зьвенняў)* сярэбранага пояса, прымацаваныя да сярэбранай рызы старасьвецкага абраза М. Божай. Пояс ў штодзенным манастырскім жыцьці называўся „княжым“, або „альгердаўскім“. На чым апіралася гэта традыцыйная назова, мне не ўдалося даведацца. Пояс па стылю напамінаў некаторыя застаўкі тураўскага Эвангельля XI ст. Кождае зьвяно было ажурнай работы; матыў рысунку-пераплеценыя зьмяявікі. Зьвеньні былі адліваныя, з рысункам з аднэй стараны, якія, пасьля ачышчаны былі гравіроўкай. Адно зьвяно было значна большае са сьледам адламаньня падысподам; праўдападобна адламаны быў кручок да зашпіляньня, а само зьвяно было палавінай пражкі. З гэтай падысподнай стараны быў рысунак, выбражаючый ў кружку цэнтаўра з молатам у аднэй і стралой, ці наканечнікам копія *(суліцай)* у другой руцэ. Пададзены тут рысунак зьнят у натуральную яго велічыню (зьнімак зроблен пры помачы паперы наложанай на арыгіналі нашараванай зьверху канцом алуўка).



Прымітыўна зьняты рысунак, за некалькі гадоў часу замазаўся, так што пры перарысоўцы на клішэ рысаўніку, магчыма было праўдна азначыць контуры, але нельга было ўхапіць ценяваньняў, а разам з гэтым і стылю.

Два зьвяны гэтага пояса былі набыты ад манахаў для беларускага музэю вядомым беларускім грамадзкім дзеячом і археолёгам Іванам Луцкевічам. Думаю, што ў музэі імені гэтага заслужанага дзеяча ў Вільні, яны маюцца і цяпер. Вельмі было-б пажадана каб Віленскае Беларускае Навуковае Таварыства, зфотаграфаваўшы гэту рэдкую памятку, памесьціла ў друку.

*Л-кі.*

**Манэта тураўскага князя Сьвятаполка (X ст.)** У нумізматычнай літэратуры вядома манэта тураўскага князя Сьвятаполка, які, пры жыцьці свайго бацькі Валадзімера, каб адсэпаравацца ад Кіева, хрысьціў тураўцаў паводле лацінскага абраду. Валадзімер, адказаў на гэта вайной, ў якой тураўцы былі разьбіты на галаву, так што сам Сьвятаполк і біскуп Рэйнбэрг былі ўзяты ў няволю і адвезены ў Кіеў. Атрымаўшы перамогу Валадзімер другі раз хрысьціў тураўцаў,



Манэта Сьвятаполка кн. тураўскага.

цяпер ўжо па ўсходняму абраду. Манэта паходзіць відочна з часаў найбольшай сілы Сьвятаполка.

На аднэй старане манэты маецца чалавечая фігура сідзячая на пасадзе, з крыжам у руцэ, а кругом надпіс: „Сьвятополко на столе“, з другой—гэрб, левая палавіна якога выбражае крыло адкрытага складня, правая мае,—чатырохраменны крыж і надпіс наўкруг: „се его сребро“.

**Народны падзел між беларусамі.** Пры поўнай сьвядомасьці сваей адналітнасьці беларускі народ вельмі чутак да разных мейсцовых асобнасьцяў ў сваей мове; паводле гэтых асобнасьцяў мовы існуе падробны падзел, некаторые з гэтых „прозьвішч“ мне ўдалося сабраць між 1912—1914 годам, часьцю ад этнографаў (Сержпутоўскі, Романов, Ельскі, Сьнітка), часьцю ад самага народу.

*Сякі.* Сякамі называюць у сярэднім падзьвіньні (ніжэй Вітабска) жыхароў верхняга падзьвіньня, якія гавораць „сяк“ замест-

..армо, дарэмна. „Ці ты ў яго кўпіў гэту вя-..оўку?“—„Не, ён мне сяк яе даў“.—„Сякава ..вая работа, хлопча, ўсё роўна вада зьнясе ..амост“.

*Гэцікі, гегуны, гэтукі*; так называюць ..еларусаў наўзьмежныя маскалі, якія замест ..еларускага гэты, гэна, гэткі, кажуць—етот, ..ты, еткі.

*Какстамі.* Называюць беларусаў ус-..одных паветаў Смаленшчыны, якія замест ..як“ кажуць—как. У сярэднай Беларусі „как-стамі“ завуць сьвежа вярнуўшыхся з войска ..алдатаў, якія адвучыліся ад сваей мовы і, ..аагул, зрусуфікаваных.

*Сакунамі.* Называюць случчан, якія ..ымаўляюць: гаворытса, пішатса, робітса, ка-..катса і т. д.

*Цакунамі* завуць жыхароў Вяліжскага .. суседніх паветаў, якія не вымаўляюць лі-..тары „ч“, а кажуць:—цаго, цалавек, цотка, ..цакаць.

*Лапацонамі* называюць беларусаў Чар-..нігаўшчыны, асабліва украінцы, таму, што ..кажуць яны замест „лавіць“—лапаць.

*Пынякамі* слывуць Мсьціслаўцы, якія ..маюць прыслоўе „пыні“. „Я, пыні, кажу табе! „Ты, пыні, слухай добрай рады“.

*Кагакі* гэтак завуць барысаўцаў і ака-..лічных, якія гавораць замест „каго“, „чаго“, „яго“,—„кага“, „чага“ „яга“.

*Дудукамі* называюць Менчукоў, якія ..гавораць замест „гутарыць“,—дудукаць. „Саб-..раліся, падудукалі аб сім, аб тым“. „Старыя ..дудукаюць сабе на прызьбе седзючы“.

*Ю. В.*

**Аб хросным імяні Ягайлы.** Агульна прынята лічыць, што, да хрышчэньня ў каталіцтва Ягайла быў хрысьціянінам ўсходняга абраду. Аднак некаторыя польскія гісторыкі, апіраючыяся на тагочасных данных, запярэчуюць гэтаму, кажучы, што Ягайла хрысьціянінам ня быў, што ня толькі Ядвіга, але ўсе ў Польшчы лічылі ў тыя часы Ягайлу паганінам. Цэннае сьведчаньне ў гэтай справе дае кс. Островскі („Dzieje i prawa Kościoła Polskiego“, II. 429), ён кажа: „што яшчэ ў тыя часы каталіцкі касьцёл ня быў развязаўшы пытаньня што да сьвятасьці хрышчэньня па грэцкаму абраду; што толькі папеж Александар VI скасаваў гэты звычай (між 1492 і 1503 г.), прызнаўшы хрышчэньне па грэцкаму абраду, на аснове Флёрэнтыйскага Сабору, важным“. Да таго-ж часу, асабліва ў Польшчы, кожды не католік лічыўся паганінам. Нават у XV і XVI сталецьці кожды навахрышчоны русін называўся Neofitus. Паўторнае, каталіцкае хрышчэньне разрывала нават папярэдна завязанае сужэнства, калі адна з старон аставалася пры старой веры. (Acta con. Lieopoliensa t. II, p. 329, № 1174) Цэркві праваслаўныя называлі сынагогамі. (Acta con. Lieop. de anno 1467 t. I. p. 146, № 323) Падобная тэрміналёгія у стасунку да праваслаўных стасавана была ня толькі ў Галічыне, але і на Беларусі. Дык з вышэйсказанага відаць, што тэрмін „паганін“ і пераконаньне аб „паганстве“ Ягайлы, знамяніта маглі быць стасаваны да яго, калі ён нават быў хрышчоны па ўсходняму абраду.

Другое з чароду пытаньне, якое хроснае імя было Ягайлы?. У старабеларускай транскрыпцыі імя гэтае пішацца з літарай „К“—Якгайла. Літары „кг“ вымаўляліся як адно лац. „g“. У Усх. Русі чыталі, праўдападобна, гэтае напісаньне разьдзельна, як „к“ і як „г“. Усходна-рускія летапісьцы, у якіх захавалася, зрэшта даволі позная вестка, што хрысьціянскае імя Ягайлы было—Якаў, незнаючы беларускіх асобнасьцяў, сфабрыкавалі па дагадцы: - „Якгайла“, „Якайла“ „Якаў“, „Яковъ“.

У аколіцах Вітабска, дый па ўсей Беларусі, дагэтуль імя Ягайла ўжываецца ў народзе. Гэта ёсьць хроснае імя Іоанн. Ад гэтага імя ідуць выводныя: Югась, Ягась, Югайла, Ягайла (так як: Міхась, Міхайла); жаночыя: Югася, Югаля, Ягася, а нават проста Яга.

Гэта дае права думаць, што першае хроснае імя Ягайлы было не Якаў а Іоанн.

*В. Л.*

**Дзевіна гара.** Гэтак называлі даўней замковую гару ў Полацку. Трэба лічыць, што гэтае найменьне сягае сівой старасьвеччыны, калі пад імем „дзевы“ чцілі сонца. Пры гэтым цікава адмеціць, што рэка Дзьвіна, пры наклоне беларускай мовы да поўнагалосья, ў вуснах народу (прыкладам аколіцы Бешанкавіч), зычыць—Дзевіна.

Са слоў Я. Івашэўскага (Леп. пав.)

**Археолёгічныя помнікі тураўшчыны.** На абшарах Беларусі ёсьцьць шмат археолёгічных рэчаў, а таксама і археолёгічных месц і ня рухомых помнікаў. На абшарах тураўшчыны, амаль што не на кождым кроку—і на нівах селян, і на сенажацях, і ў барох, і ў розных дубнякох сустрачаюцца „курганы“, адны з іх абгароджаны праслямі, а паверх іх стаяць крыжы, пастаўленыя месцовымі жыхарамі, другія абрасьлі дубняком ці бярэзьнікам, трэція апусьціліся ў балота і толькі на вяхоўках іх красуюцца кветкі, чацьвертыя згубіліся ў лясным гушчары. І восьмоўчкі стаяць гэтыя сьведкі сівой старасьвеччыны і чакаюць—калі-ж гэта, калі прыдуць людзі сьвядомыя, людзі навукі і парушаць іх правечны сон, і адрыюць з зямлі цікавыя рэчы і пралюць больш сьвятла у цемру мінуўшчыны.

Акром курганаў у тураўшчыне (як і ў Пятрыкаўскай воласьці у двох верстах ад места) знаходзяцца так званыя „гарадцы“. Прыкладам такі „горадзец“, ясна вызначаны, знаходзіцца ў дубовым лясу паміж вёсак Азяраны і Буда-Беганская, ён мае форму чатырохкутніка, кождая старана якога мае сажаняў сто; на аднэй старане валу пралажана лясная дарога, па краёх абсаджаная грабам, ўсе другія валы густа зарасьлі дубам і хвояй; усходны кут „гарадца“ ўлез у балота (а можа абмываўся калісь ракой, замест якой цяпер цячэ вада па канаве ў Прыпяць за тры вярсты). Сярэдзіна „гарадца“ зарасла дубам і хвояй.

Зварачваюць на сябе ўвагу ў тураўшчыне і каменныя крыжы; іх пакуль што лічыцца тры: ў Тураве, ў Рычаве і ў Пагосьце, кожды такі крыж з цэльнага камяня да сажня даўжыні, высечаны груба, з датамі року, якія амаль што сьцерліся ад часу. Па нашай думцы, гэта межавыя крыжы былога тураўскага княжства, якія калісь-то стаялі на межах яго з пінскім княжствам і валынскім. Паміж іншым, месцовыя жыхары вельмі шануюць гэтыя крыжы і перакананы у тым, што крыжы прыплылі да іх з Кіева.

Ня менш цікава агледзіць у самым Тураве камянную скрыню, ці „літоўскую“ труну, якая знаходзіцца у капліцы на могілках каля вёскі Запясочна.

Сярод лясоў Тураўскага і Азяранскага лясьніцтваў, у кірунку да Танежа, на поўдзень ад в. Хлупін, ёсьць цікавыя вазёры, ў якіх, як кажуць мясцовыя жыхары, знаходзяцца кодабы караблёў, або доўгіх і вельмі шырокіх бэрлінаў, як яны трапілі туды, сярод лясоў, за 10—15 вёрст ад Прыпяці — вось пытаньне, якое трэбыло-б людзям навукі разтлумачыць, каб не было мейсца бабскім байкам.

„С. Б.“ 66 (763).

**Крыж XII сталецьця.** Нідаўна ў Менскі беларускі музэй, гурток моладзі „Рунь“, перадаў бронзавы крыж які раздымаецца на дзьве палавінкі уздоўж і знайдзен на полі. Крыж аднесен да XII ст.

„С, Б.“

**Падземны ход.** У мястэчку Грэску, слуцк. пав. ёсьць старое гарадзішча; апошнімі часамі селяне пачалі разкапываць гарадзішча дабываючы вапенны камень і пры гэтым адкапалі падземны ход, які ідзе глыбока ўніз, зроблен з цэглы. Ніхто ў той ход не лазіў і куды ён ідзе невядома.

„С. Б.“

---

# Агляд культурнага жыцьця Беларусі

## *Даклад грам. Мялешкі „Камянныя помнікі беларускай старасьвеччыны“.*

На гэту тэму у Менску ў „Таварыстве Гісторыі і Старасьвеччыны“ меў лекцыю грам. М. В. Мялешка. Даклад складаўся з такіх аддзелаў: камянь у вераньні стараветных народаў; зьяўленьне камяня; камяні „гойбіты“ (ісцэліцелі); камяні „краўцы“ і „шаўцы“; камяні з выбітымі знакамі; „Вітаўтавы“ камяні, камянныя паганскія багі; камяні з хрысьціянскімі помянамі (эмблемамі); камяні з надпісамі і лічбамі; камянь з фінікіянскім надпісам; Усьвяцкі камянь; камянны помнік 1569 г. у дварэ Сакарове; камянны помнік 1242 г.; камянь Рагвалода 1171 г. у Воршы; Барысавы камяні на р. Дзьвіне у Высокім Гарадцы над Вяльёй, у м. Раманаве; Вялейскі камянь.

Заданьнем пралектара было зарэгістраваць, пералічыць тыя камянныя беларускія помнікі, якія носяць гістарычна-архэологічны характар, к чаму ён і падышоў праз этнографічны шлях, разгледзіўшы народныя пагудкі і вераньні нагул аб камянях.

## *Беларускае Навуковае Таварыства.*

У Маскве утварылася Беларускае Навуковае Таварыства, якое ставіць сваей мэтай апазнаньне Беларусі, ў яе этнографічных межах, як у гістарычным мінулым так і ў сучаснасьці. У Гомелі, Вітабску і Смаленску будуць адчыняны філіяльныя аддзелы. У склад таварыства увайшлі: акад. Д. Н. Анучын (антропологія)

праф. В. В. Багданаў (этнографія), праф. М. Бэркэнгэйм (хімія), праф. В. Р. Брайцев (мэдыцына), П. З. Зеньковіч. В. Кнорын, праф. Д. Н. Канавалаў (гісторыя рэлігій), праф. Канчалоўскі (гісторыя), праф. Крэгетовіч (батаніка), праф. Н. М. Кулагін (зоолёгія), М. У. Мароз, праф. Н. П. Оганоўскі (эканаміст), І. Е. Парэчын (вучоны аграном), В. Р. Рыдзігер, праф. П. А. Растаргуевъ (філалогія), праф. Н. П. Сіліхіч (геаграфія), праф. Турук (гісторыя), праф. А. Ф. Фартунатоў (статыстыка), М. Фрумкіна, праф. У Д. Шымановіч (садаводзтва).

Статут Т-ва зацьверджан Н. М. Пакроўскім.

*Беларуская асоцыяцiя пры Інстытуце С. Гаспадарскі ў Петраградзе.*

Пры Петраградзкім Інстытуце С. Гасп. сарганізавалася беларускае студэнцтва ў гурток „Беларуская Асоцыяцыя“. Асоцыяцыя ладзіць чытаньне лекцый па беларусазнаўству. Кіруе „Асоцыяцыяй“ праф. Е. С. Канчар, вядомы аўтор кніг па беларусазнаўству.

*Беларускія культурна - навуковыя асоцыяцыі ў Маскве.*

Беларусы студэнты Маскоўскіх вышэйшых школ згуртя ваны ў беларускія культурна-навуковыя асоцыяцыі, лікам да пятнаццаці. Ўсе асоцыяцыі згуртаваны каля Беларускага Клюбу. Агульны лік сяброў асоцыяцыяў каля 600, з іх у Пятроўскай Акадэміі 209. Штотыдня, ў нядзелю, адбываюцца агульныя сходы, на якіх чытаюць лекцыі, па розных пытаньнях аб Беларусі, прафасэры і сябры Клюбу.

*Літоўскі статут у Бел. Дзярж. Бібліятэцы.*

Бел. Дзярж. Унів. Бібліатэка у Менску абагацілася важнейшым і рэдкім помнікам беларускага друку —„Літоўскім Статутам“ выданьня 1588 г. (Вільня, Друкарня Мамонічаў).

Гэту каштоўную кнігу Бібліатэка здабыла ад беларускага этнографа А. П. Сапунова.

*Рабіндранат Тагор па Беларуску.*

Студэнт Віленскага Унівэрсытэту, Грынкевіч, пералажыў „Нацыяналізм“ Рабіндраната Тагора на беларускую мову.

*Гурток Беларускае Культуры ў Менску.*

Сваей мэтай гурток мае паглыбленьне і пашырэньне сярод сваіх сяброў веды па Беларусазнаўству. (Беларуская мова, прыгожая пісьменство, гісторыя і этнографія Беларусі). Гурток мае сэкцыі: 1) Гістарычна-этнографічную і 2) Літэратурную, якія з прычыны таго, што з вялікім лікам учасьнікаў марудна працаваць, разьбілася на дзьве часьціны.

У працы гуртка Беларускае Культуры прымалі чынны ўдзел Ус. М. Ігнатоўскі і Ул. В. Чаржынскі. Агульны лік сяброў гуртка 65 чалавек.

*Разгляд падручнікаў.*

Дзеля разгляду падручнікаў, якія будуць уведзены ў школу у 1923-1924 школьным годзе, у Менску утворна спэцыяльная Камісыя ў складзе гр. Каранеўскага, Шукевіча Трецьцякова, Некрашэвіча прадстаўніка ад агітпр. ЦБ і ад Бюро Нац. мен.

*Цантральны Архіў Савецкай Беларусі.*

Прэзыдыумам Ц. В. К. Беларусі 12 верасьня 1922 году быў зацьверджан статут Цантральнага Архіву С. С. Р. Беларусі, які мае сваей мэ-

тай збор, цэнтралізацыю, сыстэматызацыю і выданьне архіўных фондаў розных быўшых, а таксама і істнуючых дзяржаўных устаноў, арганізацый, саюзаў т. д, каб потым магчыма было даць гісторыку або эканамісту матар'ялы у розных пытаньнях дзеля перапрацоўкі ў навуковыя творы.

*Беларуская Дзяржаўная і Ўнівэрсытэцкая Бібліатэка ў Менску.*

Згодна з планам арганізацыі Беларускай Дзяржаўнай і Унівэрсытэцкай Бібліатэкі, яна павінна зьяўляцца цантральным краёвым кнігазборам, адначасна выпаўняючым функцыі фундамантальнай акадэмічнай бібліатэкі, пры галоўнай вышэйшай школе Беларусі. Гэта быў праект цанралізацыі кнігазборнай справы на Беларусі. 1 мая г. г. Бібліатэка была афіцыяльна адчынена ў новым памяшканьні, як Дзяржаўная і унівэрсытэцкая бібліатэка Беларусі.

Аснаўнымі кніжнымі фондамі Бібліатэкі зьявіліся неарганізаваныя кнігазборы Наркамату Асьветы Беларусі сабраныя ім у часе рэвалюцыі (да 40.000 тамоў), бібліатэка б. Духоўнай Сэмінарыі (да 20.000 т.) і шэраг другіх значных папаўненьняў. Пры дапамозе Цантральнага Выка. наўчага Камітэту Беларусі, які уважна адносіўся да патрэб бібліатэкі-былі цалком закуплены бібліатэкі акад. Е. Карскага, праф. Н. Янчука, праф. П. Жуковіча, І. Карнілава, О. Дылы і др. Найбольш значныя ахвяраваньні кнігамі Бібліатека атрымала ад Управы Замежнага Гандлю Беларусі і ад д-ра Гурвіча з Нью-Ерку (д-р Гурвіч родам з Менску). Усяго за год бібліатэка атрымала каля 100.000 тамоў, з якіх да 25 кастрычныка зарэестравана 89.000 т.

Важнай галінай працы Бібліатэкі зьяўляецца ўкладаньне беларускай картэткі — картачнага каталёгу ўсіх калінебудзь выйшаўшых кніжак пабеларуску або аб Беларусі. Гэтай працай займаецца Беларускае Бібл аграфічнае Бюро пры Бібліатэцы,

Прымаючы пад увагу тую н тужную працу, якая вядзецца Бі ліатэкай, і тую ўвагу, з якой адн сіцца да яе Праўленьне Б. Д, Ун ту, а таксама вышэйшыя дзяржа ныя органы Савецкай Беларусі, д надзею, што ў блізкай будучы Б. Д. і Ун. Бібліатэка стане вялікі кнігазборам, маючым значэньне дл ўсяе Беларусі.

*Становішча архіваў у Вітабску.*

На абшарах усёй Вітабшчыны зьнішчана шмат архіваў, а ў самы Вітабску архівы прадаваліся на пр цягу некалькіх гадоў, прадаюцца цяпер у крамах на трох рынка На Полацкім рынку ёсьць, напрык лад, вялікія крамы гандлюючы выключна толькі архіўнай папера І ніякіх крокаў для спыненьня гэ тага злачынства ня было зроблен з ўвесь час істнаваньня ў Вітабск Архіўнай Управы.

*Даклад Маслакаўца аб Рагнедзе*

28-га красавіка ў Таварыстве Гісторыі і Старасьвеччыны Маслака вец прачытаў даклад на тэму: „Сказы аб Рагнедзе". Перш ён затрымоўваецца на разглядзе „Повести временных лет", пасьля чаго зрабіў заяву, што сказы аб Рагнедзе ў гэтым першапачатковым летапісе зьяўляюцца пагудкамі былiннага характару, на якім апірацца, як на гістарычным дакумаце, ніяк нельга. Разглядаючы далей сказы аб Рагнедзе, якія знаходзяцца ў пазьнейшых летапісах Лаўрэнцьеўскім, Цьвярскім і Густынскім,Масклакавец знаходзіць што яны напісаны па старых легендах ў стылю царкоўнага, так званага, жыцьця сьвятых.

У выніку разгляду памянёных крыніц Маслакавец робіць катэгарычную заяву аб тым, што сказы аб Рагнедзе зьяўляюцца пазьнешы-

мі ўстаўкамі ў летапісі, што храна, лёгія, адносячаяся да гэтага сказу у параўнаньні з рознымі гістарычнымі крыніцамі надта блутаная і што карыстацца сказамі аб Рагнедзе трэба з вялікай асьцярогай. Па думцы Маслакаўца, Рагнеда была пахавана не ў Заслаўлі Менскім, а ў Кіеве.

Дакладчыку за ўсіх прысутных адказываў адзін толькі праф. Пічэта. Вітаючы Маслакаўца, што ён пачынае ўступаць на намечаны ім (Пічэтай) шлях беларускай гісторыяграфіі, праф. Пічэта затрымоўваецца галоўным чынам не на фактах тэмы, а на мэтадзе, па якому зроблена распрацоўка сказаў аб Рагнедзе.

Праф. Пічэта ў даволі рэзкай форме заявіў, што дакладчыкам ня выпаўнены навуковыя патрэбаваньні як, напрыклад, ня выкарыстан ўвесь гістарычны матарьял, які датычыцца тэмы, няма філёлёгічна-крытычнага агляду летапісаў, не разгледжан фолькльёр для адшуканьня легенды аб Рагнедзе і г. д.

Праф. Пічэту некалькі разоў адказываў дакладчык, які, паміж іншым, падкрэсьліў, што яго даклад зусім не прэтэндуе на абсалютную праднасьць і безпярэчнасьць, а зьяўляецца спробай адзначыць новыя сьцежкі, высунуць новыя пытаньні пры разглядзе старадўных фактаў гісторыі Беларусі.

У сваіх прамовах праф. Пічэта прывёў некалькі гістарычных падрабязгаў, яшчэ ня маючыхся ў друку, але вельмі цікавых для беларускае гісторыі. Так, знойдзена арабская крыніца, якая засьведчае некаторыя факты старажытнай гісторыі, якія ў апошнія часы навукай лічыліся выдумкамі, легендамі. Знойдзен візантыйскі хронограф, па якому напісана летапісь Нестара.

У Маскве знойдзен географічны плян XVI в., на якім, паміж іншым, каля Полацку знаходзіцца Заслаўль; так што магчыма, што Рагнеда была пахавана не ў Заслаўлі Менскім, а ў Заслаўлі Полацкім. Маскоўскі праф. Арлоў у сучасны момант канчае сваю працу па гісторыі літэратуры Полацкай зямлі X—XII векаў, у якой легенду аб Рагнедзе лічыць, ак астаткі мастацкай літэратуры палачанаў.

## *Беларускі краёвы музэй.*

Год таму назад у быўшыя архірэйскія пакоі ўвайшла першая вучнёўская экскурсія, складаўшаяся з 15 дзяцей. Большасьць пакояў былі яшчэ ці пустыя, ці завалены грудамі таго, што цяпер складае музэй. Толькі ў дзьве залі, абстаўленыя ўжо разабраным матер'ялам, можна было пусьціць дзяцей.

Прайшоў год. Усьлед за гэтай экскурсіяй у дзьверы музэю шырокаю хваляй уліваліся новыя экскурсіі, аддзельныя групы і асобы. Сто экскурсіяў, а ўсяго да 10.000 асоб прайшло праз музэй за год. Цыфра гавора сама за сябе. Цікавасьць да музэя расьце, і кождую нядзелю залі музэю поўны публікай.

За год у музэй паступіла звыш 10.000 рэчаў (усяго больш 14000.) Імі запоўнены ўжо 7 вялікіх заляў, у 2 пакоях зьбіраецца матарьял для адчыненьня новых аддзеляў, у складах чакаюць сваёй чаргі другія экспанаты.

## *4 гадавіна Горацкага Сельска-Гаспадарскага Інстытуту.*

7-га красавіка гэтага году прайшло якраз чатыры гады, як у гор. Горках Смаленскай губ. адчыніўся Сельска-Гаспадарчы Інстытут.

Сельска-гаспадарчы факультэт складаецца з двох аддзяленьняў: аддз. расьцінаводзтва і прамысловых культур і аддз. лясное гаспадаркі. Інжэнэрна-агранамічны — таксама з двух: сельска-гаспадарскай мэліорацыі і сельска-гаспадарскага машынаведаньня. Апроч таго прызнана, што Горацкі Інстытут зьяў-

ляецца абласным і павінен абслугоўваць Смаленскую, Гомельскую, Вітабскую, Бранскую губэрні і Беларускую С. С. Рэспубліку.

Цяпер у Інстытуце на аснаўных факультэтах вучыцца і гатуецца да агранамічнае працы 735 студэнтаў. На рабочым факультэце 150 студ. і 220 курсантаў вучацца на работнікаў па землябудаўніцтву, (праходзіць каморніцка-таксатарскія курсы).

*Этнаграфічная экспэдыцыя.*

У Менску ўтворана этнаграфічная экспэдыцыя дзеля выведаў беларускага быту і зьбіраньня рэчаў для этнаграфічнага музэю. У склад экспэдыцыі ўвайшлі кіраўнікам М. В. Мялешка, праф. Я. Я. Полфёраў, Л. Дашкевіч і М. В. Азбукін. У першых чыслах мая экспэдыцыя павінна прыступіць да працы і дасьледаваць Ігуменшчыну, Бабруйшчыну, Случчыну і Мазыршчыну.

*15 летні Юбілей У. Галубка.*

20-га красавіка сьвяткавалі у Менску юбілей 15 гадоў літэратурнай тэатральнай працы Ўладыслава і Галубка.

*Асьвета ў Заходняй Беларусі.*

На гэту тэму ў № 6 віленскай беларускай газэты „Новае Жыцьцё“ зьмешчан артыкул беларускага пасла ў польскім сойме С. Міхайлоўскага. Вось што ён піша ў гэтым артыкуле:

„З розных мястэчак і валасьцёў даходзяць да нас весткі аб гаротным становішчы нашага беларускага вучыцеля. Нудзіцца ён, бедны, без сваёй прафэсыянальнай працы, баліць яго сэрца, што дзеці вясковыя дзічэюць без навукі, бо няма сваіх беларускіх школ, а калі некаторыя з іх і вучацца ў школе польскай, дык надта малб карысьці для сябе выносяць адтуль, бо цяжка дзіцяці перамагчы і мэханізм чытаньня ў чужой мове і зьмест таго, што чытаецца.

Відаць з усяго, што і вучыцельцы польскай нялёгка з нашымі дзяцьмі працаваць, няма ахвоты да працы, ды мусіць неадпаведным спосабам падгатавана і сама вучыцелька дый не дапасованы падручнікі польскія да навучаньня нашых дзяцей у чужой для іх мове.

Мучаюцца дзеці, мучаецца польская вучыцелька, і хварэе душой кваліфікаваны, але безработны беларускі вучыцель, бачучы ўсё гэта, ды седзячы бяз працы і бяз грошы.

Ведаем мы з афіцыяльных даных, што сярод польскага вучыцельства ёсьць некваліфікаваных 9.784 асобы („Glos nauczycielski“). Мусіць з гэтае лічбы значная частка працуе ў польскіх школах на нашых беларускіх абшарах, бо, прыглядаючыся да іхнай працы, мы прымушаны сьцьвердзіць, што вялікая частка іх не адпавядае свайму назначэньню“.

Затым, аўтор разглядае становішча тых беларускіх настаўнікаў, якія скончылі польскія курсы ў Кракаве. Хоць з матар'яльнага боку яны і лепш забясьпечаны за тых, што ня былі на курсах, бо атрымліваюць сталую пэнсію (знаходзацца на грашовым утрыманьні міністэрства асьветы), але маральна яны мучаюцца ня менш за сваіх таварышоў—„некракавякаў“. У школах беларускіх ім працаваць не даюць, за імі сачаць усе, *„каму так падабаецца сачыць за кождым інтэлігэнтат-беларусам.“*

З гэтае прычыны беларускі настаўнік сядзіць, „як мыш пад венікам“, баючыся подлых даносаў. Аб гэтых настаўніках „апякуны“ пішуць у міністэрства асьветы свае адозвы, а міністэрства, беручы пад увагу гэтыя адозвы, назначае беларускіх настаўнікаў ці ў польскую ці ў беларускую школу — *„залежна ад... здольнасьцяў і пераконаньняў вучыцеля“*. Яшчэ ў часа гадавых курсаў ў Кракаве міністэрства асьветы вы-

явіла, хто з курсантаў добра ведае беларускую мову і якую мае кваліфікацыю; і калі настаўнік шчыры беларус і можа добра паставіць беларускую школу, дык яго міністэрства назначае у *польскую* школу ды яшчэ ў самую Польшчу — Конгрэсоўку“.

Далей:

„Каб скомпромітаваць хоць тыя нямногія беларускія школы, якія яшчэ трымаюцца ў нас, назначаюцца ў іх вучыцелькі з былых кракаўскіх курсантак, якія там, у Кракаве яшчэ, выказывалі сваё няпрыхільныя адносіны да ўсяго беларускага, якія слаба ўладаюць беларускай мовай і нават не маглі сваей біографіі напісаць у роднай мове. Маем на гэта яскравы факт з ня так далёкіх дзён —гэта назначэньне вучыцелькі Залінскай у адну адзінную школу беларускую на ўсёй Горадзеншчыне, у самай Горадні“.

## *Школьныя кнігі.*

I. Напісана і прыгатавана да друку інж. К. Душэўскім „Трыганамэтрыя“ Рукапіс набыты Міністэрствам Беларускіх Спраў у Літве. Калі гэты, вельмі патрэбны падручнік для беларускіх школ угледзіць сьвет — трудна сказаць.

II. Ператлумачана і прыгатавана да друку „Геамэтрыя“ Кіселева. К. Душэўскім. Рукапіс чакае выдаўца.

III. „Мінэралёгія Геалогія і Крышталаграфія“ напісана і прыгатаван да друку К. Душэўскім. Падручнік гэты прытасаваны да вымогаў старшых клясаў сярэдніх сельска-гаспадарскіх і тэхнічных школ, а так сама і для самаасьветы людзей, знаёмых з пачаткамі хіміі і фізыкі. Рукапіс чакае выдаўца.

IV. „Хімія“ для сярэдніх школ напісана праф. В. Іваноўскім. Рукапіс чакае выдаўца.

V. „Слоўнік расійска—беларускі“. Приступлена Міністэрствам Беларускіх Спраў у Літве да друку расійска—беларускага слоўніка, апрацаванага В Ластоўскім. Аўтар працаваў над гэтым слоўнікам шмат гадоў. У слоўніку зьмешчана звыж 20 тысяч слоў.

VI. „Анатомія і фізыология чалавека“ Малышева ператлумачыў доктар Ів. Цьвікевіч. Рукапіс набыты Міністэрствам Беларускіх Спраў у Літве і хутка пойдзе ў друк. Такім чынам да новага вучомнага году школа беларуская будзе ўжо мець гэты патрэбны падручнік.

## *Знайдзены рукапісы Максіма Багдановіча.*

Бацька Максіма Багдановіча, вядомы беларускі этнограф, паведаміў у Менск, што ў яго маюцца паперы яго сына. Сярод тых папераў ёсьць некалькі дзесяткаў вершаў апошняга пэрыоду творчасьці М. Багдановіча, нідзе не надрукаваных, немаль усе яго чарнавікі, пераклады з іншых моў, экзэмпляр „Вянка“ з папраўкамі паэты, яго артыкулы ў расійскай мове, перапіска, якая часта насіла характар цаннейшых аглядаў — досьледаў літэратурнай вартасьці, беларускі лемантар, над якім працаваў пісьменнік, перадсьмяротныя лісты бацьку, таварышам і шмат іншага.

Больш пуда важаць ўсе гэты рукапісы. Бацька паэты мае перадаць рукапісы у Інстытут Беларускай Культуры у Менск.

# Агляд прэсы.

## ВОЎЧЫЯ СЬЛЁЗЫ.

У перадавым артыкуле „Kurjera Polski'ego" за 19-е красавіка выказваецца жаль польскіх паноў на тое, што адносіны паміж імі і беларускім сялянствам надта папсаваліся. І дзеля чаго?

Самі-ж беларусы і украінцы выказалі сябе няздатнымі да ўласнай дзяржаўнасьці, сваё дзяржавы заснаваць не змаглі. Польскі жаўнер абараніў усходнія землі ад бальшавікоў, і ў падзяку за гэта, польскі народ мог разьлічаць на падмогу з боку Беларусаў і Украінцаў. Канстытуцыя забясьпечае ім можнасьць ўсестароннага разьвіцьця. Праўда ёсьць дрэнныя чыноўнікі на крэсах, але ж на тое ёсьць беларускія і украінскія дэпутаты, каб выкрыць іх.

Усё папсаваў выбарны закон, які злучыў усе няпольскія элемэнты дзеля абароны ад польскага нацыяналізму. Падтрыманьню нездаволеньня шмат спрыяе здэклясаваная расійская інтэлігенцыя—чыноўнікі, настаўнікі і інш., якія не знаходзячы сабе адпаведнай працы, лічаць сябе пакрыўджанымі, Называючы сябе нават беларусамі ці ўкраінцамі, гэтыя інтэлігенты зьяўляюцца заядлымі працаўнікамі беларускай або ўкраінскай нацыянальнасьці, таксама, як і польскай дзяржаўнасьці. Шкадлівай працы гэтых элемэнтаў яшчэ спрыяе тое, што беларуская і украінская мовы яшчэ мала разьвіты.

Выбарны закон згуртаваў у адно жыдоў, немцаў, беларусаў, украінцаў і расійцаў. Усё зблуталася і цяпер трэба старацца гэта направіць. Такою папраўкаю магло-б быць *утварэньне спэцыяльнага камісарыяту па справах усходных крэсаў*. Гэты камісарыят і мог бы аздаровіць адносіны на ўсходных землях.

Каб ацаніць гэтае „панскае пакаяньне" і яго шчырасьць, даволі толькі падумаць аб зьдзеках польскіх паноў над сялянствам Заходняй Беларусі, аб арыштах беларусаў цэлымі сотнямі! У той самы час, як сотні нявінных арыштаваных людзей пакутуюць у польскіх турмах Горадні, Вільні, Бярэсьця,—варшаўскія паны клапоцяцца аб тым, як заспакоіць беларускае селянства! Якая агідная камэдыя.

Душачы ўсімі сіламі ўсё няпольскае, зьдзекуючыся над беларускімі рабочымі і сялянствам, над беларускай інтэлігенцыяй, — палякі, побач з гэтым, хочуць паказаць сваю дабрату, хочуць ашукаць грамадзянскую думку заграніцы. Польскі друк ня піша аб зьдзеках на Беларусамі але затое ён ахвотна піша аб нікчэмных праектах польскага ўраду зрабіць дабрадзейства тым самым Беларусам, якіх ён уціскае.

## ПОЛЬСКІЯ ГАЗЭТЫ АБ УСХОДНІХ ГРАНІЦАХ ПОЛЬШЧЫ.

Сярод трыумфуючых галасоў польскай прэсы з прычыны прызнаньня ўсходніх межаў Польшчы, — усёж такі часам чуваць цьвярозыя галасы, якія зусім не падзеляюць гэтага оптымізму. Так „Przegląd Wileński" ў № 6 у стацьці пад заг. „Doraźny zysk", адзначыўшы, што гэтыя ўдачы польскай заграічнай палітыкі будуць трываць толькі да таго часу пакуль „будзе істнаваць утварыўшыйся пасьля ўсесьветнай вайны ўклад сілаў у Эўропе", які безумоўна ня можа трываць доўга, дзеля таго, што найбольшыя эўрапэйскія народы: расійскі і нямецкі выключаны ад уплываў на міжнародную палітыку, газэта пераходзіць да разгляду сілаў, якія шмат болей маюць значэньня ў гэтай справе, чым росчырк пяра сучасных валадароў сьвету.

„Карыстаючы з памысных каньюнктур і абладаючы адпаведнаю сілаю можна відавочна вырысаваць на карце любыя граніцы і асадзіць іх слупамі і штыкамі, чаго гісторыя дае нам частыя прыклады. Але гісторыя так сама вучыць, што ўсялякія штучныя падзелы, абапёртыя на палітычных, стратэгічных і эканамічных камбінацыях, якія ня лічацца з тэндэнцыямі разьвіцьця народаў і краёў, ня вытрымлівалі даўжэйшых часоў і зьнікалі пры першым подмуху буры падзей, а калі доўга трывалі, гвалтуючы натуральнае разьвіцьцё падзеленага на часткі арганізму, выклікалі хваравітыя зьявішчы, а часта і сьмяротныя-

Бязумоўна усходнія межы Польшчы не апіраюцца ні на гістарычных, ні геаграфічных, ні этнографічных падставах. Зьяўляюцца зусім штучнымі і прыпадковымі... заўсёды будуць жывою ранай на ўсходзе Эўропы, якую не залечаць ніякія дыплёматычныя плястыры, ні найболей радыкальныя мілітарныя ампутацыі".

І хоць цяпер беларускі і украінскі друк мала цікавіць вялікадзяржаўныя ўрады, але ён з кождым днём будзе ўзмацоўвацца і „цяга да сябе разарваных частак Літвы, Беларусі і Украіны будзе ўзрастаць", і павінна прымусіць польскі ўрад падумаць аб тым што можа быць у будучыне.

## ЛІТОЎСКАЯ ПРЭСА АБ ПАСТАНОВЕ РАДЫ ПАСЛОЎ.

Літоўская прэса бяз розьніцы паглядаў катэгарычна выступае проціў пастанавы Антанты адносна далучэньня Віленшчыны да Польшчы. „Elta“ лічыць гэтую пастанову за бяспраўную і няістнуючую. Антанта ў данным выпадку падтрымлівае польскі імпэрыялізм, выступаючы адначасна на шлях канфліктаў і ваеннай палітыкі. Саюзьнікі гэтай пастановай далі доказы свайго маральнага банкруцтва.

„Lietuva“, абгаварываючы справу прызнаньня ўсходніх граніц Польшчы, піша: „Літва, як дзяржава сувэрэнная, ніколі ня прызнае падзелу сваёй тэрыторыі і ня вырачацца Вільні. Прызнаньне Вільні за Польшчай, было аднастаронным актам сілы, які для Літвы будзе неабявязковы і ня будзе мець для яе праўнага значэньня. Літва не пакіне жадань Вільні.“

## АДНАНЁЎКА „КРЫК ПРАЎДЫ“.

У Вільні 20 сакавіка вышла беларуская газэта аднаднёўка пад назоваю „Крык праўды“. *Па зьместу яна выказвала пратэст супроць прызнаньня Усходніх межаў Польшчы. У той жа дзень аднаднеўка была канфіскавана па загаду польскоe ўлады.*

## ШТО ПІСАЛА АДНАНЁЎКА „КРЫК ПРАЎДЫ“.

У перадавым артыкуле, ахвяраваным прызнаньню Антантаю Усходніх граніц Польшчы „Крык Праўды“ кажа:

„Польшча ўходзячы на беларускія землі нясла кліч „роўны з роўнымі“, кідала салодкія абяцанкі.

„Польскае грамадзянства ня то, каб спагадаць нашаму зразумеламу гору, але паўсямесна сьвяткуе і ўрачыста ўзьдзевае ярмо Беларускаму Народу.

Ні адзін польскі голас пратэсту спачуцьця, перасьцярогі. Наадварот, па ўсіх абшарах беларускай зямлі ідуць масавыя арышты, катаваньне ў нічым нявінных селян. Выкараняецца, ніштожыцца ўсё беларускае. Трыумфуюць на пакананай старонцы.

Няма з кім гаварыць, няма на каго спадзявацца. *Масты спалёны.*

### *Зсходная Беларусь Рвецца на Волю.*

Другі артыкул аднаднёўка „Крык Пураўды“ ахвяруе польскаму імпэрыялізму і імпэрыялізму вялікіх дзяржаваў.

Віленскія Беларусы прыходзяць да думкі што надзеі на Антанту і вялікія дзяржавы, што яны дадуць „волю народаў“, прапалі.

„Польскі імпэрыялізм сьвяткуе перамогу:

Вялікія дзяржавы, якія ў часе ўсесьветнае вайны ўрачыста абвяшчалі прынцып самаазначаньня нацыянальнасьцёў якія пышаліся тым, што бытцам-то ваявалі за „волю народаў“,—цяпер, забыўшыся аб ўсіх сваіх старых заявах і дэклярацыях, ня менш урачыста прызнаюць за згодны з міжнародавым правам гвалт над жывым Беларускім Народам...

Рада амбасадараў (паслоў) прызнала ўсходнія граніцы Польскага гаспадарства. Гэтым самым прызнала яна аружны захват Польшчай Заходнае Беларусі, прызнала і той фальшаваны „голас насяленьня“, якім зьяўляецца скліканы пад націскам грубой сілы віленскі сойм, зложаны выключна з аднае толькі польскае часткі насяленьня Вільні і суседніх паветаў.

Адна ўжо гэтая пастанова рады амбасадараў роўназначна прызнаньню, што вайна нічога не зьмяніла ў адносінах паміж народамі. Эўропы, што гэтыя адносіны і надалей будуць укладацца залежна ад таго, хто з вялікіх дзяржаваў будзе мець аружную перавагу. Гэтая пастанова разьвеяла ўсе лятуценьні аб устанаўленьні доўгага, трывалага міру ў Эўропе; яна — запаведзь новых, страшэнных войнаў ў самым недалёкім часе...

Французская імпэрыялістычная думка пераважыла. І цешацца польскія імпэрыялісты.

Затое сумным адгалоскам адбілася вестка аб пастанове рады амбасадараў у сэрцы кождага Беларуса, які шчыра імкнецца да вызваленьня сваёй бацькаўшчыны. Гарачы пратэст проці пагвалчаньня над нашым прыражоным правам на волю і незалежнасьць рвецца з грудзей усяго Беларускага Народу.

---

## АДКРЫТЫЯ ЛІСТЫ ТАРАШКЕВІЧУ АД БАЛАХОВІЧА і ЛАДНОВА.

Падчас спрэчак у Сойме аб крэдытах на далейшае правядзеньне асадніцтва, Тарашкевіч заявіў ў сваёй прамове, што калі асадніцтва ня будзе спынена, дык цярпеньне беларускага селянства можа некалі лопнуць, сялібы асаднікаў пойдуць „Z dymem pożarów, z kurźem krwi bratniej“.

Гэта зрабіла ўражаньне. Трэба было яго аслабіць і кінуць які небудзь цень на асобу гэтага неспакойнага дэпутата. Як відаць, польская дэфэнзыва шмат думала над гэтым пытаньнем, але нічога прыдумаць не магла. Тагды на падмогу й прышлі „беларусы“ Булак-Балаховіч і Ладноў.

Булака-Балаховіча ў нас усе ведаюць як беларускія сяляне, так і ястачковыя жыды, якім ён улажваў пагромы падчас свайго „паходу“ да Дняпра. „Слава“ Балаховіча дакацілася да самых глухіх кутоў Палесья і сказаць „Балаховіч“ цяпер там значыць аднакава, што й сказаць „разбойнік“.

За сваю верную службу Польшчы Балаховіч атрымаў лясную канцэсію ў Белавежскай пушчы. У хаўрусе са спэкулянтамі ён галоціць спрадвечную пушчу, вывозіць дрэва ў Нямеччыну і гэтым „спрыяе“ гаспадарчаму адраджэньню Польшчы і захопленай ёю Заходняй Беларусі. Як жа тады Балаховічу не старацца паслужыць Польшчы і польскай дэфэнзыве?

„Палкоўнік“ Аў гені Ландоў—былы эсэр і беларускі „дзеяч“ пэўны час блутаўся па Эўропе, не знаходзячы сябе прыпынку, пабываў ў Парыжы, і ў Празе, і ў Рэвелі і шмат яшчэ дзе. Нарэшце ён зьнюхаўся з польскаю дэфэнзываю і седзіўся у Варшаве, дзе польскі урад на ўсякі выпадак прыкармліває яго і карыстаецца ім дзеля шпіёнства за беларускімі арганізацыямі.

Гэты самы Ладноў зьяўляецца замесьнікам старшыні нейкага беларускага камітэту.

У зьвязку з прызнаньнем усходніх граніцаў Польшчы. гэты „Камітэт“ з подпісамі Дубяйкоўскага (як старшыні) і Ладнова (як нам. старш.) выдаў падхалімскую адозву, ў якой заяўляе аб радасьці заходня-беларускага сялянства, што яно дасталося Польшчы і што гэта ўрэшце ўсімі прызнана.

Вось гэтыя людзі й прышлі на падмогу польскаму ўраду.

У вячэрнім выданьні газэты „Rzeczpospolita“ за 14-е красавіка надрукованы вялікія „адкрытыя лісты“ Тарашкевічу ад Балаховіча і Ладнова.

Бандыт Балаховіч, называючы сябе „быўшым галоўным камандуючым усімі збройнымі сіламі Беларусі“, пералічае і выхваляе свае заслугі перад... Польшчаю, якой ён верна служыць. А Тарашкевіча ён называе наймітам большавікоў і літоўцаў. Каб больш дацяць Тарашкевіча, Балаховіч параўноўвае яго з Ластоўскім і Смолічам.

Дзеля гэтага Балаховіч, салідарызуючыся з „Беларускім Камітэтам“ Дубяйкоўскага і Ладнова, заяўляе, што адгэтуль ён будзе лічыць Тарашкевіча за ворага айчызны (пэўна, Польшчы) і будзе змагацца з ім усімі спосабамі.

Пан Ладноў, згодна са сваёй шпіёнскай спэцыяльнасьцю, стараецца падкавырнуць Тарашкевіча як раз з гэтага боку. Ніскольkі ня стыдаючыся, а нават лічучы гэта сваёю заслугаю, ён апавядае, як у марцы 1921 году ён рабіў данос польскай ўладзе на беларускіх партызанаў і даводзіў, што яны дзейнічаюць на нямецка савецкія грошы, што паміж Нямеччынаю і Савецкай фэдэрацыяй ёсьць патаемная умова аб падпальваньні беларуска-польскіх непаразуменьняў. 1-га мая 1921 г. разам з Дубяйкоўскім Ладноў данёс аб гэтым і шэфу францускай вайсковай місыі ў Польшчы—гэнэралу Ніссэлю. Тарашкевіч нібы то ведаў аб ўсім гэтым і таксама зьвяртаў на гэта ўвагу польскай улады, але дзе каго й калі—Ладноў гэтага ня кажа.

А потым Тарашкевіч спазнаўся з немцамі, прайшоў да Сойму і пачаў гаварыць аб „дыме пажароў“ якраз у часе суду над каталіцкімі ксяндзямі ў Маскве (!) і крывавымі выпадкамі ў Руры (!), што зусім адпавядае пунктам 4, 7 і 8 тайнай

інструкцыі Чычэрына ад 6-II—1922 году (?!) Адным словам, Ладноў, „як грамадзянін Польскай дзяржавы“ вінаваціць Тарашкевіча ні больш ні, менш, як у патаемнай змове з Чычэрыным (!) і выкананьні яго тайных інструкцыяў.

Невядома, чаго тут болей: хлусьні польскага шпіёнажу, які хоча выслужыцца, ці агалцеласьці сышоўшага з розуму чалавека?.

## СКАЧЫ ЎРАЖА ЯК ПАН КАЖА.

Не глядзя на тое што ніводзін беларускі дэпутат, ніводзін запраўдны, бо выбарны, прадстаўнік беларусаў ня прымаў учасьця ў фошаўскіх урачыстасьцях, польская ваенная партыя сфабрыкавала „беларускую дэлегацыю“ з нанятых за грошы людзей, і вось мы бачылі на вуліцах Варшавы ў польскім урачыстым паходзе групку каля 60 душ: „бацьку“ Балаховіча, Дубяйкоўскага, Ладнова, Грача-Ксяневіча, Адамовіча з сынам „Дзяргачом“, Міткевіча, Хведашчэнью і некалькі дзесяткоў „молодцов“ балахоўскіх, што сякуць на продаж заграніцу Белавежскую пушчу, якія ішлі пад беларускім нацыянальным бела - чырвона - белым сьцягам, нашыўшы на ім, замест пагоні, польскага арла...

*„Нов. Жыц.“*

## ЯК РОБІЦЦА ПОЛЬСКАЯ СТАТЫСТЫКА.

Калі Польшча клянчыла перад заходнімі дзяржавамі аб прызнаньні за ёю Віленшчыны і наогул аб прызнаньні яе ўсходніх граніцаў, польскія палітыкі свае вымаганьні падмацоўвалі лічбамі, статыстыкаю. Польскім урадам быў зроблены перапіс жыхарства ўсходніх крэсаў, і вынікі гэтага перапісу выдаваліся за нешта зусім праўдзівае. Але польскі Ўрад нічога не гаварыў аб тым, як ён атрымаў лічбы свайго перапісу, з чаго яны складаюцца.

Тымчасам сказаць, што ў Навагрудзкім ваяводзтве палякаў 54%, а беларусаў толькі 37,8 прац.,—гэта яшчэ нічога ня значыць. Гэтым можна яшчэ абдурыць каго небудзь з заходня-эўрапэйскіх палітыкаў, не знаёмых з заблутаным становішчам на крэсах, але фактычнае становішча справы ад гэтага ня зьменіцца. Раней ці пазьней праўда выйдзе наверх, і ашуканства выкрыецца.

Галоўная Статыстычная Управа Польшчы апублікавала цяпер усе лічбы, здабытыя перапісам. Яны заслугоўваюць таго, каб у іх разабрацца больш уважна.

Водлуг гэтых лічбаў выходзіць, што на тэрыторыі Валынскага, Палескага, Навагрудзкага ваяводзтваў і 4 паветаў Віленскага, (Дзісенскі, Брацлаўскі, Дунілавіцкі і Вялейскі), у часе перапісу жыло агулам 3.613.505 чалавек. Па нацыянальнасьці яны разьбіваюцца так: палякаў—1.119.864 (31 прац.), беларусаў—910.258 (25,3 прац.), украінцаў—25.997 (0,7 прац.) і іншых 101.238 (2,8 прац.).

Усім вядома, як у нашым краю дзяліў па нацыянальнасьцях расійскі царскі ўрад: хто праваслаўны,—той „рускі“ а хто каталік,—той „паляк“. Гэтак жа лічыць і польскі ўрад, толькі ён перамудрыў нават расійскі царызм. Глянем, якой веры трымаюцца жыхары крэсаў. Водлуг тэй-жа самай польскай статыстыкі на тых жа самых абшарах налічалася: каталікоў—758.920 (21 прац.), праваслаўных—66, 8 прац, жыдоўскае веры—377.590 (10,4 прац.), пратэстантаў—41,641 (12 прац.) і іншых—22.713 (0,6 прац.).

Вельмі цікавае зьявішча! Усім вядома, што палякаў—некаталікоў няма. А з другога боку ведама, што жыды ўсе прытрымліваюцца жыдоўскае веры. Тут ужо нацыя і рэлігія зьліваюцца цалком. З трэцяга боку ведама, што беларусы ёсьць ня толь-

кі праваслаўныя, але таксама й каталікі. Тымчасам водлуг польскай статыстыкі выходзіць, што 1) палякі ёсьць не каталікі, а могуць быць праваславнай і жыдоўскай веры, 2) што беларусаў каталікоў няма ані аднаго, а толькі адны праваслаўныя, 3) што належачыя да жыдоўскае веры не зьяўляюцца жыдамі. І запраўды-ж: палякаў 31 прац., а каталікоў 21 прац., прыхільнікаў жыдоўскае веры—10,4 прац., а жыдоў толькі 8,7 прац., беларусаў і украінцаў разам—56,8 прац. а праваслаўных—66,8 прац.

Ня трэба доўга даводзіць, што ўсё гэта бязсэнсіца, бязглуздзіца. Зусім слушна піша „Kultura Robotnicza“, што:

„Фатуычна лічба жыхарства польскай нацыянальносьці, паданая Галоўнаю Статыстычнаю Управаю, нічога ня кажа нам аб нацыянальным складзе ўсходніх ваяводзтваў але толькі аб вышыні шовіністычнага пачуцьця каміс раў, якія стараліся „зрабіць“ на крэсах як найболей палякаў“.

Гэта найбольш справядлівы погляд на справу.

*М. С.*

## АБ АСАДНІЦТВЕ.

Тыднёвая часопіс „Walka Robotnicza“ выдрукавала вялікі артыкул аб асадніцтве. Часопіс адразу зазначае, што закон аб асадніцтве 1920 году быў сьпешна прыняты Соймам, каб паддаць ахвоты польскім салдатам—сялянскім сыном—ваяваць за паноў.

„Калі закон пачаў праводзіцца ў жыцьцё, дык асадніцтва адразу скіравалі на крэсы, не зважаючы на тое, што ні беларуска-літоўскія землі, ні Усходняя Галіцыя яшчэ фармальна да Польшчы не належалі. Беларусь была далучана да Польшчы толькі на моцы Рыжскай умовы (сакавік 1921 г.), а Усходняя Галіцыя толькі ў мінулыя месяцы.

Асадніцтва мела дзьве мэты: выслаць на крэсы часьць сялянства з каранной Польшчы і аслабіць яго нацiск на тамтэйшыя панскія маёнткі, а падругое — польшчыць Крэсы.

Першая мэта больш менш дасягнута. На крэсы выкінута каля 25.000 сем'яў, лічба малазямельнага сялянства ў каранной Польшчы паменшала, панскія маёнткі пакуль што ўцалелі, але гэта каштавала сотні мільярдаў, каштавала шмат крыві і мукі асаднікам, а таксама і мясцоваму селянству.

Але асадніцтва не ўдалося і ў другім сэнсе: ў сэнсе апалячываньня Крэсаў, бо „аблітыя морам украінскага або беларускага жыхарства, якое іх ненавідзіць, асаднікі апрача ўсяго асымілююцца—украінізуюцца і беларусяцца, бо пустая казна ня мае сродкаў на будаваньне польскіх школаў і закладаньне польскіх парафіяў“.

Далей часопісь дакладна высьвятляе здрадніцкую тактыку вызваленьня і пэпээсаў, якія „гразнуць далей у балоце нацыяналістычна—калёнізатарскай палітыкі.

## ДРУГАЯ МАЗУРСКАЯ КАЛЯНІЗАЦЫЯ.

„Przegląd Wileński“ у № 9 пад павысшым загалоўкам зьмяшчае стацьцю ў якой пароўнывае сучасную калянізатарскую палітыку Польшчы з тым, што было шмат вякоў таму назад, калі палякі перш аружнай сілай, а пасьля калянізацыяй зьнішчылі цэлае літоўскае племя—Ятвягаў—піша:

„У 1921 г. распачалася другая мазурская калянізацыя. Насамперш што тут, то

там на Беларусі зьяўляецца асаднік, праз год прыбыло ўжо іх болей, а ў хуткім часе маецца распачацца калянізацыя ў шырокім маштабе. Год таму назад была мова толькі аб асадніцтве здэмабілізаваных жаўнераў, як аб адзінай мэце задуманай парцэляцыйнай акцыі. Канец 1922 г. пачатак 1923 г. прынёс значны зварот з уласьцівым эндэцыі цынізмам, маючыя ўплыў чыньнікі як урадовыя, так і неўрадовыя, сталі разьвіваць пад яе ўплывам праграму поўнага апалячаньня беларускіх і украінскіх крэсаў, шляхам фарсаванай мазурскай калянізацыі.

Нядаўна адзін з „narodowych“ дзеячоў, відавочна маючы з гэтага пункту гледжаньня нячыстае сумленьне, так гаварыў на адным сабраньні партыйных прыяцеляў: „нашая калянізацыя ня мае нічога супольнага з гакатай! Гаката імкнецца да павялічаньня нямецкай уласнасьці на чужой тэрыторыі, ў тоў час як мы ўзмацоўваем сваю зямельную клясу на ўласнай тэрыторыі“. Гэтае разважаньне было-б ня дрэннае, каб ня тое, што немцы Пазнаншчыну так сама лічылі за належачы да іх абшар, ня гледзячы на этнаграфію і гісторыю! Наперакор гэтым сафістычным вывадам па сутнасьці знойдзем поўнае падабенства паміж адным і другім.

Ды вось, як з дакананым фактам трэба лічыцца з другою мазурскаю калянізацыяй, на гэты разня стыхійнай, але пляноваю і не Падляшша ўжо, але ўсей Заходняй, Беларусі і Украіны.

Залежыць гэта будзе шмат ад якіх акалічнасьцяў, між іншым ад адпорнасьці, на якую могуць здабыцца беларусы і Украінцы.

Мы пераконаны, што наш народ ня гледзячы на страшэнна трудныя варункі яго сучатнага жыцьця, знойдзе ў сабе досыць здаровай жыцьцёвай сілы і волі, каб даць адпор запіраючай яго хвалі польскай калянізацыі і што ўдалося шэсьць вякоў таму назад над Ятвягамі, то ня ўдасца цяпер над беларусамі і украінцамі, і ўсе пляны твораў людаедзкай палітыкі разьвеюцца як дым.

*„Б. Д.“*

## „АПЯКУНЫ“.

На шпальтах афіцыозу цяперашняга ўраду „Gazety Warszawskiej“ зьмяшчаецца справаздача аб адбыўшайся ў Варшаве „Akademji Kresowej“, арганізаванай „Таварыствам апекі над Кресамі“, на якой паміж цэлым шэрагам эндэцкіх сэнатараў і паслоў быў прысутным і лідэр эндэкаў цяперашні міністар асьветы Глонбінскі, які адзначыў, што „крэсы патрэбны для Польшчы, каб утрымаць і ўмацаваць яе незалежнасьць і вялікадзяржаўнае становішча, „zasczepiając w ludność ideję państwową“. Як будзе zaszczepiać się гэтая ідэя і як будуць апекавацца няпрошаныя апякуны над крэсамі, паказывае хаця-б прамова пасла Бэрэзоўскага:

> „Калі Польшча цяпер зноў бярэцца за сваю місыю на ўсходзе, спатыкае на сваей дарозе нацыянальныя рухі украінскі і беларускі, якія, апіраючыся на этнаграфічнай абасобленасьці, сіляцца ўтварыць новыя народы: украінскі і беларускі. Польшча мае ня толькі права, але і абавазак барацьбы з гэтымі рухамі, бо народ ёсьць вытварам падзей, а цывілізацыйная праца Польшчы на Русі трывае некалькі соцень гадоў“.

*„Н. С.“*

# С пад Расіі.

## ПРАТЭСТЫ СУПРОЦЬ ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯЎ БЕЛАРУСАЎ ПАД ПОЛЬСКАЙ ОКУПАЦЫЯЙ.

Нечуваныя прасьледаваньні і зьдзекі беларусаў пад польскай окупацыяй, знайшлі адгалосак на ўсім абшары этнографічнае Беларусі. Па Радавай Беларусі пракацілася хваля сходаў і мітынгаў. На ўсіх сходах і мітынгах вынасілі пратэсты. Пратэставалі работнікі, воласьці, вучні, студэнты, вучыцялі, прафэсары і інш. Рэктар Беларускага Дзяржаўнага унівэрсытэту, праф. Пічэта гаварыў двохгадзінную прамову ў актавай салі Менскага Унівэрсытэту, перад 800 слухачамі, выказываючы сваё абураньне супроць польскіх зьдзекаў і што Польшча зьніштожыць беларускі народ пад сваей акупацыяй ня зможа, а што прасьледаваньні, як і ў XVII—XVIII ст.. давядуць да разбіцьця польскае дзяржавы. Сабраная на сходзе прафэсура і студэнты вынесьлі рэзолюцыю ў якой, пасьля многіх ніскіх паклонаў ў бок Масквы гаворыцца:

„Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, разьвярнуўшы сваю навуковую базу на мяжы двух сьветаў, зь'яднаў у сваіх сьценах болей трох тысяч студэнтаў розных нацыянальнасьцяў. Прафэсура і студэнцтва Бел. Дзярж. Унівэрсытэту з радасьцю і любоўю прыме ў сваю адзіную і дружную акадэмічную сям'ю ўсіх тых, хто воляй фашыцкай палітыкі польскага ўраду застанцца за бортам польскай вышэйшай школы. Дзьверы Беларускага Унівэрсытэту шырока адчынены для ўсіх тых, каго нацыяналістычная адзічэласьць кіруючых клясаў Польшчы адкідае ад навукі і веды“.

Канчаецца рэзалюцыя запросінамі пад Чырвоны сьцяг.

Па поваду гэтых пратэстаў, выходзячая ў Празе студэнцкая часопісь „Беларускі студэнт“ саўсім правільна робіць вывад:

„Бальшавікі ўзнімаюць шум не дзеля таго, каб памагчы Беларусам, што пад Польшчаю, але каб паказаць сваім Беларусам як нягодна жывецца іхнім братом у буржуазным гаспадарстве, і што значыцца яны ніхай будуць рады, што жывуць у камуністычным раі“:

Чаму-ж не пратэставалі тады, калі Іоффэ аддаваў заходнюю Беларусь Польшчы?

## XII КАНФЭРЭНЦЫЯ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.

Адбылася XII конфэрэнцыя камунітычнай партыі Беларусі. Баявым пытаньнем на канфэрэнцыі было пытаньне аб далучэньні да Савецкай Беларусі ўсей ўсходнай этнографічнай беларускай тэрыторыі і, асабліва, нацыянальнае пытаньне. Па першаму пункту прынята пастанова аб аб'еднаньні з Менскам Вітабскай і Гомельскай губ. Па другому пытаньню палеміка разьвінулася вельмі шырока. Кіруючыя прамовы мелі грамадзяне Чарвякоў і дэлэгат Ц. К. Р. К. П. Кержэнцев, якія прызналі, што нацыянальная праца і прапаганда на Беларусі павінны зьяўляцца чароднай задачай Ком. Парт. Беларуская мова і школа павінны стацца астояй адраджэньня беларускага народу і галоўнай заслонай дзеля асягненьня еднасьці гораду і вёскі, пролетарыяту і селянства. Трэба змагацца ня толькі супроць нацыянальнага шовінізму, але і супроць расійскага „вліkодержавія“.

Пастановы конфэрэнцыі па гэтаму пытаньню зьяўляюцца водгукам тэзісаў, адпраўленых Наркомц'ам Сталіным да XII зьезду Р. К. П. Падобныя пастановы вынесены так-сама 8-ой губпарткорфэрэнцыяй Кіеўшчыны VII Украінскай партыйнай Конфэрэнцыяй у Харкаве. Дамаганьне апошніх, гэта патрэба утварэньня ў сыстэме органаў вярхоўнага кіраўніцтва сувязі С. С. Р. асобнага органу, складзенага з прадстаўнікоў паасобных рэспублік на грунце роўнасьці. (Фэдэральная Рада. Конгрэсс.)

Характэрным для менскай і кіеўскай конфэрэнцый зьяуляецца прызнаньне, што ўся праца на роднай мове трапіла ў рукі не камуністаў, а ў рукі нацыянальных элемэнтаў. Гэтыя элемэнты карысталіся неабмежанай свабодай ў своей працы (?! не чуваць было. Рэд.) і яўна ўхілялі ўсю працу ў бок буржуазнага дэмократызму (прамова Чэрвякова) Кержэнцэў заклікаў да надзвычайнай шчырасьці ў нацыянальным пытаньні.

Як чутно дык старэньня аб злучэньні ўсей этнографічнай Беларусі робяцца з Менску ўжо даўно, але скутак з іх ніякі. У шасьці паветах меншчыны шмат крыку і рэклямы аб бальшавіцкіх дабрадзействах для Беларусаў, а 22 паветы „васька слушает да ест“. Магілеўшчына, Вітабшчына і Смаленшчына, дзе 80% беларускага жыхарства, далучаны да Масковіі і што там вядзецца па стараму русыфікацыя, аб гэтым, Камуністычнай Партыі Беларусі, Масква падыймаць пытаньня. не загадала.

# С пад Польшчы.

ПРАЦЭС 45-х БЕЛАРУСАЎ.

Пасля двохгадовых мук і зьдзекаў у польскіх турмах, 14 травеня г. г. ў Беластоцкім акружным судзе разьбіралася справа 45-х беларусаў вінавачаных у учасьці ў беларускай арганізацыі, меўшай на мэце, пры помачы аружнага паўстаньня, адбудаваньне незалежнай Беларускай Рэспублікі. Арганізацыя гэта была выкрыта ў пачатках 1922 году, дзякуючы таму, што ў склад яе увайшоў правакатар Ленкевіч. Абвінавачываліся гэткія асобы:

1. Вера Маслоўская, 2. Аўгэні Матэйчук, 3. Кастантын Матэйчук, 4. Андрэй Каляда, 5. Рыгор Каляда, 6. Рыгор Астроўскі, 7. Мацей Грычас, 8. Аляксандр Станкевіч, 9. Захар Леванень, 10. Карней Масальскі, 11. Аляксандар Андрэйсюк, 12, Антон Ядвасюк, 13. Клімусь Жамойдзь, 14. Александр Парук, 15. Казімір Вайткевіч, 16. Язэп Сахарчук, 17. Карней Купрыянюк, 18. Аляксей Тарасевіч, 19. Пётра Санчук, 20. Антось Лукашук, 21. Кузьма Бартасюк, 22. Кірыла Бартасюк, 23, Язэп Бушка, 24. Макар Васілюк, 25. Амільян Валасевіч, 26. Кузьма Трахімюк, 27. Адам Трыпуза, 28. Сьцяпан Жабінскі, 29. Зьмітра Стасюк, 30. Павал Шыманюк, 31. Язэп Шыманюк, 32. Андрэй Рошчанка, 33, Аляксей Нічыпарук, 34. Анісім Захарац, 35. Уладзімір Вапп, 36. Александр Назарук, 37. Аляксей Стасюк, 38. Сабасьцян Смык, 39. Сымон Мацеевіч, 40. Яўхім Іванюк, 41. Мікалай Вольф, 42. Тодар Крот. А кром гэтага двое паслоў польскага Сойму—Баран і Якавюк.

У склад суда ўходзілі: прадседацель Дыноўскі, пракурор—Камінскі, абаронцы — па ўгавору: Врублеўскі (Вільня), Бабянскі (Варшава) і Міцкевіч (Вільня), па назначэньню; Грушкевіч, Целяріус, Славінскі і Рэтынгер.

Польская прэса, а часьцю і акт абвінавачаньня, стараліся абярнуць ўсю гэту справу ў звычайны бандытызм, а прынамні зьвязаць палітычнае змаганьне з некаторымі бандыцкімі выступленьнямі, меўшымі ў той час месца на тэрыторыі окупаванай Беларусі. На судзе аднак выявілася, што Польшча зьдзекамі, прасьледаваньнямі нацыянальнага і палітычнага характару, рэквізыцыямі каланізацыяй беларускіх зямель польскімі прыходцамі, ў той час калі гэты землі не былі прызнаны за Польшчай, сама выклікала адпор сярод беларускага жыхарства і сама іх папхнула на шлях збройнага змаганьня.

З другой стараны урочыста прагалошанае ўсімі эўрапэйскімі дзяржавамі, перад аканчаньнем ўсесьветнай вайны, права ўсіх народаў на самаазначаньне і утварэньне ўласных дзяржаў, давала аснову Беларускаму Народу змагацца аружна са сваімі гвалтоўнікамі за незалежнасьць краю, які ніколі да Польшчы не належаў і які мае толькі нікчэмную польскую меншасьць (8—10%, паводле даваеннай польскай статыстыкі гл. „Atlas Statystyczny Polski Romera“). Абкіданьне грозёй бандытызму ахвярны парыў лепшых сыноў нацыі да паўстаньня за сваю незалежнасьць—гэта ўжо з раду вон выхадзячы польскі цынызм! Ці-ж не такімі самымі ахвярамі брутальнай сілы былі польскія паўстанцы?.

Суд прыгаварыў Мацкевіча на дажывотную турму, іншых ад 10 да 1 году турмы. Вера Маслоўская на 6 гадоў турмы, Александр Станкевіч, Жабінскі, Трыпуза, Аўгіяш Матэйчук, Гораш і пасол Баран на 5 гадоў турмы. Чатыры засуджаны на 1 год турмы, а 23 звольнены.

Чэсьць ахвярам меўшым адвагу змагацца за жыцьцё і правы свайго народу.

## СКОЛЬКІ КАШТУЕ ПАЛЯКАМ КАЛЁНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСІ.

У 1921 і 1922 г. дапамога, аказаная вайсковым асаднікам выражаецца гэткімі цыфрамі; у 1922 г.—300 мільёнаў мар., у 1922 г.—1 мільярд мар. (гэта тады, калі курс маркі польскай у 1921 г. быў у 150 разоў вышэй, як цяпер). Апрача таго выдана дрэва на адбудову 156.440 куб. мэтраў, дошчак і інш. 13.660 куб. мэтраў, дахоўкі—420,205 шт., цэглы—553.449 шт., гатовых будынкаў—289, удзелена дапамогі 69.263,427 мк. гатоўкаю і адрэмантавана 26 памешканьняў.

## ШУКАЛІ БОМБ І ДЫНАМІТУ.

19-га чэрвеня палітычная паліцыя зьявілася ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні і зрабіла агляд усяго памешканьня. Паліцыі быў зроблены данос, што там дзе жыў гр. Ан. Луцкевіч (цяпер там памяшчаецца Грамад. Сабр.) ёсьць падвал, у якім захаваны бомбы і дынаміт.

Праўда падвал нашлі, але замест бомбаў і дынаміту аказалася мяся і кухонныя прыклады, належучыя разам з падвалам да Польскага Клюбу Тахнікаў, які зьмяшчаецца побач з Белар. Грам. Сабраньнем.

## ЛЮДЗІ ЗАМЕСТ КОНЕЙ.

Пішуць са *Слонімск. пав.*, што робіць пастэрунак паліцыі ў мястэчку Молчадзь у гэтым павеце.

12 мая ў вёску Цетаўлі, Новамыскай вол., Баранавіцкага пав. прыехалі паліцыянты, шукаючы быццам сьсечанага бяспраўна дрэва. У грамадзяніна Лічкевіча знайшлі нейкае сьсечанае дрэва, якое ўзялі ды ўвалілі на воз. Дзеля таго, што коней не было, паліцыянты, чакаючы іх, загадалі даць сабе гарэлкі і, здорава выпіўшы, рашылі, што коні не патрэбны, бо дрэва могуць завесьці самі селяне.

Дык прыгналі колькі малалетак—Вінцэнта Марача, 10 гадоў. Антона Прыхода 14 гадоў, Захара Рамашку, 15 гадоў ды колькіх іншых яшчэ, *запраглі іх да возу з дровамі* і паехалі ў Молчадзь, якая ляжыць за 10 вярстоў, на пастэрунак паліцыі.

Калі гэтакі дзіўны воз ехаў міма аднэй хаты, дзе спраўлялі вясельле, моладзь гуляла ды сьмяялася. Пьяны паліцыянт пачуўшы сьмехі думаў, што гэта з яго сьмяюцца, уляцеў у хату кінуўся на маладую дзяўчыну Алёну Гаўдзей, пачаў яе біць і парваў ёй хустку і адзежу.

Калі стары Мацей Галец, якому ўжо 70 гадоў, зьвярнуў увагу паліцыянтау, што гэтак рабіць ня гожа, паліцыянт ударыў яго стрэльбай па галаве, у грудзі і ў сьпіну — стары ўпаў абліваючыся крывёй.

Пабачыўшы гэта дзеці і моладзь пачалі крычаць, на іхні крык зьбегліся людзі, і паліцыянт спалохаўшыся уцёк.

У вечары ў той самы дзень прыехалі ў Цешаўлі пяць паліцыянтаў, якія паднялі з ложка раннага, Мацея Гальца, пабілі яшчэ колькі мужчын з вёскі, арыштавалі Алёну Гаўдзей *за тое, што яна сьмяялася з паліцыі*, а старасту з вёскі Цешаўлі арыштавалі за тое, быццам ён бунтаваў людзей — і ўсіх павязлі ў вастрог у Слонім.

Гэтак вось дзеецца на вёсцы: да Бога высока, Да Сойму далёка; дык цярпі, бедны мужык, розны зьдзек і гвалт мясцовых панкоў і уранікаў.

(„Нар. Газ.“)

# У Латвіі.

## СХОД РАДЫ БЕЛАРУСКАГА АДДЗЕЛУ.

21-га, 22-га і 23-га красавіка у Дзьвінску адбыўся Зьезд Рады Беларускага Аддзелу, на якім разглядаліся бягучыя пытаньня Беларускае сярэдняе і пачатковае школы у Латвіі.

Заслуханы былі даклады:

1) Кіраўніка Аддзелу Б. С, П, Сахарава,—аб агульным становішчы беларускай прасьветнай працы ў Латвіі і аб бюджэце на 1922-24 вучомны год.

2) Намесьніка Кіраўніка Аддзелу. К. Б. Езавітава, аб становішчы беларускае пачатковае школы ў Латвіі;

3) Дырэктара Дзьвінскае Беларускае Гімназыі, І. І. Краскоўскага, —аб працы гэтае гімназіі,

4) Дырэктара Люцынскае Беларускае Гімназыі, К. Б. Езавітава,—аб Гімназыі у Люцыне;

5) Кіраўніка Дзьвінскіх Вучыцельскіх Курсаў, А. Л, Якубецкага,—аб працы курсаў;

6) Кіраўніка Сельска - Гаспадарскае школы, Вучонага агранома Ф. Абеля,—аб становішчы гэтае школы.

У наступаючым гаду пастаноўлена утварыць шэраг вучыцельскіх курсаў:

а) па беларусазнаўству,

б) латышскай мовы,

в) фізычнага выхаваньня, і

г) курсы для практыкантаў.

Кіраўніцтва Курсамі ўзложана на В. Пігулеўскага.

На зьездзе прымалі удзел прадстаўнікі Аддзелаў Т-ва „Бацькаўшчына“ і Павятовых Сэкцыяў беларускага вучыцельства.

## 2-я УРАДОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ.

Люцын. 26. IV 23.

Прыватная Гімназія Т-ва „Бацькаўшчына“ у Люцыне, па просьбе Школьнае Рады Гімназіі і Праўленьня Т-ва, перарабляецца з пачатку 1923-24 вучомнага году ў урадовую.

Дырэктарам Гімназіі, з 1-га красавіка 1923 году, назначан былў Інспэктар Пачатковых Беларускіх Школ у Латвіі, гр. Кастантын Езавітаў,

## ШТАНДАР БЕЛАРУСКІМ СКАЎТАМ

Дзьвінск. 25 IV 23.

Пры 1-й Беларускай Урадовай Дзьвінскай Гімназіі залажыўся Скаўтскі Атрад, які працуе ўжо з восені.

23 красавіка, у дзень Св. Юрья пакравіцеля Скаутаў, прадстаўнікі Беларускага Атраду прынялі ўдзел у Агульна-Латвійскім Скаўтскім Парадзе, які адбыўся у Рызе.

На гэтым парадзе Прэзыдэнт Латвійскай Рэспублікі перадаў Беларускаму Дзьвінскаму Атраду Скаўтскі Штандар.

Штандар белы, з залатым шыцьцём, якім адзначаны № атраду (ва ўселатвійскім маштабе № 45), а таксама—гэрб скаўтаў. У верхнім куце штандара зьмешчаны маленькі латвійскі флаг, а над ім нашчыты шчыт беларускіх нацыянальных коляраў, на якім вышыты блакітны васілек.

24 красавіка Штандар быў прывезены ў Дзьвінск і спатканы усім Атрадам на вакзале, затым а 2 гадзіне таго-ж дня, штандар быў перанесены ў залю Гімназіі, дзе адбыўся кароткі скаўтскі парад.

З прамовамі да скаўтаў выступалі Кіраўнік Беларускага Аддзелу—С. П. Сахараў, Дырэктар Дзьвінскай Беларускай Гімназіі—І. І. Краскоўскі і Дырэктар Люцынскай Гімназіі—К. Б. Езавітаў.

# У Літве.

## КУРСЫ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА.

Пры Міністэрстве Беларускіх Спраў ад 10.IV. да 19.V. адбываліся курсы Беларусаведаньня. Усяго было 35 дзён працы. Лекцыі чыталіся што дня па 3 гадзіны: ад 5-тай да 8-май вечара. Лектарамі былі К. Дуж-Душэўскі, В. Ластоўскі і М. Сафронаў. Кіраўнікам курсаў быў К. Дуж-Душэўскі.

Праграма імкнулася азнаёміць слухачоў з гісторыяй, геаграфіяй і літэратурай беларускай, а таксама выкладаліся беларуская граматыка і літоўская мова. Слухачоў прынята было на курсы 44 душ: беларусаў 33, літвіноў 4, расійцаў 5, палякоў 1, без акрэсьлэньня нацыянальнасьці 1. Мужчын 23, кабет 21. Большасьць слухачоў—сярэдняя інтэлігенцыя: вычыцялі, чыноўнікі, вучні:

Ход курсаў рабіў прыемнае ўражаньне: слухачы з павагай працавалі і з цікавасьцю сачылі за ўсімі лекцыямі.

## ВЫСТУПЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ЖАНОЧАГА ГУРТКА.

Беларускі жаночы гурток у Літве выслаў тэлеграму на ўсесьветны жаночы кангрэс у Рыме пратэстуючы супроць польскіх гвалтаў над Беларусамі ў Віленшчыне і Горадзеншчыне.

## ВЫСТАЎКА БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ.

У памешканьні Міністэрства Беларускіх спраў у гадаўшчыну апавешчаньня Незалежнасьці Беларусі была уладжана выстаўка беларускага друку. Выстаўка мела аддзелы: старадрукі, папулярна-навуковы і школьны аддзел, аддзел рэлігійных друкаў, паэзыя і бэлетрыстыка, пэрыёдычныя друкі і часопісі, агітацыйная літэратура, сцэнічныя творы і беларуская песьня, літэратура аб Беларусі. Выстаўка займала 3 сьвятліцы, экспанатаў было звыж 1.000 нумараў. Асаблівую увагу зьвярталі старыя, па беларуску пісаныя, граматы на пэргаманце, тры з якіх мелі подпісы караля Жыгімонта-Аўгуста, адна, пісаная канстантынопальскім патрыярхам Ерэміем у 1582 годзе, мела подпіс патрыярха па грэцку; факсыміле аўтографа княгіні Ульяны вітэбскай Ольгердовай і мн. інш. Выстаўка ўладжана была пераважна кнігазбору В. Ластоўскага па ініцыатыве А. Цьвікевіча, працай В. Ластоўкага і У. Прокулевіча. Выстаўка выклікала зацікаўленьне літоўскага грамадзянства, асабліва культурных працаўнікоў як то: прафэсуры Літоўскага Унівэрсытэту, культурных установ і літэратурных асоцыяцый. Часьць экспанатаў далі на выстаўку праф. Вольтэр, грам. М. Біржышка і Ковенскі Местовы Музэй.

## БЕЛАРУСКІ ВЕЧАР.

Беларускі Жаночы гурток уладзіў дабрачынны вечар, на карысьць беларускіх дзіцячых прытулкаў. Вечар даў чыстага зыску звыж 1.000 літаў.

### МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

1-га ліпеня сфармаваўся новы літоўскі кабінэт міністраў. Выпаўнячым абавязкі міністра беларускіх спраў часова, да назначэньня адпаведнага кандыдата з ліку беларускіх дзеячоў, прыняў на сябе міністр-прэзыдэнт і міністр заграпічных спраў Э. Гальванаўскас.

# З усіх старон.

## Чэхаславакія.

### ПЕРАВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЫУМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЫ.

Ў Празе былі 6-га мая. Старшынёю большасьцю галасоў выбран грам. Мікола Вяршынін. Іншыя 4 сябры Прэзыдыума выбраны парытэтна 2. Хв. Клаўсуць, П. Астапкевіч, ад Беларускае Студэнцкае Сэкцыі пры Грамадзе і 2, Верамей і Т. Грыб ад Аб,яднаньня.

Кандыдатамі выбраны А. Шах (Студ. Сэкцыя) і Лембовіч (Аб'яднаньне).

Прэзыдыум сам выбраў віцэ-старшынёю М. Верамея, пісарам Хв. Клаўсуця, скарбнікам Т. Грыба і адміністратарам Астапкевіча.

### ПРАТЭСТ ПРОЦІ ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯ ПРАВАСЛАЎНАГА ДУХАВЕНСТВА.

Сход беларускіх студэнтаў у Празе, склікаяы ініцыятыўнаю групаю, пастанавіў:

1) На прапанаваньне Беларускаму Студэнцтву ў Празе маскальскае студэнцкае арганізацыі ОРЭСО супольнага з імі пратэставаньня проці прасьледаваньня бальшавікамі патрыярха Ціхана адказаць гэткае: „Дзеля таго, што прадстаўнікі ОРЭСО на Усеславянскім кангрэсе 17/XII. 1922 заявілі, што яны не прызнаюць Беларусаў за асобны народ, беларускія студэнты не знаходзяць магчымым рабіць якія небудзь супольныя з ОРЭСО выступленьні.

2) Протэставаць проці прасьледаваньня патр. Ціхана гэткай рэзалюцыяй:

Сход беларускіх студэнтаў констатуе, што беларускі народ, а ў той лічбе й беларускія студэнты, дамагаюцца аўтокефаліі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, аднак, бачачы ў зьдзеках бальшавікоў над патрыярхам Ціханам найярчэйшы факт прасьледаваньня бальшавікамі праваслаўнага духавенства нагул, катэгорычна проці гэтага п р о т э с т у е.

Рэзалюцыя прынята ўсімі галасамі, толькі адзін галасаваў прынцыпіяльна проці.

Старшынёю сходу быў М. Басевіч, пісарам Пл. Латышонак, паміж студэнтамі, якія прынялі рэзалюцыю, былі праваслаўныя й каталікі.

### РЭФЭРАТ С. ОЛЕСІУКА.

17 красавіка Украінец студэнт Олесіук прачытаў рэфэрат на тэму Беларуская проблема а Украіна. Рэфэрэнт вельмі добра арыентуецца ў беларускіх справах і прадставіў выразіста значэньне беларускага руху і будучага Незалежнага Беларускага Гаспадарства для Украіны і наадварот; будучыя адносіны двох незалежных народаў С. Олесіук прадстаўляе як абаронны саюз, а не як фэдэрацыю, пры якой ня можа быць узаемнае прызьні, бо дужэйшы захоча выкарыстаць слабейшага. Беларусь важна для Украіны яшчэ тым, што толькі праз Незалежную Беларусь Украіна можа увайсьці ў зносіны з Балтыцкімі гаспадарствамі. Дзеля гэтага Украінцам вельмі важны добрыя адносіны Беларусі з Літвой. Без Беларусі немагчыма ўтварыць Балтыцка-Чорнаморскага сьцягу ўзаемна зацікаўленых гаспадарстваў.

Выясьніўшы ўзаемную зацікаўленасьць рэфэрэнт заклікаў да ўзаемнага пазнаньня і супрацоўніцтва. Рэфэрат быў выслуханы з вялікім зацікаўленьнем беларускімі і украінскімі студэнтамі.—

---

## Беларусы у Амэрыцы.

### ІРЛЯНДЦЫ СПАГАДАЮЦЬ БЕЛАРУСАМ.

Беларускі Камітэт у Чыкаго навязаў добрыя адносіны з ірляндзкімі арганізацыямі ў Чыкаго, якія вельмі пачалі спагадаць беларускаму руху. Дзякуючы гэтаму беларусам безграшова адпускаецца памешканьне на сходы, лекцыі і канцэрты. Надзвычай добра да беларусаў адносяцца прыхільнікі ў Амэрыцы дэ Валеры.

### АБЬЕДНАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ І ЎКРАІНЦАЎ.

Паміж беларускімі і украінскімі дзеячамі вядуцца цяпер перагаворы аб супольнай грамадзка-палітычнай працы ў Амэрыцы ў барадзьбе за незалежнасьць. Дзеля гэтай справы з Чыкаго выехаў у Нью-Іорк і Філядэльфію Старшыня Беларускага Камітэту ў Чыкаго грам. Я Чарапук. Да Саюза Беларуска-Украінскага робяцца стараньня прыцягнуць і літоўцаў. Калі справа аб'еднаньня беларус

ка-украінска-літоўскага адбудзецца, дык гэта будзе мець вялікае палітычнае значэньне за граніцай, а асабліва ў Амэрыцы, Украінцы з Канады таксама маюць намер прылучыцца. У хуткім часе мае прыехаць у гэтай справе вядомы ўкраінскі дзеяч да Чыкага Др. Назарук, які будзе вясьці перагаворы з беларусамі.

### КАНГРЭС БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ.

На 1-шага верасьня г. г. у Чыкаго склікаецца Кангрэс беларускай эміграцыі.

За ўсімі спраўкамі зварочвацца: 1632 N. Robeystr Chicago, Ill. Ms. Michaylowsky.

„Б. Д.“.

### БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ у АМЭРЫЦЫ.

Амэрыканскі камітэт даводзіць да ведама, што ён трымае самую цесную сувязь з беларускімі грамадзкімі арганізацыямі, як у Беларусі пад Польшчай, так і ў Савецкай Беларусі, дзеля гэтага Камітэт вельмі ахвотна будзе даваць ўсе весткі адносна агульнага становішча нашай далёкай Бацькаўшчыны. Беларусы з другіх гарадоў так сама могуць зьвяртацца ў Камітэт з просьбай аб дапамозе ў наладжаньні лекцыяў, сходаў і мітынгаў. У склад Камітэту ўваходзяць вядомыя грамадзянскія дзеячы, якія могуць прыехаць і прачытаць рад лекцыяў а Беларусі.

Даводзіцца да ведама, што камітэт атрымаў з Бацькаўшчыны многа літэратуры пабеларускаму пытаньню—асобы зацікаўленыя нашай агульнай дарагой справай могуць яе атрымаць.

Беларусы, ўсе другія нацыі ўжо аб'ядналіся, мы ж яшчэ не, пачнем жа і мы, як і нашы браты там у старой айчыне арганізовывацца і памагаць ім у іх змаганьні за лепшую будучыну.

Місія Д-ра Нансэна помачы галодным ў Маскоўшчыне, Украіне і Беларусі запрапанавала Беларускаму Камітэту ў Чыкаго ўзяць прадстаўніцтва на перасылку з Чыкаго пасылак у Радавую Беларусь.

Адрэс Беларускага Камітэту ў Амэрыцы: Whitarussian Kommitee 1632 N. Robeijstr. U. S. of America. Chicago H.

## Выступленьне В. Ластоўскага з Ураду Бел. Нар. Рэспублікі.

Выбраны, 14 сьнежня 1919 году, Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, Старшынёю Рады Народных Міністраў, грам. В. Ластоўскі, 20 красавіка 1923 году вышаў са складу Ураду, злажыўшы ніжэйпададзенае пісьмо Маршалку Рады Б. Н. Р. грам. Крэчэўскаму:

ЯГО ДАСТОЙНАСЬЦІ

Пану Маршалку Прэзыдыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Высокапаважаны Петр Антонавіч!

Пры істнуючых ўзаемаадносінах далейшую працу лічу для сябе немагчымай, а дзеля гэтага прашу Вас, ад сягоняшняй даты, лічыць мяне выбыўшым са складу Дзяржаўнай Калегіі.

Прыміце запэўненьне ў належнай да Вас пашане і прыхільнасьці

В. Ластоўскі.

Маршалкам Прэзыдыума Рады Б. Н. Р. гр. П. Крэчэўскім назначан выпаўняць абавязкі Старшыні Рады Міністраў грам. Александр Цьвікевіч, які за кароткі час свайго урадаваньня здолеў давясьці справу ледзь не да разрыву з Літоўскім Урадам, а цяпер, паводле слоў яго, зьбіраецца „хараніць Ластоўскага по первому разряду“.

## Тэрміналёгія да анатоміі і фізыялёгіі.

*(Друкуецца ў парадку дыскусыйным).*

Кислородъ — кісьлік.
Кислота — кісладзь.
Углекислота — воглякісь.
Углекислый газъ — воглякісісты газ.
Углеводъ — воглявод.
Углеродъ — воглік.
Сыворотка — сыраватка.
Свертываніе — сьцінаньнеся (сьцялася кроў у жылах; яйцо сьцялося, але: малако сьселася)
Малокровіе — недакровіца.
Растворитель — расчыннік.
Растворъ — расчына.
Растворать — расчыняць (соль у вадзе, муку на хлеб).
Столбнякъ — (хвароба: tetanus), Сутарга.
Моровое повѣтріе — паморак, мор, маровае паветра.
Жидкость — цекладзь, цякомы, цякоміна.
Пленка — плеўка.
Оболочка — абалонка.
Перепонка — балона.
Язва — *на дрэве* ад прагніўшага сука, ці разшчэпу — шчалуга; на целе — рана; на сьвеце шырыцца паморак, мор, наслань.
Заразный — заразьлівы; так сама як: кусьлівы, дабратлівы, мігатлівы і інш.
Гнойникъ — ропнік.
Гной — глюз, заглюзлыя вочы; ропа.
Кипящая вода — кіпень, кіпячая вада.
Вѣсы — вагі.
Разновѣсы — важкі.
Питаніе — насытнасьць. стравунак (Грошы на стравунак).
Питательный — насытны, сытны.
Питать — сыціць.
Предметъ — знадбень, аб'ект.

А вы злотнічкі, вы малодчыкі,
А зрабіце мне тры надобейкі:
Перша надобейка — пэрлоў вянец,
Другі надобейка — залаты персьцень.
Трэці надобейка — залаты кубак.
(Вясельня песьня. Ашянск. пав.).
У гаспадарцы пень і то знадбень.
(Прыказка, Чэрык П.).

Пищевой — страўнічны.
Пищевой балансъ — страўнічны балянс.
Жиръ — (заячій жиръ — скром, птичій — шмэляц, коровій, бараній — лой, свинной — сала, рыбій—тук, человѣчій—клушч). Тлустасьць — полёнізм, — па нашаму—клушч, клусты, клусьцець. Тук — внутренній жиръ для заправы пищи; жировая приправа: „затаўка“.
Жировая ткань — клушчавая тканка.
Жировая клѣтка — клушчавая клетка.
Жирный супъ — клустая поліўка, страва.
Жировое вещество — клушчавая матэрыя.
Прямая кишка — шкалада.
Пищеводъ — стравапраход.
Ротъ — губа.
Ротовая полость — губная падзь.
Испраженія — выспарожыны, выспаражацца, выспарожыўся; кал.
Поносъ — Лякса, ляксаваць.
Глотка — глотка, глонаўка.
Гортань — гортаўка.
Тощая кишка — шлунка.
Луночка — лумка, лумінка, ямка.
Пластинка — пластка.
Выводной протокъ — вывадны праток.
Осложненіе — камплікацыя.
Соляная кислота — сольная (хлорная) кісладзь.

Желчный — жоўчны.
Дѣйствуетъ — ўплывае або дзеіць.
Всасываніе кишечника — ўсмактываньне кішэчніка.
Сосочек — у расьцін — пляніца; на грудзёх — музік, сойчык.
Ворсинки на кишечной стѣнкѣ — пыхцікі.
Брыжейка — кавісма.
Брушина — брухавіна.
Пищевые продукты — настраўныя прадукты.
Волна — валва:

Быстрая рэчанька валвой бьець,
Матухна Настульку з вянца жджэць.

Нар. песьня.

Селезенка — салозаўка.
Печень — печань.
Почки — ныркі.
Почечный — ырачны.
Моча — моча.
Мочеточникъ — мачацёк, посік.
Мочевой пузырь — мачавы пузыр.
Угорь — (на абліччы) пухір.
Воспаленіе — запаленьне, запальны.
Почечная лоханка — ныркова шуплянка, шуплавіна.
Корковый слой — скарупісты слой.
Петля — пятля.
Отбросы — адкідзьдзя, адпадьдзя, адпадкі.
Гореніе — горыва, гарэньне.
Сопровождать — спраподзіць, праводзіць.
Возстановленіе — адытвораньне, узстаноўленьне.
Горючій матеріалъ — гаручы матэрьял.
Членъ (тѣла) — чэляс, чэлясы.
Суставъ — сустаў.
Рычагъ — пры студні, ці сьвірне — асьвер; дом, або камень падважваюць — вагой; вертак пакручваюць да ветру — Багляй, зьменяюць ход машыны — Касаргой.

Точка приложенія силы — пункт апору сілы.
Пещера — пячэра.
Прокалить — прапаліць.
Хрупкій — крохкі.
Швы — сошвы.
Подвижность — рухавасьць.
Связка — повлзка, кітка; вязанка.
Тазь — лага.
Тазобедренный — лагаклубісты.
Окончаніе нервовъ — канчавіны нэрваў.
Сокращеніе мускуловъ—скорча мускулаў.
Раздражать — (нэрв) раздражняць.
Раздраженіе — раздражненьне.
Обусловливать — абварункоўваць, варункаваць.
Прикосновеніе — дотык.
Чувствующая поверхность— човістая паверхня.
Чувствительная — чоўкая.
Чувство — чоў.
Чувственный — човесны.
Двигательный — паруховы.
Ощущеніе — пачоў.
Островъ — востраў, астравок.
Участокъ — (кожи) — вобмежак.
Борозда — разора, разорысты; служыць у разоры.
Продолговатый — падаўгаваты.
Утолщеніе — патоўшчаньне, стоўсьць, стоўсьцень.
Мозжечек — мажджок.
Четыреххолміе — (въ мозгу) — чатыргорбіца.
Крестообразно — крыжавата.
Скопленіе — зграмаджаньне.
Затылочная — (кость) — патылічная косьць.
Развитой — (мозгъ) — развіты.
Обоняніе — павохнасьць, вохшыць.
Обонятельные нервы — павохныя нэрвы.
Зрительные (нервы, бугры) — зрочныя нервы, горбіцы, гурбкі.
Зрѣніе — зрок.
Лицевые нервы — натварныя нэрвы.
Слухъ — слух.

Слуховые нервы — слуховыя нэрвы.
Блуждающіе нервы — блуклівыя нэрвы.
Познаніе — умеласьць.
Удаленіе — (мозга, отбросовъ) — вызняцьце.
Ненормальность — ненармальнасьць.
Поступокъ — паступак, учынак.
Наблюденіе — нагляд, дагляд; датроплівасьць.
Совпаденіе — зыходжаньне.
Мѣха — (въ кузницѣ) — мяхи, паддувалы.
Подражать — патвараць, патворчае мастацтва, патворшчык, потварка (поддѣлка).
Цѣлесообразный — дастамэтны.
Осмысленно — сэнсоўна.
Безсознательно — несьвядома.
Сознательно отношеніе — сьвядомая дачыннасьць.
Зрачокь — зенка, зрэнка.
Чыхаць — чхаць, порскаць.
Неправильныя движенія — неправядныя рухі.
Манежъ — майдан.
Сознаніе — сьвядомасьць, прытомнасьць.
Воля — воля.
Тупоумный — тупавумны (бо „розум“ роз-ум).
Понятливость — панятлівасьць.
Перерождаться — перэраджацца .
Уединеніе — адзінота, на адзіноце, адзінотна.
Равнодушіе — роўнадушнасьць.
Умственныя занятія — умысловая праца.
Недоразвитіе мозга — недаразьвіцьцё.
Умственная одаренность — умысловая здольнасьць.
Извилины мозга — мазгавыя скруты, вызгібы.
Оступаться — спаткнуцца, спаткнацца спаткнуўся.
Кровоизліяніе — краваток у мазгі, у брушную падзіну; кровазьліў.
Кровотеченіе — краваток.
Разучиться — адвучыцца.
Засореніе (живота, железъ) — замуленьне жывата, залозы.
Ушибъ (калена) — садно, ссадзіна ссадануў — ся
Покраснѣніе — пачырвеньне.
Выдѣлѣнія желез — выдзеліны залозаў.
Возбужденіе — уздойм, уздоймна.
Зрительный нервъ — зрочны нэрв.
Осязаніе — нашчуп, нашчупам, нашчупаць; вошчуп, вошчупам, вошчупью.
Края языка — наўскраіны языка
Противополагать — проціўставіць.
Прохладный — прахonісты, прахалодлівы.
Прохлада — пахон, прахалода.
Вкусовыя нервы — смачавыя нэрвы,
Очертаніе — абрыс.
Складки — зборкі.
Раковіна — чарупка.
Чутье — чуцьцё.
Равномѣрно — роўнастайна.
Ряб на водѣ — таласа, талосіцца.
Разрѣженный воздухъ — разрэджанае паветра.
Звучащее тѣло — голсчастае цела.
Высота звука — вышыня голсу, галсчыць.
Звуковое явленіе — галсавая праява.
Вспученцый животъ — ўздуты жывот
Низкій звук — ніскі голск.
Тембрь голоса — тэмбр голасу
Сочетаніе звуковъ — созгалас
Воспроизводить — адтвараць.
Происхожденіе — паходжаньне.
Ушная раковина — вушная чарупа.
Овальная форма — авальная форма.
Насморк — катар.

Прихотливый — прыхоцьлівы.
Преддверіе — наўздверье.
Улитка — смоўж
Пространство — прастор.
Двояковогнутое — дваякаўкляслае
Довяковыпуклое — дваякавыпуклае.
Преломляются лучи—пралamляюца прамені.
Глазная впадина — вачавая падзь.
Основная кость — астойная косьць.
Сѣтчатка — сетчатка.
Сосудистая оболочка — начынiстая абалонка.
Свѣтовое раздраженіе — сьветлавое падражненьне.
Линять — сьвянуць блекнуць.
Обмѣнъ веществъ — абмен матэрый.

Телесность — целавітасьць.
Снабженіе піщей — узасобленьне жыўнасьцю.
Драхлось — друзласьць.
Питомникъ — саднік.
Бодрый — бодры.
Недомоганіе — недамаганьне, няўздольле.
Отправленія организма — функцыі арганізму.
Излишество — сызлішыца.
Извращеніе — вызварат.
Доброкачественный — добраяказлівы.
Остроумный — дасьціпны.
Находчивы — дасьцейны.
Походка — поступ, пахадзь.
Самочувствіе — самапачуцьцё.

*В. Л.*

# Бібліаграфія.

Тарас Гушча (Якуб Колас). У Палескай глушы. Віленскае Выдавецтва Б. А. Клецкіна. Вільня 1923 г. (185 стар.).

„У палескай глушы“ апавяданьне з жыцьця беларускай вясковай інтэлігэнцыі да часаў першай рэвалюцыі 1905 г. Аўтор ярка малюе жыцьцё гэтай „узгадаванай на катэхізісу Філарэта і нашпігованай начынкаю ў духу „веры, царя и отечества“—інтэлігэнцыі, якая будучы адарванай ад крыніц народнага жыцьця, або заставалася вернай казеённым прынцыпам, або зпускалася на дно і зацягівалася балотам. Але усё-ж ткі была і болей дзейная часьціна інтэлігэнцыі, якая хоць вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць корань рэчаў. Прадстаўніком такой інтэлегенцыі і зьяўляецца галоўны герой апавяданьня малады вучыцель Лабановіч. Аўтор відаць добра знае быт вясковай інтэлігэнцыі і ўсей душой адчувае і разумее жыцьцё беларускай вёскі. Перад вачыма захопленага чытача ярка выступаюць умела намалёваныя тыпы жывыя характэрныя сцэны, як з жыцьця вясковай інтэлігэнцыі, так і паляшукоў. Прыгожыя вобразы нашага Палесься, гэтага „Зачараванага краю“ у мастацкім апісаньні Тр. Гушчы яшчэ болей ажыўляюць і без таго цікавы зьмест кнігі.

Кніга выдадзена прыгожа і акуратна, як і ўсе кнігі выдавецтва Б. Клецкіна. „У Палескай глушы“ як зьместам так і зьнешнім выглядам будзець багатым укладам у беларускую літэратуру і прыемный аздобай для кождай бібліатэкі.

*Г... к,*

КАЗКІ ГАНС—ХРЫСТЫЯН АНДЭРСЭН

вышлі у сьвет пад Рэдакцыяй Власта. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна. У акладцы. Зьмест: Салавей. Брыдкае качане. Сон. Маці. Каралеўская вопратка. Якая-ж тут сумлеўка. Гордая іголка. Пяро і каламар. Куфар самалёт. Казкі выданы на добрай паперы фарматам 4⁰ 64 странічкі. Як па мове, так і па зьнешнему выгляду „казкі“ робяць дужа добрае ўражаньне.

СЬПЕВАК БЛОНДЭЛЬ.

Англіцкая легенда. Пераклад В Л. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літы. 16 стр. 8⁰ у акладцы Кніжачка да цыклю маючага злажыць бібліатэчку для дзяцей школьнага ўзросту.

С. К а ш ч а н а. А д с т а я ў (апаведаньне). Беласток, Друкарня Сполка. 8⁰ 22 стр. браш. С. К—а. Д а г а д а ў с я (апаведаньне). 8⁰ 15 стр. браш.